ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕС

# САВЕЦКАЯ КРАІНА



ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА ПРЫ БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

ВЕНЬ

0
-6
(20)

1932

# ЗЬМЕСТ

*Стар.*

1. Пра мерапрыемствы для разгортваньня краязнаўчага руху. Пастанова Савету народных камісараў БССР . . . 3
2. **В. Серафімаў**— Пастанова ўраду аб краязнаўстве—у масы . . 5
3. **В. Самцэвіч**—За бальшавіцкае правядзеньне ўборачнай кампаніі . 8
4. **П. Горын**—Аб савецкім і колгасным гандлі . . . 11
5. **Уладзімір Гесэн**—Барацьба сялянства на Беларусі напярэдадні 19 лютага 1861 г. . . . 16
6. **І. Гершэнбаўм**—Яўрэйскую навуковую работу на вышэйшую ступень 35
7. **А. Сяргееў**—Да пытаньня племработы з чырвона-беларускай жывёлай 47
8. **О. Шульман**—Організацыя работы ў колгасе „МОПР" Віцебскага раёну 60
9. **Мікалай Войтка**—Сілай колектыву . . . 66
10. **В. Скардзіс, К. Кернажыцкі**—Супроць буржуазнага „об'ектывізму" ў гісторыі Беларусі . . . 76


## Офіцыйны аддзел

За бальшавіцкую гісторыю грамадзянскай вайны . . . 80
Догавар на соцспаборніцтва паміж ЦБК БССР і ЦБК Грузіі . . 81
Рэзолюцыя па дакладу т. Пінкевіча „Задачы краязнаўчых організацый у вывучэньньні прыродных рэсурсаў СССР" . . . 82
Рэзолюцыя па дакладу т. Тэтэра „Задачы краязнаўчых організацый у галіне ўзмацненьня абароназдольнасьці краіны" . . . 83
Задачы краязнаўцаў у будаўніцтве другой мэталюргічнай базы СССР . 84
Рэзолюцыя па дакладу т. Канчэева „Політычныя задачы бягучага моманту і краязнаўства" . . . 86
Пастанова прэзыдыуму Комакадэміі СССР па дакладу М. В. Крыленка аб рабоце т-ва краязнаўцаў-марксыстаў (ТКРАМ) і становішча на краязнаўчым фронце . . . 89
Рэзолюцыя XI пленуму ЦБК 25/28 сакавіка 1932 г. па дакладу т. Сегаля „Другая пяцігодка соцыялістычнага будаўніцтва і задачы краязнаўчых організацый" . . . 92


## Хроніка

Работа масавага сэктару БАН за студзень-чэрвень 1932 г. . . 95
Работа ЦБК за студзень-чэрвень 1932 г. . . 96
Чырвона-штандартны завод „Чырвоны мэталіст" . . 98
Выяўляем мінэральную сыравіну ў Барысаўскім раёне . . 99
Консультацыі, адказы, парады . . . 100
Дэкаднік БАН у Койданаўскім раёне . . 100
У інстытутах і сэктарох БАН . . . 101
Соцспаборніцтва ў краязнаўчых організацыях на вышэйшую ступень . 102
Раённаму бюро краязнаўства . . . 103
Кароткая інструкцыя па загатоўцы і зборы вадаростаў . . . 103

*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!*



# САВЕЦКАЯ КРАІНА

ШТОМЕСЯЧНЫ ОРГАН

ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА

ПРЫ

БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

ГОД ВЫДАНЬНЯ ТРЭЦІ

ЧЭРВЕНЬ

№ 6 (20)



МЕНСК — 1932

# Пра мерапрыемствы для разгортваньня краязнаўчага руху

## Пастанова Савету Народных Камісараў БССР

Пасьпяховае выкананьне пляну соцыялістычнага будаўніцтва ў 4-м заключным годзе 1-й пяцігодкі і вырашэньне вялізарнейшых задач 2-й пяцігодкі і паскарэньне тэмпаў пабудовы соцыялізму патрабуюць максымальнага разгортваньня масавай навукова-дасьледчай працы і ўцягненьня ў гэтую працу праз краязнаўчыя організацыі шырокіх мас працоўных.

Адзначаючы, што Цэнтральнае бюро краязнаўства і мясцовыя краязнаўчыя організацыі ня справіліся з пастаўленымі перад імі задачамі і ня здолелі ўцягнуць у краязнаўчую працу шырокія працоўныя масы, Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Прапанаваць Цэнтральнаму бюро краязнаўства і мясцовым краязнаўчым організацыям перабудаваць усю работу краязнаўчых організацый у кірунку поўнага падпарадкаваньня ўсяе краязнаўчае работы конкрэтным плянам соцыялістычнага будаўніцтва кожнага раёну, прадпрыемства, савгасу, колгасу і інтарэсам абароназдольнасьці краіны.

2. Паставіць галоўнай задачай краязнаўчых організацый разгортваньне масавай работы па ўцягненьню ў краязнаўчую работу працоўных мас, комсамолу, т-ва пролетарскага турызму і экскурсій, чырвонаармейцаў, студэнцтва, вучняў, вынаходцаў, рацыяналізатараў праз масавыя краязнаўчыя ячэйкі пры заводах, фабрыках, МТС, савгасах, колгасах, ВНУ і ВТНУ і школах.

3. Устанавіць наступную сыстэму краязнаўчых організацый у БССР:

а) краязнаўчыя ячэйкі, як асноўныя першапачатковыя дасьледчыя організацыі на прадпрыемствах, МТС, савгасах, колгасах, пры гаспадарчых установах, ВНУ і ВТНУ, тэхнікумах і школах;

б) раённыя бюро краязнаўства пры раённых выканаўчых камітэтах і гарадзкіх саветах, выбраныя на раённых конфэрэнцыях па краязнаўству;

в) Цэнтральнае бюро краязнаўства пры Беларускай Акадэміі Навук, выбранае краязнаўчай конфэрэнцыяй БССР.

4. Абавязаць Цэнтральнае бюро краязнаўства і раённыя выканаўчыя камітэты забясьпечыць сыстэматычнае разгортваньне

краязнаўчай работы, падпарадкаваўшы апошнюю чарговым задачам соцыялістычнага будаўніцтва і наладзіўшы належнае кіраўніцтва гэтай работай.

5. Прапанаваць раённым выканаўчым камітэтам аказваць матар'яльную дапамогу краязнаўчым організацыям у разгортваньні краязнаўчай работы (організацыя досьледаў, экспэдыцый, выданьне раённых краязнаўчых зборнікаў і інш.).

6. Даручыць Акадэміі Навук і Камісарыяту Асьветы пры складаньні пляну 2-й пяцігодкі прадугледзець адпаведныя мерапрыемствы для далейшага разгортваньня краязнаўчых работ; аказваць мэтодычную і інструкцыйную дапамогу ў разгортваньні сеткі краязнаўчых музэяў, бібліотэк і інш.

7. Адзначаючы, што навукова-дасьледчыя ўстановы не зварочваюць дастатковай увагі на разгортваньне краязнаўчага руху, абавязаць навукова-дасьледчыя ўстановы БССР увязаць сваю работу з работай краязнаўчых організацый і вызначыць для апошніх конкрэтныя заданьні, аказваючы мэтодычную і інструкцыйную дапамогу.

8. Даручыць Народнаму Камісарыяту Асьветы і Цэнтральнаму бюро краязнаўства забясьпечыць разгортваньне краязнаўчай работы ў школах, забясьпечыўшы хутчэйшае выданьне краязнаўчых дапаможнікаў для школ, організацыю краязнаўчай работы асьветнікаў праз курсы, конфэрэнцыі і выкладаньне мэтодыкі краязнаўства ў пэдагогічных установах.

9. Даручыць Беларускай Акадэміі Навук і Дзяржаўнаму Выдавецтву Беларусі організаваць выданьне навукова-популярнай і мэтодычнай краязнаўчай літаратуры, бібліографічных даведнікаў і дапаможнікаў для краязнаўчых ячэек.

10. Рэдакцыі газэты „Савецкая Беларусь" і раённаму друку сыстэматычна асьвятляць работу краязнаўчых організацый.

11. Абавязаць Акадэмію Навук і Народны Камісарыят Асьветы ўзмацніць кіраваньне як цэнтральнымі, так і мясцовымі краязнаўчымі організацыямі.

12. Прапанаваць Белдзяржкіно пры ўдзеле краязнаўчых організацый павялічыць выпуск навукова-популярнай і мастацкай кіно-фільмы, якая дэмонструе прыродныя багацьці БССР і СССР

Нам. старшыні Савету Народных Камісараў БССР **А. Калнін.**

Нам. кіраўніка спраў Савету Народных Камісараў і Эконамічнага савету БССР **Я. Элькін.**

1 чэрвеня 1932г.
№ 304.
г. Менск.

В. Серафімаў

# Пастанова ўраду аб краязнаўстве—у масы

Пастанова Савету Народных Камісараў аб мерапрыемствах па разгортваньню краязнаўчага руху мае выключнае значэньне ў барацьбе за пролетарскую навуку. Пастанова СНК накіравана на практычнае ажыцьцяўленьне гістарычных пастаноў XVII партыйнай конфэрэнцыі і з усёй катэгорычнасьцю падкрэсьлівае разгортваньне навуковай грамадзкасьці, разгортваньне краязнаўчага руху, як організацыі шырокіх мас на навукова-дасьледчую работу. Пастанова СНК ставіць галоўнай задачай краязнаўчых організацый разгортваньне масавай работы па ўцягненьню ў краязнаўчы рух рабочых і працоўных мас, комсамолу, таварыства пролетарскага турызму, чырвонаармейцаў, вынаходцаў, рацыяналізатараў, студэнцтва, вучнёўства—праз організацыю краязнаўчых ячэек на заводах, фабрыках, МТС, колгасах, савгасах, ВНУ, тэхнікумаў і школах. На аснове поўнага падпарадкаваньня ўсёй краязнаўчай работы конкрэтным плянам соцыялістычнага будаўніцтва кожнага раёну, прадпрыемства, колгасу, савгасу, інтарэсам абароназдольнасьці краіны трэба шырока популярызаваць савецкае краязнаўства ў масах, давесьці пастанову СНК да кожнага заводу, колгасу, савгасу, органічна зьвязаць работу краязнаўчай ячэйкі з барацьбой за соцыялістычны плян, за сустрэчны плян свайго прадпрыемства. Толькі органічна зьвязанае з барацьбой за выяўленьне прыродных багацьцяў БССР, за выяўленьне сыравіны для прамысловасьці, за соцыялістычную організацыю працы на аснове 6 ўмоў тав. Сталіна, краязнаўчае бюро, ячэйка зможа быць жыцьцёвай, зможа прыцягнуць да сябе актыў, зможа справіцца з адказнай задачай організацыі мас на навукова-дасьледчую работу. Масавасьць пастановай СНК падкрэсьлена і ў правядзеньні раённых і ўсебеларускіх конфэрэнцый, у выбарах кіруючых органаў. Ажыцьцяўленьне гэтай дырэктывы ўраду патрабуе разгортваньня краязнаўчай сеткі з такім разьлікам, каб мы да лістапада змаглі ў асноўным закончыць афармленьне раённых організацый, а ў лістападзе склікаць усебеларускую конфэрэнцыю.

Пастанова СНК, намячаючы структуру краязнаўчых організацый, ясна падкрэсьлівае, што раённае бюро знаходзіцца пры райвыканкоме і, такім чынам, ліквідуецца абязьлічка як

у адказнасьці за разгортваньне краязнаўчага руху ў раёне, так і ў опэрацыйных плянавых заданьнях і пастаянным контролі. Работа раённай краязнаўчай організацыі праходзіць пры непасрэдным кіраўніцтве РВК і падпарадкавана ажыцьцяўленьню ў першую чаугу яго плянавых заданьняў. Нездавальняюча на сёньня справа са штодзенным кіраўніцтвам з боку Цэнтральнага бюро краязнаўства. Наладжаньне жывога інструктажу з боку ЦБК—аноўная задача ў хутчэйшым ажыцьцяўленьні дырэктыў СНК.

Матар'яльная база ў пастанове СНК таксама знайшла свой адбітак. Раённыя выканаўчыя камітэты павінны аказваць матар'яльную дапамогу ў навукова-дасьледчай рабоце. Разгортваньне краязнаўчай работы і ўключэньне ў выкананьне плянавых і гаспадарчых заданьняў, бязумоўна, заўсёды будзе мець матар'яльную забясьпечанасьць з боку гаспадарчых організацый.

Навуцы патрэбен социялістычны плян. Разгортваньне краязнаўчай работы павінна быць падпарадкавана плянавым заданьням другой пяцігодкі, краязнаўчая работа павінна мець плян, і СНК даў дырэктыву НКА і БАН прадугледзець плянаваньне краязнаўчай работы ў другую пяцігодку, як выданьне краязнаўчай літаратуры, стварэньне бібліотэк, разгортваньне сеткі краязнаўчых музэяў, падрыхтоўка краязнаўчых кадраў і інш. Гэта значыць, што цяпер пры складаньні другой пяцігодкі раённыя краязнаўчыя організацыі ўключаюцца ў складаньне краязнаўчай другой пяцігодкі і ўключаюць яе ў адзіны раённы плян. На сёньня нязначна ўвага з боку навукова-дасьледчых устаноў да краязнаўства. СНК даў выразны кірунак пастаяннай сувязі навукова-дасьледчых устаноў з краязнаўчымі організацыямі: першыя павінны ўвязваць сваю работу з краязнаўчымі організацыямі, вызначаць да іх конкрэтныя заданьні, аказаць ім мэтодычную і інструкцыйную дапамогу. Гэтая дытэктыва з усёй выразнасьцю падкрэсьлівае, што навукова-дасьледчыя ўстановы нясуць адказнасьць за організацыю мас на навукова-дасьледчую работу; шырока іх прыцягваюць да ўдзелу ў выкананьні сваіх заданьняў, усямерна дапамагаюць замацаваць нізавыя навукова-дасьледчыя масавыя ячэйкі.

СНК даручыў Народнаму Камісарыяту Асьветы і Цэнтральнаму бюро краязнаўства забясьпечыць разгортваньне краязнаўчае работы ў школах. Тут патрэбна ў бліжэйшы час выдаць масавыя краязнаўчыя падручнікі. Пры разгортваньні краязнаўчай работы ў школах павышанага тыпу, ВНУ, тэхнікумах трэба мець на ўвазе ня толькі організацыю дасьледчыка, дасьледчай ячэйкі, а трэба ва ўсю шырыню разгортваць падрыхтоўку організатараў-мэтодыстаў краязнаўчай работы на прадпрыемствах, колгасах, органічна зьвязаўшы гэту падрыхтоўку з практычнай работай у часе практыкі на вытворчасьці. Разгортваньне краязнаўчай работы сярод мас асьветнікаў праз курсы, конфэрэнцыі, праз выкладаньне мэтодыкі ў пэдагогічных установах павінна таксама даць як актыўнага дасьледчыка, так і організатара-мэтодыста краязнаўчай работы. Бясспрэчна, што ўсё гэта патрабуе разгортваньня выданьня масавай краязнаўчай літаратуры, бібліографічных даведчыкаў, дапаможнікаў для краязнаўчых ячэек

Гэта работа можа быць выканана з посьпехам, калі да яе будуць прыцягнуты шырокі мясцовы актыў, асьветнікі, спэцыялісты, навуковыя работнікі.

Непадзельнай часткай барацьбы за разгортваньне краязнаўчага руху зьяўляецца шырокае сыстэматычнае асьвятленьне як у мясцовым, так і цэнтральным друку работы краязнаўчых організацый, чаго мы на сёньня ня маем.

Гэта вялікая програма барацьбы за савецкае краязнаўства можа быць выканана з посьпехам на аснове разгортваньня соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, на аснове сапраўдных бальшавіцкіх тэмпаў і бальшавіцкай організаванасьці і адказнасьці. Партыйныя і комсамольскія ячэйкі павінны ўзначаліць масавы паход за выкананьне дырэктывы ўраду—за разгортваньне савецкага краязнаўства. Комсамол павінен стаць баявым застрэльшчыкам разгортваньня краязнаўчай работы на заводах, колгасах, комсамол павінен быць штурмавой брыгадай прызыву ўдарнікаў у навуку і даць лепшых камандзіраў на гэтым фронце.

---

В. Самцэвіч

# За бальшавіцкае правядзеньне ўборачнай кампаніі

Уборачная кампанія—адна з найважнейшых гаспадарча-палітычных кампаній. Уборачная кампанія завяршае круг цэлага комплексу работ і мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і правядзеньню сяўбы азімых і яравых пасеваў і організацыі догляду за імі (апрацоўка і ўгнаеньне глебы, сяўба, поліва і правядзеньне раду іншых агротэхнічных мерапрыемстваў). Своечасовая і правільна організаваная ўборка сена, азімых і яравых культур у значнай меры вырашае задачу атрыманьня больш высокага ўраджаю нашых палёў і сенажацяў.

Зараз ужо пачынаецца першы этап уборачнай кампаніі—сенаўборка, а праз некаторы час пачнецца ўборка азімых, зернавых і тэхнічных яравых культур, караньплодаў і г. д. Правядзеньне ўборкі ўсіх с/г культур у максымальна кароткія тэрміны, без перабояў, з найменшымі стратамі і правільнае і найбольш рацыянальнае выкарыстаньне с/г. машын, барацьба за збор зярна, за выкарыстаньне для корму кожнага куста травы—вось задача, пастаўленая партыяй і ўрадам перад партыйнымі, савецкімі і гаспадарчымі організацыямі, рабочымі, колгасьнікамі і бядняцка-серадняцкімі масамі вёскі. Правільная організацыя і бальшавіцкае правядзеньне ўборачнай кампаніі набывае асабліва значэньне ў сьвятле апошніх пастаноў партыі аб збожжа- і жывёлазагатоўках, колгасным гандлі і сельска-гаспадарчым падатку.

Разьвіцьцё колгаснае жывёлагадоўлі і разгортваньне колгаснага гандлю колгасамі, колгасьнікамі і аднаасобнікамі (беднякамі і серадняками), з усёй сур'ёзнасьцю ставіць пытаньне аб неабходнасьці значнага павялічэньня кармовай базы. Стварэньне ж моцнай кармовай базы ў значнай ступені залежыць ад належнай організацыі і пасьпяховага правядзеньня сенаўборачнай кампаніі.

Зьмяншэньне дзяржаўнага пляну збожжа-загатовак па СССР і БССР з ураджаю 1932 г. па колгасах і аднаасобных (бядняцкіх і серадняцкіх) гаспадарках і дазвол колгасам, колгасьнікам і працоўным аднаасобнікам бесьперашкоднае продажы лішкаў свайго збожжа пасьля выкананьня збожжазагатоўчага пляну—павінна зьявіцца магутным стымулем для колгасаў, кол-

гасьнікаў і аднаасобнікаў у справе барацьбы за поўнае выкананьне пасеўных плянаў, за больш высокі ўраджай, за яго своечасовую ўборку і выкананьне збожжазагатоўчага пляну.

Падрыхтоўка да ўборачнае кампаніі і бальшавіцкае правядзеньне самой уборачнай кампаніі па ўсіх яе этапах павінны зьявіцца важнейшымі зьвеньнямі ў агульнай сыстэме мерапрыемстваў па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню колгасаў— цэнтральнай задачы колгаснага будаўніцтва на даным этапе. Правядзеньне ўборачнае кампаніі павінна зьявіцца экзаменам для ўсіх арганізацый і колгасаў, паказчыкам іх арганізаванасьці, ступені аўладаньня тэхнікай вядзеньня буйной колектыўнай гаспадаркі і паказчыкам палітычнага і культурнага росту колгасьнікаў.

Краязнаўчыя арганізацыі ў гэтай найважнейшай гаспадарча-палітычнай кампаніі павінны прыняць самы актыўны ўдзел, асабліва краязнаўчыя ячэйкі ў колгасах, савгасах, МТС і ШКМ. Гэты ўдзел павінен выявіцца ў наступным:

1) Краязнаўчыя арганізацыі разам з мясцовымі савецкімі, гаспадарчымі і грамадзкімі арганізацыямі павінны ў кожным колгасе, савгасе, у кожнай вёсцы разгарнуць самую шырокую агітацыю за неабходнасьць сваечасовай падрыхтоўкі і пасьпяховай уборкі сена, збожжавых і тэхнічных культур, бульбы і інш. у сувязі з пастановамі партыі і ўраду аб збожжа- і мясазагатоўках, колгасным гандлі і сельска-гаспадарчым падатку. Гэта мае вялікае значэньне, бо ў некаторых колгасах азначаныя вышэй пастановы не прапрацаваны яшчэ да гэтага часу (Крупскі раён).

2) На аснове вывучэньня ўсяе папярэдняе практыкі лепшых колгасаў свайго раёну краязнаўчыя арганізацыі павінны дапамагчы праўленьням колгасаў (асабліва маладых і арганізацыйна слабых) распрацаваць конкрэтны плян правядзеньня ўборкі ўсіх сельска-гаспадарчых культур з забясьпечаньнем бесьперабойнасьці ўборачных работ, правільнай расстаноўкі рабочай сілы і поўнага экономнага скарыстаньня ўборачных машын, цягавай сілы і г. д. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на пасьпяховую ўборку сена, тэхнічных культур і бульбы (у сувязі з значным павялічэньнем засеўных плошчаў пад гэтымі культурамі і яшчэ недастатковым укараненьнем мэханізацыі іх уборкі).

3) Сыстэматычна вывучаць арганізацыю працы лепшых савгасаў і колгасаў і перадавых брыгад, выявіць найбольш высокія нормы выпрацоўкі і мэтоды, якімі яны дасягнуты, конкрэтнае ажыцьцяўленьне шасьці ўмоў т. Сталіна, арганізацыю грамадзкага харчаваньня і культурна-бытавога абслугоўваньня колгасьнікаў у пэрыод уборачнай кампаніі і г. д. Работа гэта павінна праводзіцца савгаснымі і колгаснымі краязнаўчымі ячэйкамі ў мэтах шырокае папулярызацыі найлепшай арганізацыі ўборачных работ і перанясеньня практыкі ў другія колгасы.

4) Краязнаўчыя ячэйкі, рабочыя савгасаў і колгасьнікі-краязнаўцы павінны быць у першых радох барацьбітоў за пасьпяховую ўборку ўраджаю, быць рацыяналізатарамі і організатарамі социялістычных мэтодаў працы. Краязнаўчыя организацыі павінны вывучыць і выявіць усе крыніцы і ўсе рэсурсы рабочай сілы,

якія можна выкарыстаць у пэрыод уборачнае кампаніі для пасьпяховага правядзеньня ўборкі.

5) Краязнаўчыя музэі шляхам арганізацыі выставак і выставак-перасовак павінны весьці сыстэматычную барацьбу за рэалізацыю плянаў уборачнае кампаніі, паказваць лепшыя ўзоры і дасягненьні перадавых савгасаў, МТС і колгасаў, пропагандаваць новыя тэхнічныя спосабы ўборачных работ, навейшыя ўборачныя машыны і інш.

6) Уборачная кампанія г/г будзе працякаць ва ўмовах клясавае барацьбы, спробы кулацкіх элемэнтаў зацягнуць, сарваць пасьпяховае правядзеньне кампаніі. Краязнаўчыя організацыі павінны вывучаць усе формы клясавае барацьбы і мобілізаваць масы на рашучую барацьбу з усякімі спробамі перашкодзіць пасьпяховаму ходу ўборкі, прычым асаблівая ўвага павінна быць накіравана на сваечасовае і поўнае выкананьне плянаў сенаўборкі і сілосаваньня.

Уся работа краязнаўчых арганізацый па правядзеньню ўборачнае кампаніі павінна быць цесна ўвязана з популярызацыяй савецкага краязнаўства, яго ролі ў соцыялістычным будаўніцтве і разгортваньнем краязнаўчага руху сярод колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі.

П. Горын

# Аб савецкім і колгасным гандлі

У нашым друку прыводзіцца шмат фактаў, якія гавораць аб скажэньнях у колгасным гандлі. Гэта сьведчыць, што на мясцох у нас яшчэ недаволі ясна ўсьвядомілі сэнс і значэньне апошніх пастаноў партыі аб савецкім гандлі наогул і ў прыватнасьці аб колгасным гандлі, як сустаўной частцы савецкага гандлю. Многія часамі не разумеюць, што гэтыя пастановы партыі маюць вялізарнае палітычнае значэньне, не ўсьведамляюць, што дырэктывы партыі будуць рэалізаваны **толькі ў рашучай і штодзеннай барацьбе з недаацэнкай і опортуністычнымі скажэньнямі апошніх пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б.**

Вядома, што правыя не ад таго, каб расцэньваць апошнія пастановы як наша адступленьне ці як „нэо-нэп“, ацэньваючы як пераход партыі да палітыкі нэпу ў яго пачатковай стадыі, у сэнсе легалізацыі прыватніка, умаленьня ролі пляну пры наяўнасьці рынычных адносін і т. д. Такі погляд нічога агульнага ня мае з політыкай партыі і лішні раз падкрэсьлівае палітычнае банкруцтва правых опортуністаў. Гэтыя скажэньні выкрываюць поўнае неразуменьне правымі опортуністамі розьніцы паміж пачатковай і апошняй стадыяй нэпу, у якой мы зараз знаходзімся. Яны выкрываюць недаацэнку посьпехаў соцыялістычнага будаўніцтва і ўмоў, што забясьпечваюць далейшыя перамогі. Іменна нашы посьпехі дазваляюць зараз з усёй вострасьцю павесьці барацьбу за савецкі гандаль, як асноўную форму разьмеркаваньня, замяніўшую сабой нармавую сыстэму разьмеркаваньня.

Адначасова з правымі спробамі скажэньняў партыйнай лініі мы маем таксама і „лявацкія“ скажэньні, якія па сутнасьці толькі ў другой форме адлюстроўваюць дробнабуржуазныя настроі ў нашай партыі, з якімі неабходна сыстэматычная, упартая барацьба. „Лявацкія“ спробы скрыўленьня лініі партыі, падмяняючы савецкі гандаль продуктаабменам, па сутнасьці таксама як і правыя выходзяць з трактаваньня апошніх пастаноў ЦК, як нашага адступленьня. Адсюль у іх зьяўляецца боязнь перад разьвіцьцём колгаснага гандлю.

„Лявацкія“ ўстаноўкі аб продуктаабмене па сутнасьці выкрываюць поўнае неразуменьне вучэньня Маркса аб эволюцыі кля-

савай формы „тавару“ ва ўмовах капіталізму, пераходнага пэрыоду і ў пэрыод социялізму. „У нашай літаратуры, на жаль, часам шырока распаўсюджваецца вульгарызацыя вучэньня Маркса аб продуктаабмене. Гэта вульгарызацыя вучэньня Маркса з боку правых і „левых“ патрабуе рашучага адпору.

Маркс, гаворачы аб продуктаабмене, меў на ўвазе, што ва ўмовах социялізму продукт пазбаўляецца таварнай формы, перастае быць таварам, г. зн. пазбаўлен здольнасьці быць формай капіталістычнага накапленьня і капіталістычнай эксплёатацыі. Гаворачы аб продуктаабмене, Маркс, аднак, нідзе не сьцьвярджае, што продуктаабмен зьнішчае адзіную рахунковую адзінку, эквівалетную для ўсіх продуктаў, ролю якой ва ўмовах капіталізму выконвае рубель. Гэтага не разумеюць опортуністы, праяўляючы бездапаможнасьць разуменьня ролі грошай у пераходны пэрыод, хаця наконт гэтага мы маем выразную формулёўку тав. Сталіна, даную ім на XVI партзьезьдзе: „Справа зусім ня ў тым, што савецкі гандаль і грашовая сыстэма зьяўляюцца мэтодам капіталістычнай экономікі; справа ў тым, што социялістычныя элемэнты нашай гаспадаркі, змагаючыся з элемэнтамі капіталістычнымі, аўладоўваюць гэтымі мэтодамі і зброяй буржуазіі для перамаганьня капіталістычных элемэнтаў, што яны з посьпехам скарыстаюць іх для пабудовы социялістычнага фундаманту нашай экономікі. Справа ў тым, значыцца, што, дзякуючы дыялектыцы нашага разьвіцьця, функцыі і назначэньні гэтых інструмантаў буржуазіі мяняюцца прынцыпова, карэнным чынам мяняюцца ў карысьць социялізму, у страту капіталізму“. Адзіная рахунковая адзінка, эквівалетная для ўсіх продуктаў социялістычнага грамадзтва, зразумела, не зьяўляецца грашыма капіталістычнага грамадзтва, г. зн. таксама пазбаўлена функцый капіталістычнага накапленьня і эксплёатацыі. Але гэта адзіная рахунковая адзінка нямінуча пры социялізме таму, што социялізм перш за ўсё ўлік.

„Лявацкае“ разуменьне продуктаабмену адхілае наяўнасьць адзінай рахунковай і разьліковай адзінкі, эквівалетнай для ўсіх продуктаў. „Лявацкае“ трактаваньне нярэдка спускаецца да зусім недапушчальнай вульгарызацыі социялізму, як грамадзкай сыстэмы, што грунтуецца на картачнай сыстэме разьмеркаваньня. Такое трактаваньне ў корані няверная. У клясавых адносінах яна адлюстроўвае спажывецкія настроі дробна-буржуазных груп, у той час, як на першым месцы павінны стаяць вытворчыя социялістычныя задачы. Вось чаму мы павінны павесьці больш рашучую барацьбу супроць такога скажэньня вучэньня Маркса аб социялізме, калі яго паказваюць як харчовы картачны социялізм, калі насельніцтва быццам атрымлівае сваю долю продуктаў па картачных купонах. Гэтыя ўстаноўкі ідуць уразрэз з вучэньнем Маркса аб социялізьме, і таму наша партыя так рашуча вядзе барацьбу за гаспразьлік і ўмацаваньне рубля.

Як вядома, Ленін і Сталін невыпадкова заўсёды пільна сачылі за работай нашых банкаў і ўстойлівасьцю нашага рубля. Толькі опортуністычныя элемэнты ігноравалі ролю банку і рубля ў пераходны пэрыод. Ленін яшчэ ў 1917 г. у брашуры „Ці ўтрымаюць бальшавікі дзяржаўную ўладу“ пісаў, што „адзіны буй-

нейцы з буйнейшых дзяржаўных банкаў (маецца на ўвазе пры дыктатуры пролетарыяту.—*П. Г.*) з аддзяленьнямі на кожнай фабрыцы—гэта ўжо 0,9 соцыялістычнага апарату. Гэта агульнадзяржаўнае рахункаводзтва, агульдзяржаўны ўлік вытворчасьці—разьмеркаваньня продуктаў, гэта, так сказаць, накшталт шкілету соцыялістычнага грамадзтва". Невыпадкова таксама тав. Сталін на XVI партзьезьдзе падкрэсьліў, што „Дзяржбанк ператвараецца ў агульнадзяржаўны апарат уліку і разьмеркаваньня продуктаў". Выказаньні Леніна і Сталіна цалкам супадаюць з заявай Маркса, што ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту банк зьяўляецца „формай грамдзкага рахункаводзтва".

Як бачым, тэорэтыкі марксызму-ленінізму зусім не адхіляюць неабходнасьць наяўнасьці адзінай рухунковай і разьліковай адзінкі як у пераходны пэрыод, так і ў пэрыод соцыялізму. Наша барацьба за савецкі і колгасны гандаль у гэтым сэнсе мае вялізарнае значэньне, бо на яе базе мы ўмацоўваем наш рубель, які ў бліжэйшы час павінен будзе зьнішчыць харчовую картку.

XVII партыйная конфэрэнцыя невыпадкова з усёй рашучасьцю завастрыла пытаньне на савецкім гандлі, як асноўнай форме разьмеркаваньня ў самым бліжэйшым будучым і ролі грошай. Наша задача ў цяперашні час заключаецца ў тым, каб гэтыя пастановы як-мага хутчэй правесьці ў жыцьцё, бо барацьба за савецкі гандаль па сутнасьці зьяўляецца барацьбой за тэмпы нашага соцыялістычаага разьвіцьця. Мы павінны павесьці самую рашучую барацьбу з тымі, хто ігноруе пастановы партыі, хто не разумее, што „выцясьненьне прыватніка і прыватнага гандлю яшчэ не азначае зьнішчэньня ўсялякага гандлю, што наадварот, выцясьненьне прыватнага гандлю мяркуе разьвіцьцё савецкага гандлю" (са звароту ЦК і Саўнаркому аб спажыўкоопэрацыі 12 мая 31 г.). Трэба павесьці таксама рашучую барацьбу з тымі, хто схільны разглядаць савецкі гандаль як наша адступленьне, у той час як на самой справе апошнія пастановы ЦК аб савецкім і колгасным гандлі—докумэнты нашага далейшага наступленьня на капіталістычныя элемэнты і зарука нашай пасьпяховай пабудовы поўнага соцыялістычнага грамадзтва. Той нічога не разумее ў савецкім і колгасным гандлі, хто спрабуе яго разглядаць як нэп у пачатковай стадыі, забываючы, што з 1920 г. мы атрымалі такія буйныя перамогі, як завяршэньне фундаманту соцыялістычнай экономікі, і што ў карысьць соцыялізму вырашана пытаньне „хто каго" як у горадзе, так і на вёсцы. Іменна гэтыя акалічнасьці забясьпечваюць нашаму савецкаму гандлю на базе далейшага разьвіцьця колектывізацыі і зьнішчэньня дробнай таварнай гаспадаркі магчымасьць ператварыцца ў адзіную форму продуктаабмену ў соцыялістычным грамадзтве.

Апошнія пастановы партыі паставілі перад намі цэлы рад самых складаных пытаньняў, асабліва ў бягучым годзе, калі побач з пакіданьнем на некаторы час нормаванага разьмеркаваньня асноўных продуктаў (хлеб, мяса) мы пераходзім на рыначную форму снабжэньня праз далейшае разгортваньне савецкага гандлю. У гэтым артыкуле мы хочам спыніцца толькі на двух надзенных пытаньнях, што цікавяць нашы організацыі: як змагацца з прыват-

нікам і ў якой узаемазалежнасьці ў гэтым годзе знаходзяцца цэнтралізаваныя загатоўкі і разьвіцьцё колгаснага гандлю.

У першым выпадку я маю на ўвазе наяўнасьць сярод некаторых коопэратараў думак, што ім цяжка весьці барацьбу з прыватнікам таму, што быццам Наркамфін не выдае патэнтаў і не вядзе ўлік спэкулянтаў. Падобная пастаноўка пытаньня сярод некаторых коопэратараў патрабуе адпору, бо яна сьведчыць аб тэндэнцыях легалізацыі прыватніка, як гэта было пры першай стадыі нэпу, у той час як коопэрацыя, на якую ў нашы дні лягла вельмі адказная палітычная задача,—іменна так працавала, каб Наркамфіну ня прышлося выдаваць прыватнікам патэнты. У гэтым палітычны гвозд сучаснага савецкага гандлю. У майскай пастанове ЦК па колгасным гандлі зусім выразна сказана: „не дапускаць адкрыцьця магазынаў і крам прыватнымі гандляркамі і ўсяляк выкараняць перакупшчыкаў-спэкулянтаў, прабуючы нажыцца за лік рабочых і сялян“. Само сабой зразумела, што ў барацьбе з прыватнікам, мы ні на мінуту не адмаўляемся ад адміністрацыйных мер барацьбы, высылак, штрафаў і г. д., але нельга забываць, што галоўнае ляжыць па лініі экономічнага выцясьненьня прыватніка. Трэба так наладзіць савецкі і колгасны гандаль, каб не адкрываць шчылін для перакупшчыкаў і спэкулянтаў. На жаль, у нашых некаторых працаўнікоў даволі шырока разьвіты погляды, што справа толькі ва ўменьні адміністраваць. Ленін і Сталін ня раз папярэджвалі, што аднымі загадкамі соцыялізму не пабудуеш. На самой справе, як-бы ні адміністраваць, але калі коопэрацыя будзе працаваць дрэнна, то зьяўленьне перакупшчыкаў будзе немінуча.

Па пытаньню аб узаемазалежнасьці цэнтралізаваных загатовак з савецкім гандлем, на жаль, сярод некаторых работнікаў распаўсюджан погляд, што быццам цэнтралізаваныя загатоўкі знаходзяцца ў супярэчнасьці з савецкім гандлем. Часам даводзіцца чуць, прыкладна, такія разважаньні,—вось цэнтралізаваныя загатоўкі выканаем, тады і можна будзе дазволіць колгасны гандаль. Погляд гэты яўна памылковы, бо на самой справе выкананьне цэнтралізаваных загатовак залежыць ад таго, як пасьпяхова мы разгорнем колгасны гандаль. Дырэктывы партыі ясна гавораць аб неабходнасьці спалучэньня цэнтралізаваных загатовак з колгасным гандлем.

Вядома, што адна з асноўных цяжкасьцяў выкананьня цэнтралізаваных загатовак ляжыць па лініі разрыву цэн дзяржаўных і рыначных. Шырокае разьвіцьцё колгаснага гандлю, як ужо паказала жыцьцё, дае зьніжэньне рыначных цэн, а гэты факт ня можа ня мець уплыву на пасьпяховасьць выкананьня дзяржаўных загатовак. Палітычная задача сёнешняга дня заключаецца ў ліквідацыі разрыву рыначных і дзяржаўных цэн. У гэтым сэнсе шырокае разьвіцьцё колгаснага гандлю—буйная зброя ў нашых руках у справе зьніжэньня рыначных цэн. Само сабой зразумела, што спалучыць цэнтралізаваныя загатоўкі з колгасным гандлем на даным этапе справа складаная, патрабуе перабудовы мэтодаў работы нашых організацый і большай гібкасьці. Аднымі загадамі і пастановамі тут ня возьмеш. Але цяжкасьць абстаноўкі

наадварот толькі патрабуе нашай вялікай увагі ў вырашэньні асноўнай палітычнай задачы сёнешняга дня—уменьня спалучыць плянавы пачатак ва ўмовах савецкага і колгаснага гандлю. Трэба з усёй рашучасьцю павесьці барацьбу з тым, хто нашы плянавыя пачынаньні супроцьстаўляе савецкаму гандлю. Трэба зразумець, што барацьба за савецкі гандаль—гэта барацьба з бюрократычнымі скажэньнямі ў галіне разьмеркаваньня, з якімі мы сустракаемся ўсюды, гэта барацьба за наш плян соцыялістычнага будаўніцтва.

Тав. Кагановіч зусім мае рацыю, заяўляючы, што „няверна, што ў нас тавараў мала. Вялізарныя масы тавараў мы з вамі ня здольны яшчэ правільна і па-сапраўднаму давесьці да спажыўца“. Толькі ў правільнай організацыі савецкага гандлю ляжыць рашучая барацьба з бюрократычнымі скажэньнямі ў галіне разьмеркаваньня.

Апошняе, на чым я хацеў-бы спыніцца, гэта аб праверцы рэалізацыі нашых пастаноў. Адным з самых горшых праяўленьняў опортунізму зьяўляецца невыкананьне партыйных пастаноў. Як вядома, у бальшавізьме словы ніколі не разыходзяцца са справай. У гэтым моц бальшавізму і зарука давер'я, якім ён карыстаецца ў мас на працягу дзесяткаў год. Нашы рэзолюцыі не зьяўляюцца галаслоўнымі дэкларацыямі, а абавязковы для правядзеньня ў жыцьцё. Толькі для бружуазных і дорбна-буржуазных партый характэрна паабяцаць, напісаць рэзолюцыю і напляваць на яе. На жаль, у некаторых раёнах мы сустракаемся з фактамі, калі рэзолюцыя парторганізацыі разходзіцца з практыкай. У нашым друку паведамляецца шмат фактаў скажэньня прынцыпаў колгаснага гандлю, хаця ў тых-жа раёнах мы маем рэзолюцыі партыйных і савецкіх організацый аб значэньні колгаснага гандлю. А вось на справе не прасачылі і ня выявілі конкрэтных парушальнікаў дырэктыў партыі, тым самым дазволіўшы гэтым опортуністам дыскрэдытаваць нашы партыйныя пастановы і падрываць давер'е мас да партыйнай організацыі. Трэба з усёй адказнасьцю зразумець, што перад намі зараз стаяць вельмі сур'ёзныя задачы, ад вырашэньня якіх залежыць пасьпяховасьць нашай барацьбы за поўную пабудову соцыялістычнага грамадзтва. Трэба кожнаму члену партыі растлумачыць палітычны сэнс апошніх пастаноў ЦК УсеКП(б) і апошняга пленуму ЦК КП(б)Б.

Уладзімер Гесэн

# Барацьба сялянства на Беларусі напярэдадні 19 лютага 1861 г.[1])

Гістарычная літаратура аб сялянскай рэформе вельмі вялікая. Аднак сучасная ступень разьвіцьця марксысцка-ленінскай тэорыі ня можа здаволіцца той пастаноўкай і аналізам рэформы 61 году, якая маецца нават у марксысцкай літаратуры. Тлумачыцца гэта тым, што прадпасылкі рэформы, ход яе і клясавы зьмест да гэтага часу ня зьвязваюцца непасрэдна і органічна з ленінскім вучэньнем аб барацьбе двух шляхоў буржуазнага разьвіцьця Расіі, без якога абсолютна немагчыма правільнае разуменьне гістарычнага разьвіцьця народаў СССР. Апошнія дыскусіі „аб двух шляхох“ натуральна прымушаюць кожнага гісторыка ў сваёй навуковай і пэдагогічнай рабоце, гаворачы аб рэформе 61 г., зьвязаць гэтае пытаньне з ленінскай концэпцыяй „аб двух шляхох“. Але найчасьцей гэтая сувязь мае мэханістычны характар. У радзе розных прадпасылак рэформы, як напрыклад: падзеньне і павышэньне цэн на хлеб на сусьветным рынку, крымская кампанія, разьвіцьцё прамысловасьці і інш. і інш., *спамінаецца*, толькі спамінаецца і сялянскі рух. Пасьля чаго і робіцца, звычайна, агульны вынік, што рэформа 61 г. ёсьць крок па прускаму шляху буржуазнага разьвіцьця і г. д. Нам здаецца, што ўжо час звычайна прыняты аналіз сялянскае рэформы паставіць з галавы на ногі. Час ужо, выходзячы з ленінскага вучэньня „аб двух шляхох“, даць такое марксысцкае асьвятленьне рэформы, у якім клясавая барацьба і клясавыя супярэчнасьці занялі-б належнае ім першае месца, „бо гістрычная практыка, практыка—Англіі, Францыі і Расіі, практыка ўсёй навейшай гісторыі чалавецтва ў Эўропе і Азіі паказваюць, што сур'ёзныя рэформы былі толькі пабочным вынікам руху, зусім вольнага ад узасьці рэформізму“ [2]), г. зн. вынікам сутычкі клясаў у масавай барацьбе.

Ленін неаднакраць падкрэсьліваў, што сялянскую рэформу 1861 г. трэба разглядаць які вынік барацьбы двух шляхоў буржуазнага разьвіцьця Расіі, барацьбы „прускага“ і „амэрыканскага“

---

[1]) Гэты артыкул зьяўляецца часткай маёй працы „Рэформа 1861 году на Беларусі“, якая падрыхтоўваецца да друку. У гэтай працы маюцца наступныя аддзелы: „Распад прыгоннай гаспадаркі на Беларусі“, „Барацьба вакол інвэнтароў“, „Абшарніцкія проекты вызваленьня сялян“, „Палажэньне 19 лютага для Беларусі“, „Сялянскі рух пасьля 19 лютага“ і г. д.

[2]) Ленін, т. XVI, стар. 593 (выд 3-е).

шляхоў, шляху контррэволюцыі і шляху рэволюцыі. Гэтыя тэндэнцыі і гэтая барацьба, якія заложаны ўжо ў рэформе 61 г., найбольш рэльефна і яскрава разьвіліся ў наступныя дзесяцігодзьдзі капіталістычнага разьвіцьця краіны. Аднак ясна, што элемэнты гэтай барацьбы трэба шукаць у дарэформеннай Расіі, калі ў нетрах фэўдальна-прыгоньніцкае сыстэмы, падрываючы яе знутры, расьлі і разьвіваліся буржуазныя вытворчыя адносіны. Зразумела, што хронолёгічна дакладна акрэсьліць, у якім годзе пачынаецца барацьба „прускага“ і „амэрыканскага“ шляхоў, немагчыма і мэтодолёгічна такая спроба нічым не апраўдваецца. Важна зразумець, што элемэнты гэтае брацьбы трэба шукаць у процэсе распаду фэўдальна-прыгоньніцкае гаспадаркі, у тым экономічным разьвіцьці, у тэй клясавай барацьбе, якія няўхільна вядуць краіну да буржуазнага разьвіцьця.

Перад сялянствам, як асноўнай клясай фэўдальнай Расіі, пад якой мы разумеем мэтрополію і яе колёніі і паўколёніі, стаяла об'ектыўна-гістарычная задача — барацьба за амэрыканскі шлях буржуазнага разьвіцьця, за рэволюцыйнае вырашэньне аграрнага пытаньня, што зьяўляецца нацыянальнай асаблівасьцю буржуазна-дэмократычнае рэволюцыі ў Расіі. Аналіз гэтае барацьбы не абавязкова, зразумела, пачынаць з першых, найбольш слабых выўяленьняў яе. Гісторыя гэтае барацьбы мае свае этапы. Такім асобным этапам, непасрэдна зьвязаным з маніфэстам 19 лютага, я лічу 1857-1861 гг., калі пасьля доўгіх гадоў рэакцыі і пэўнага зацішша ў сялянскай барацьбе пасьля 40-х гадоў, пасьля севастопальскага разгрому, мы назіраем новы ўздым як сялянскага руху, так і конституцыйны руху дваранства. Пытаньне аб тым, быць ці ня быць сялянскай рэформе на Беларусі, вырашылася ў залежнасьці ад сілы сялянскага руху ня толькі на тэрыторыі гэтае колёніі царскай Расіі, але і ад сілы напору сялянскага наступу на тэрыторыі ўсёй б. імпэрыі. Уласна тое, што, ня гледзячы на адносную слабасьць руху беларускага сялянства ў канцы 50-х гадоў, рэформа была пашырана на гэтую ўскраіну б. Расіі, і разам з тым, з другога боку, той факт, што ў гэтыя гады сялянская барацьба супроць фэўдальна-прыгоньніцкае эксплёатацыі ня злучалася з нацыянальна-вызваленчым рухам, усё гэта паслужыла прычынай таму, што палажэньне 19 лютага для Беларусі ня мае якіх-небудзь спэцыфічных асаблівасьцяў. І істотнейшыя зьмены, якія былі ўнесены ў „палажэньне“ ў 1863-1864 гг., трэба тлумачыць ня толькі мацнейшым уздымам сялянскае барацьбы, якая пачалася ў адказ на прыгоньніцкую рэформу і пакінула далёка ў тыле рух сялянства ў самой Вялікаросіі, а таксама і той рэволюцыйнай барацьбой, якая разгарэлася ў гэтыя гады за нацыянальнае вызваленьне, барацьбой, якая, зразумела, мела буржуазна-дэмократычны характар, барацьбой, якая павінна была аднача́сна вырашыць і аграрнае пытаньне і пытаньне нацыянальна-самастойнага існаваньня. Вырашэньне гэтых пытаньняў магло пайсьці як па „прускаму“, так і па „амэрыканскаму“ шляху. Гэта ў поўнай меры адпавядае думцы тав. Сталіна, які піша: „Сіла нацыянальнага руху азначаецца ступеньню ўдзелу ў ім шырокіх слаёў нацыі пролетарыяту і сялянства.

Ці стане пролетарыят пад сьцяг буржуазнага нацыяналізму — гэта залежыць ад ступені разьвіцьця клясавых супярэчнасьцяў, ад сьвядомасьці і організаванасьці пролетарыяту.

У сьвядомага пролетарыяту ёсьць свой уласны выпрабаваны сьцяг і яму няма чаго станавіцца пад сьцяг буржуазіі.

Што да сялян, дык *іх удзел у нацыянальным руху залежыць перш за ўсё ад характару рэпрэсій. Калі рэпрэсіі закранаюць пытаньні „зямлі“, як гэта было ў Ірляндыі, дык шырокія масы сялян неадкладна становяцца пад сьцяг нацыянальнага руху*“ [1]).

Лістапад-сьнежань 1857 г. неаднакроць азначаліся ў буржуазнай гістарычнай літаратуры як паваротны момант у гісторыі сялянства Расіі.

20 лістапада быў падпісаны Аляксандрам II рэскрыпт на імя Назімава, Віленскага генэрал-губарнатара, а ў сьнежні таго самага году такі самы рэскрыпт быў даны і на імя Ігнацьева, С-Пецярбургскага генэрал-губарнатара.

Сялянскае пытаньне паўстала перад дваранствам і ўрадам ня раптам і ня ў 1857 г. Яно было пастаўлена ў парадак дня ўжо ў канцы XVIII стагодзьдзя і паставіў яго ня ўрад і не дваранства, а само сялянства памятнай пугачоўшчынай.

Сялянста патрабавала вызваленьня ад прыгоннае залежнасьці, ад абшарніцкае „опеки“, ад прыгонных і аброчных павіннасьцяў. Сялянская барацьба за зямлю і волю праходзіць розныя этапы на працягу першай паловы XIX ст., то слабеючы, то ізноў пашыраючыся і паглыбляючыся. Але, бязумоўна, тое, што сялянская барацьба прымае ўсё больш організаваны характар, пасыўнае супраціўленьне, якое часта выяўлялася ў рэлігійных рухах, характэрнае ў пачатку стагодзьдзя, зьмяняецца актыўнай барацьбой — разгромамі, падпалам маёнткаў, набывае больш упарты характар, перакідаецца значна хутчэй з аднаго маёнтку ў другі, уцягвае ўсё большыя сялянскія масы.

А разам з тым усё мацней ідзе працэс капіталізацыі абшарніцкіх гаспадарак пад уплывам экономічнага разьвіцьця краіны, якая ўцягваецца ў сусьветны тавараза варот, з гістарычнай неабходнасьцю выклікаючы дыфэрэнцыяцыю сярод пануючай клясы, барацьбу фэўдальнага дваранства з новым буржуазным абшарнікам.

Слабы яшчэ, вельмі слабы радыкальны буржуа ў Расіі, каб павесьці за сабой прыгнечаныя масы вёскі і гораду ў рашучы наступ на фэўдальную ўласнасьць. Сялянская маса застаецца яшчэ сама па сабе. Вястуном новых буржуазных спосабаў вытворчасьці зьяўляецца на гістарычнай арэне „абуржуйваючыйся“ абшарнік. Констытуцыйныя замеры яго накіраваны супроць фэўдальнага дваранства і фэўдальнага самаўладзтва. У гэтым яго прогрэсыўная роля. Але ён моцна трымаецца *за сваё* монопольнае права на зямлю, *за сваю* ўласнасьць, і гэта зьвязвае яго па руках і нагам, бо ён ня можа заклікаць да рэволюцыйных дзеяньняў сялянскую масу, якая патрабуе і зямлі і свабоды, а ня толькі

[1]) І. В. Сталін.—Выбраныя работы па нацыянальным пытаньні: арт. „Марксызм і нацпытаньне“, стар. 25, выд. 1930, г. Менск. Курсыў мой—*Ул. Г.*

апошняй бяз першай. Адсюль з няўнікнёнасьцю вынікае лібэральны сказ і рэакцыйная практыка. Няхай „справа будзе зроблена без вымаўленьня слова „свабода“ і нявольніцтва згіне няпрыкметна для самога нявольніка“ [1]).

У гэтых словах выяўлена поўнасьцю програма дзеяньняў „лібэральнага“ дваранства. Боязьнь сялянскае рэволюцыі прыводзіць экономічна прогрэсыўных абшарнікаў да згоды з царызмам, балянсуючым паміж фэўдальным магнацтвам і лібэральна-монархічным дваранствам. Усе разам яны ўтвараюць адзіны фронт перад наступам сялянскае рэволюцыі, а кожны паасобку імкнецца дамагчыся для сябе асаблівых выгод, іграючы на сялянскім пытаньні і небясьпецы рэволюцыі.

У другой палове 50-х гадоў колькаснае награмаджэньне ўсіх гэтых процэсаў набліжалася да сваёй мяжы. Разьвязка рабілася ўсё больш няўхільнай.

Урад Аляксандра II, лавіруючы паміж фэўдальнай рэакцыяй і конституцыйным рухам, як баромэтрам нарастаючай сялянскай рэволюцыі, ня меў ні жаданьня, ні магчымасьцяў, каб паставіць пытаньнеаб вызваленьні сялян дастаткова рашуча яшчэ ў 1857 г. Патрэбны былі 4 гады бязупынных сялянскіх паўстаньняў, чатыры гады масава-клясавых боек, каб абшарнікі розных масьцей пагадзіліся на прыгоньніцкім палажэньні 19 лютага 1861 г. Гэтыя 4 гады адзначаны крывавымі расправамі над удельнікамі нялічоных сялянскіх бунтоў, хваляваньняў і непарадкаў, якія рабілі на сучасьнікаў такое моцнае ўражаньне, што Маркс надаваў ім першараднае значэньне ў радзе іншых эўропейскіх падзей таго часу, расцэньваючы іх як пачатак рэволюцыі ў Расіі, якая ў корані павінна замяніць суадносіны сіл пролетарскае рэволюцыі і буржуазнае контррэволюцыі ў Эўропе. Так, напрыклад, Маркс пісаў Энгельсу 29 красавіка 1858 г.: „Рух у карысьць вызваленьня прыгонных у Расіі здаецца мне важным таму, што ён знамянуе сабой у краіне ўнутраной гісторыі, якая можа стаяць супроць шляху яе традыцыйнай знадворнай палітыкі“. У лісьце ад 8 кастрычніка 1858 г. Маркс піша: „Прыемна па крайняй меры тое, што ў Расіі пачалася рэволюцыя“ і г. д. [2]).

„Рух нявольнікаў“ па выразу Маркса ахапіў тэрыторыю як мэтрополіі, таксама і яе колёній. У апошніх ён, натуральна, мае свой асаблівы адбітак. Тут да звычайнае клясавае нянавісьці сялянства ў адносінах да абшарнікаў далучаецца нацыянальная варожасьць і нацыянальна-вызваленчыя рухі і традыцыі барацьбы супроць прыгнятаючай нацыі, якія на розных этапах барацьбы выяўляюцца больш ці менш яскрава. Апрача таго, політыка царскага самаўладзтва мае таксама тут, у гэтыя гады спэцыфічныя асаблівасьці, якія дыктуюцца неабходнасьцю лявіраваць паміж мясцовым абшарнікам, які імкнецца да аддзяленьня сваёй краіны ад Расіі, з аднаго боку, і сялянскай масай, якую трэба абавязкова адцягнуць ад нацыяналістычных ідэй, адцягнуць ад уплыву абшарніка, які так ці інакш змагаецца з царызмам.

[1]) Заблоцкі-Дзесяткоўскі—„Гр. Кісялёў і яго час“. Т. II, стар. 221.
[2]) Маркс і Энгельс—Творы, том XXII, ст. ст. 337, 362, 364, 468-469, 474, 475.

У сувязі з утварэньнем дваранскіх губэрскіх і галоўнага камітэту па сялянскім справам міністэрства нутраных спраў прымае рад захадаў да рэгістраваньня выпадкаў сялянскіх непарадкаў і вывучэньня прычын, якія іх выклікалі. Статыстыка сялянскіх абурэньняў да гэтага часу, можна сказаць, зусім адсутнічала. Дасьледчыкам прыходзілася зьбіраць паасобныя весткі па розным крыніцам, на іхняй аснове ствараць малюнак сялянскіх рухаў. Зразумела, што далёка ня ўсё трапляла ў поле зроку дасьледчыка. На жаль, прыходзіцца канстатаваць, што стытыстыка сялянскіх абурэньняў і непарадкаў, па даным Міністэрства нутраных спраў, за 1858—1860 гады прымушае жадаць лепшага. Міністэрства пісала свае справаздачы „на высочайшее“ імя на падставе тых штотыднёвых вестак, якія яна атрымлівала ад губарнатараў. Апошнія вельмі часта зьмяншалі лік непарадкаў і змоўчвалі аб прычынах, якія іх выклікалі. Бліжэй да крытычнага 1861 г. гэтыя справаздачы набываюць большую паўнату, хаця і тады яны бываюць часта занадта ляконічны. Што датычыцца больш раньніх гадоў, напрыклад, 1858-1859, дык на падставе гэтай крыніцы мы хоць і ня маем поўнай карціны сялянскай барацьбы за гэтыя гады, але маем магчымасьць паказаць яе нарастаньне, яе дынаміку, хаця-б у сумарным выглядзе і, нарэшце, яе карэньні.

Аднак, пры ўсёй сваёй недастатковай паўнаце весткі, узятыя мною з двух фондаў: Земскага аддзяленьня Міністэрства нутраных спраў і Галоўнага камітэту па сялянікім справам у адносінах да Беларусі, і ў колькасных і якасных адносінах стаяць значна вышэй за іншыя крыніцы.

І гэта зразумела. Міністэрства нутраных спраў—адзін з важнейшых органаў самаўладзтва ў інтарэсах хаця-б поліцэйскіх, уважліва сачыла, асабліва ў гады падрыхтоўкі „19 лютага“ за кожнаю праяваю ўсё абвастраючайся клясавай барацьбы, за кожным крокам або наступам, з якога-б боку ён не адбываўся, калі толькі ён у якой-небудзь ступені дапамагаў ці зьяўляўся повадам сялянскіх хваляваньняў (асабліва ў колёніях б. імпэрыі, як, напрыклад, у Беларусі, бо тут трэба было весьці барацьбу і з абшарнікам). Іменна толькі з гэтага погляду і трэба наглядаць умацаваўшуюся дзейнасьць Міністэрства нутраных спраў і яго органы на мясцох па прыцягненьню да адказнасьці тых памешчыкаў, якія ў сваёй жорсткасьці і прыцясьненьні прыгонных пераходзілі якіясьці межы, устаноўленыя, нават, фэўдальнай прыгоньніцкай дзяржавай. Гэтыя межы зусім ня мелі сталага характару. Яны былі надта расьцягнуты і акрэсьліваліся вышынёю і сілаю сялянскага супрціўленьня фэўдальна-прыгоньніцкай эксплёатацыі. Натуральна, што ў гады перад „сялянскай рэформай“, г. зн. у гады, калі рэволюцыйная барацьба сялянства вось-вось перарастала ў сялянскую рэволюцыю, калі раўнадзейная клясавае барацьбы прымусіла самаўладзтва і абшарнікаў усіх адценьняў стаць на шлях прыгоньніцкае рэформы, натуральна, што ў гэты небясьпечны для панаваўшай клясы час, Міністэрства нутраных спраў патрабуе ад кожнага абшарніка асабліває асьцярожнасьці ў іх адносінах да сялянства, пагражае рэспрэсіямі, бо гэтыя адносіны служаць повадам для ўцягненьня ў адкрытую барацьбу новых сялянскіх пластоў, хаця паводле пераконаньня

III-га аддзяленьня „большасьць дваран думае, што селянін занадта яшчэ неадукаваны, каб зразумець грамадзкае права, што ён на поўнай волі люцейшы за зьвера, што хваляваньні, рабункі і забойствы будуць амаль няўхільнымі, што ў многіх губэрнях, асабліва ў прыволскіх, у памяці яшчэ страшныя часы пугачоўшчыны“ [1]), усё-ж некаторыя дваране „выходзілі за межы асьцярожнасьці, якая патрабавалася сучаснымі абставінамі“ [2]). Вось гэтай асьцярожнасьцю, гэтым страхам перад новай пугачоўшчынай і тлумачыцца відочнасьць націску з боку Міністэрства нутраных спраў на зуброў прыгоньніцкага рэжыму. Мы гаворым відочнасьць, бо ў канцы канцоў амаль усе справы, якія пачаліся ў гэтыя гады супроць абшарнікаў за іх жорсткасьць у адносінах да прыгонных, якая выходзіла з усталяваных межаў, канчаліся нічым. І тыя дасьледчыкі, і тыя складальнікі зборнікаў матар'ялаў па сялянскім руху, якія някрытычна адносіліся да гэтых учынкаў ураду, прымаючы іх за чыстую манэту, робяць гэтым самым грубейшую памылку прынцыповага характару, сеючы ілюзію аб вядомай об'ектыўнасьці самаўладдзтва, барацьбе на два фронты ў інтарэсах усёй дзяржавы ці ўсяго грамадзтва ў цэлым. Гэта вядзе да выхалашчваньня клясавага зьместу палітыкі царызму. Так рабіў напрыклад Е. Марахавец у нядаўна выданым зборніку матар'ялаў па сялянскім руху. У яго матар'ялах, што маюць адносіны да Беларусі, прыведзена за 1858 год два паведамленьні аб сялянскіх беспарадках, задушаных царызмам, і тры выпадкі адданьня пад суд памешчыкаў за зьдзекі над сялянамі. За 1859 год падана два выпадкі прыцягненьня да адказнасьці прыгоньнікаў і ніводнага аб узброеным задушэньні сялянскага супраціўленьня памешчыцкай эксплёатацыі. Такі спэцыфічна „об'ектыўны“ падыход да архіўных матар'ялаў III аддзяленьне, апрача ўсяго іншага, ці об'ектыўна ці сьвядома, але ва ўсякім выпадку, бясспрэчна, падводзіць базу пад вялікадзяржаўніцкія концэпцыі гістарычнага працэсу Беларусі. У сваёй працы я амаль не затрымліваўся на падобных выпадках прыцягненьня да адказнасьці памешчыкаў, бо тут знадворная форма зусім не адпавядае іх сапраўднаму клясаваму зьместу. Не затрымліваюся я і на забойствах абшарнікаў сялянамі і да т. п. выпадкамі індывідуальнага протэсту, бо мяне цікавіць масавы рух, масавая барацьба запрыгоненага сялянства Беларусі, як аднаго з аддзелаў агульнадэмократычнага руху ўсяе б. Расіі.

24 сьнежня 1857 г. маскоўскі генэрал-губарнатар граф Закрэўскі, згодна патрабаваньню Аляксандра II, падаў на яго імя даклад аб тым уплыве, які мелі ў Маскве і ў іншых раёнах Расіі найвышэйшыя рэскрыпты Назімаву і Ігнацьеву. Даклад гэты, галоўным чынам, гаворыць аб настроях абшарніцкае клясы. Але дваранскія настроі ў сваю чаргу ў пэўнай меры залежалі і ад сялянскіх. Вось чаму абшарнікі, паводле сьведчаньня Закрэўскага, „ня ведаючы, чаго чакаць у будучым, асьцерагаюцца ня толькі за ўласнасьць, але і за сваю асобу“.

---

[1]) Мороховец—„Крестьянское движение“, ч. 1, стар. 112. „Полицейское обозрение за 1857 г.“.

[2]) Там-сама, стар. 128. „Полицейское обозрение за 1857 г.“

Па трапнаму выразу абшарнікі „видят себя между двух крайностей, имея с одной стороны высочайший вызов содействовать правительству в улучшении быта крестьян, а з другой опасаясь бездействием возбудить против себя ненависть низшего сословия“ [1]).

Зразумела ня ўсе абшарнікі з таго ці іншага поваду протэставалі супроць „улучшения быта помещичьих крестьян“. Экономічна больш прогрэсыўныя, аброчныя і зьвязаныя з па-замежным гандлем ішлі на паступовую ліквідацыю прыгоннае сыстэмы, якая зьвязвала разьвіцьцё вытворчых магчымасьцяў іхніх маёнткаў. Але нават у гэтай частцы абшарніцтва боязьнь сялянскае рэволюцыі прэвалявала над экономічнымі выгодамі абшарніцкіх проектаў эмансіпацыі. Яны таксама гаварылі, „калі народ ня мае яскравага паняцьця аб грамадзкай свабодзе і зьмешвае яе з неабмежаваным сваявольствам“, дык небясьпечна тады форсаваць вызваленьне сялян ад прыгону. І разам з тым абшарніцтва розных губэраньзмушана было адзначыць, што чуткі, якія хадзілі раней сярод сялян аб поўным вызваленьні з перадачай ім ва ўласнасьць абшарніцкай зямлі цяпер „пачынаюць сьціхаць, сяляне значна „расчараваны“ і ня скрываюць, што чакалі большага“ [2]). Гэта „расчараваньне“ (часам яно характарызавалася „напружаным чаканьне“) несла кіруючай клясе нязьлічоныя няшчасьці. Гэтае становішча шырокіх сялянскіх мас непакоіла і прыцягвала да сябе ўвагу абшарніцтва. „У народзе напружанае чаканьне, невядома, што чакае нас у будучым тым больш, што войск апрача двух батальёнаў ва ўсёй губэрні няма“, пісаў адзін з прэдвадзіцеляў дваранства. „Усе распушчаныя стануць коў салдаты рассыпаны па вёсках і пры першым выпадку з пална чале ўсякага беспарадку“ [3]).

І хаця цар супроць гэтага месца ў дакладной запісцы Міністэрства нутраных спраў і надпісаў на краёх „Спадзяюся, што гэтага ня будзе“, усё-ж такі, як падагуліў міністар, „усе яны (г. зн. абшарнікі—*Ул. Г*). знаходзяцца ў трывожным стане з больш ці менш моцнай трывогай за будучае ў адносінах як сродкаў для жыцьця, так і асабістае бясьпекі“.

Тыя зусім няпэўныя весткі аб сялянскіх паўстаньнях за 1858 г., якія нам удалося выцягнуць з архіву Міністэрства нутраных спраў, даюць усё-ж такі некаторыя ўяўленьні аб пачатку сялянскай барацьбы напярэдадні 19 лютага. Найбольшая колькасьць сялянскіх непарадкаў за сакавік-лістапад пяцьдзесят восьмага году, аб якіх генэрал-губарнатар лічыў сваім абавязкам паведаміць міністэрства, падае на Менскую губэрню. Міністэрская справаздача рэгіструе за гэты час пяць больш ці менш буйных напарадкаў сярод абшарніцкіх сялян на Меншчыне. У гэты самы час па Магілеўскай і Віцебскай губ. адзначана толькі па два выпадкі абурэньня прыгонных.

---

[1]) Архіў Галоўнага камітэту па сялянскіх справах № I за 1857 г. на 103 лістох. „Аб уплыве на грамадзкі супакой слухаў аб прадпрыманьні мер да ўстройства сялянскага быту“ Л. Л. 8--12.

[2]) Там-жа.

[3]) Там-жа, л. 18/об.

*Па Менскай губ.* усе непарадкі сярод сялян выкліканы іх адмовай выконваць на карысьць абшарніка прыгонныя павіннасьці [1]). Непарадкі гэтыя былі так нязначны, што непатрэбна было нават вайсковай дапамогі, за выключэньнем аднаго выпадку, і справа скончылася камандыраваньнем на месца абурэньняў у адным выпадку жандарскага афіцэра, а ў другім земскага начальніка. У рэшце выпадкаў сяляне былі супакоены мясцовымі сіламі. З гэтых выпадкаў некалькі выдзяляецца абурэньне сялян, якое мела месца ў маёнтку абшарніка Ленскага, калі прыгонныя прынесьлі начальніку губэрні скаргу на прыгнёт іх уласьнікамі, якія, праўда, нічым не парушалі інвэнтарных правіл, установленых для гэтага маёнтку, наколькі, згодна з гэтымі правіламі, сяляне абавязаны былі пяцьма днямі прыгону з двара. Але сяляне кінулі выконваць прыгонныя павіннасьці, патрабуючы, каб лік прыгонных дзён быў скарочаны да трох на тыдзень. Мясцовай паліцыі не ўдалося ўгаварыць прыгонных сялян, што яны абявязаны выконваць усе павіннасьці, якія ўстаноўлены інвэнтарнымі правіламі, і начальніку губэрні прышлося, з аднаго боку, вылучаць спэцыяльную камісію для іх супакоеньня, а з другога даручыць павятоваму прадвадзіцелю дваранства пераканаць абшарніка Ленскага ў патрэбе дабраахвотнага палягчэньня павіннасьцяў сялян „бо яна (г. зн. павіннасьць—*Ул. Г.)* сапраўды-ж цяжкая“ [2]).

Канец гэтай справы ў справах міністэрства не атрымаў свайго асьвятленьня. Пэўна, да ўзброенага прыдушэньня сялянскага супраціўленьня справа не дайшла.

У маёнтку „Любоніцка“ 40 чалавек прыгонных сялян таксама адмовіліся выконваць прыгонныя павіннасьці, належаўшыя ім паводле інвэнтару, і заплаціць дзяржаўныя падаткі. Сялян дасыць хутка супакоілі спосабамі „ўнушэньня“, прычым трое з іх, „якія аказаліся больш вінаватымі па нагавору другіх за непаслушэнства“, былі пасаджаны ў Пінскі астрог. Да таго-ж тыпу сялянскай барацьбы, накіраванай супроць прыгонных адносін, варта залічыць таксама і тыя непарадкі, якія ўзьніклі ў Бабруйскім павеце ў маёнтку абшарніка Незабытоўскага. Тут сяляне, абвясьціўшы сябе вольнымі ад памешчыцкай улады, адмовіліся несьці прыгонныя павіннасьці і падначальвацца абшарніцкаму кіраўніцтву. Умяшаньне паліцэйскай улады прывяло да таго, што быў зьбіты спраўнік і станавы прыстаў. Урэшце сяляне былі супакоены атрадам салдат, якія прыбылі разам з асобным чыноўнікам і афіцэрам жандарскага корпусу [3]).

Сялянскія непарадкі, якія адбываліся ў *Магілеўскай губ.*, не становяць вялікай цікавасьці. Адзін раз сяляне Быхаўскага пав. маёнтку „Комарыч“ у ліку 24 асоб зьявіліся да губарнатара са скаргай, што абшарнік адабраў ад іх сенажаці (галоўныя вінавайцы нарушэньня парадку былі цялесна пакараны); у другі раз, у тым-жа павеце ў маёнтку абшарніцы Ражкоўскай сяляне выявілі непаслу-

[1]) АрхіўГалоўнага камітэту па сялянскіх справах за 1858 год № 28, ч. I, л. 18, 167-168/об ч. II лл 135/об; 150-151. (Паводле дастаўленых міністэрствам нутраных спраў вестак аб выпадках непаслушэнства памешчыцкіх сялян).

[2]) Тамсама, ч. I, лл. 25I.

[3]) Тамсама, ч. 2, лл. 150-151.

шэнства „владельческой власти", а пасьля прыезду земскага начальніка разьбегліся і схаваліся ў лесе [1]).

Больш упарты характар мелі хваляваньні сялян *Віцебскага* павету ў маёнтку абшарніка Марцінава. Першы раз пра гэтыя непарадкі гаворыцца ў найпадданейшай запісцы міністра ўнутраных спраў ад 8 жніўня 1858 г. Справа пачалася з таго, што 35 прыгонных сялян зьявіліся да начальніка губэрні са скаргай на прыгнёт як з боку абшарніка, так і з боку вотчыннага начальніка. Адначасова абшарнік Марцінаў скардзіўся на непаслушэнства сялян, якія адмовіліся выконваць прыгонную павіннасьць.

Начальнік губэрні загадаў ужыць захады „к водворению между крестьянами порядка". У маёнтак была ўведзена інвалідная каманда паліцыя таксама ўжыла належныя захады, але, аднак, сяляне упарта супраціўляліся і, як паведамляецца ў дакладзе міністра ўнутраных спраў ад 16 кастрычніка, г. зн. праз *два месяцы*—„сяляне да гэтага часу ня прыведзены ў паслушэнства." Прышлося на месца непарадкаў камандыраваць асобных чыноўнікаў разам з вайсковай камандай Нізоўскага пяхотнага палка. Пэўна апошняй удалося дабіцца супакаеньня, бо пра гэту справу ў дакладах Міністэрства ўнутраных спраў і губарнатарскіх штотыднёвых справаздачах больш ужо не ўспамінаецца [2]).

На падставе гэтых вельмі мізэрных вестак нельга, зразумела, рабіць якія-небудзь вывады аб характары сялянскага руху ў 1858 г. Кідаецца толькі ў вочы, што ўсюды прычынай непарадкаў зьяўляецца *прыгонная* павіннасьць, ад якой сялянства ўсімі сіламі імкнецца вызваліцца.

Што да 1859 году, то ў той час, калі ў прыгонных („барщинных") губэрнях Расіі ды ў яе ўсходніх і паўночна-ўсходніх колёніях, а таксама ў губэрнях, што межаваліся з Беларусьсю, хваля сялянскага руху нарастае вельмі хуткімі тэмпамі і ў справаздачах міністра ўнутраных спраў трывожныя весткі з гэтых раёнаў займаюць першае месца, у беларускіх губэрнях сялянская маса толькі пачынала раскачвацца на барацьбу. І сапраўды, бязупынныя сялянскія непарадкі і паўстаньні ў Пермскай, Пензенскай, Арэнбурскай губэрнях, у часе якіх дваранская армія напатыкала ўзброенае супраціўленьне сялянскіх аддзелаў, налічаўшых часта па некалькі сот чалавек, паўторнасьць гэтых абурэньняў і інш. даюць права гаварыць, што сялянская маса гэтага раёну ўступіла ўжо ў больш высокі этап сваёй барацьбы з дваранска-абшарніцкай дзяржавай. Такое становішча ні ў якім разе не характэрна толькі для колёніяльнага сялянства. Варта толькі ўспомніць пэрманэтныя сялянскія абурэньні ў Цьверскай губэрні, якія не ўдавалася ўсьцішыць на працягу 2-3-х месяцаў, сялянскія непарадкі ў Кастрамской губ., што звычайна справаджаліся выбарам на месца выганяных абшарніцкіх стаўленікаў, сваіх сялянскіх службовых асоб, буйныя непарадкі ў другой палове году ў Смаленскай губэрні і інш. і інш., каб зрабілася ясным, што 1859 год—гэта пераломны год у барацьбе

[1]) Тамсама. Таксама глядзі *Мараховец*—Сялянскі рух 1827-63 гг., ч. I. стар. 117.
[2]) Тамсама, ч. I, лл. 231/аб. —232; ч. II, л. 106.

прыгоннага сялянства Расійскай імпэрыі. Ад гэтага часу аж да 1863 году крывая сялянскай барацьбы бесьперапынна ідзе ўверх [1]).

Але-ж сказанае ня здымае пытаньня аб асаблівасьцях разьвіцьця гэтай барацьбы ў паасобных раёнах, у прыватнасьці на ўскраінах колёніяльнай імпэрыі. Прыгоннае сялянства ўступае ў тытанічную барацьбу за сваё вызваленьне не адначасова ва усёй б. Расіі; сялянскія паўстаньні і абурэньні носяць спачатку як быццам лёкальны характар, але паступова яны ахапляюць усё новыя тэрыторыі, не заціхаючы ў той самы час у выходных раёнах. Ня гледзячы на экономічныя асаблівасьці паасобных раёнаў і спэцыфічныя рысы сялянскай барацьбы, у аснове гэтай барацьбы ляжаць тыя самыя няпрымірныя клясавыя супярэчнасьці між сялянствам і абшарніцкай клясай. Уласна гэта і стварыла прадпасылкі сялянскай рэволюцыі, пра набліжэньне якой Маркс і Энгельс гавораць ужо ў сярэдзіне пяцідзесятых гадоў.

Аднак, некаторыя раёны адстаюць па ўцягненьню сялянства ў масавы рух, які з тых ці іншых прычын *паволі* раскачваецца тут на барацьбу, пазьней уступае актыўнай сілай у адзіны сялянскі рух. Такімі раёнамі былі, напрыклад, Крым, Каўказ, Беларусь.

Сялянскі рух у 1859 г. на Беларусі працякаў адносна да другіх раёнаў б. Расіі слаба. Параўнальна больш буйныя непарадкі адбыліся ў Слуцкім павеце *Менскай губ.* 26 красавіка ў м. Грэск, якое належыла князю Радзівілу; прыбылі земскі спраўнік і павятовы прадвадзіцель дваранства, каб зрабіць разьлік паміж сялянамі і экономіяй. Аднак, сяляне, сабраўшыся значным натоўпам, „учынілі буянства і супраціўленьне“ і адмовіліся прыступіць да разьліку. „Старания“ спраўніка, вельмі горача, да рэчы, падмацаваныя дапамогай эскадрону салдат, накіраваныя да таго, каб дабіцца ад сялян паслушэнства, ні да чога не прывялі. Яны выклікалі толькі злосьць сялян, і губарнатар, які асабіста паехаў у маёнтак, паведаміў 4 мая ў дэпартамэнт поліцыі, што „сто дваццаць дамаўласьнікаў пасьля аказанага імі супраціўленьня схаваліся з сваіх дамоў у прылягаючыя вёскі“.

Адход 120 сялян і хаваньне іх прыгоннымі суседніх вёсак—падзея вельмі значная нават для тых год агульнага ўздыму сялянскай барацьбы, якая сьведчыла, між іншым, ня толькі аб упартасьці і солідарнасьці сялянскай масы гэтага раёну, але таксама і аб тым, што прычыны гэтых непарадкаў мелі ня вузка мясцовы характар, хаця повадам іх быў адносна прыватны выпадак. Дзесяць сялян, выбраныя ўцёкшымі, і падаўшыя скаргу і свае прэтэнзіі губарнатару, заявілі, што сяляне не хацелі прыступіць да разьліку з экономіяй, лічачы сябе нездаволенымі як за мінулыя работы, вывазы і пастаўкі падвод у мінулую вайну, так і з прычыны замалога надзелу іх зямлёй супроць нормы, прынятай інвэнтарнымі правіламі. Упартасьць сялян, непарадкі цягнуліся 10 дзён, уцягненьне ў непарадкі значнага ліку сялян, пры надта яўных зло-

---

[1]) Даныя аб сялянскай барацьбе за 1859 г. узяты мною з справы № 1 за 1859 г. „Архіў Міністэрства унутраных спраў па земскаму аддзелу—„Справа з орыгіналамі і даведкамі аб выпадках непавінавеньня абшарніцкіх сялян за 1859 г.“

ўжываньнях абшарніка, прымусілі губарнатара даць загад аб частковым здавальненьні сялянскіх патрабаваньняў [1]).

Характэрнай рысай сялянскіх непардкаў на Беларусі ў 1859 г. зьяўляецца тое, што сяляне амаль не выстаўляюць патрабаваньняў непасрэдна аб вызваленьні. Адзін толькі раз сяляне Клімаўскага павету *Магілеўскай* губэрні адмовіліся выконваць павіннасьці, патрабуючы для сябе поўнай *свабоды* і то за выкуп. Гэтыя непарадкі цягнуліся нядоўга і пасьля арышту завадыяшоў сяляне былі лёгка ўсьцішаны [2]).

Але, калі рух беларускага сялянства ў 1859 г. выявіўся ўцалку ў вельмі нязначнай ступені, дык весткі за 1860 г. даюць зусім іншы малюнак. Данясеньні губарнатараў і ўсё больш частае ўспамінаньне аб непарадках і іх падрабязнае апісаньне ў дакладах міністра ўнутраных спраў на найвышэйшае імя лепшы доказ таму, што масавы рух і абвостраная клясавая барацьба захапляе і гэту ўскраіну. Сялянскі рух, які ўсё ўзмацняецца, непарадкі, што ўзьнікаюць то тут, то там, абурэньні і паўстаньні—кладуць свой адбітак на характар сялянскай барацьбы: пашыраецца круг повадаў і прычын да абурэньняў, сялянская маса, пераходзячы часам цяпер ад абароны да наступленьня, выстаўляе свае патрабаваньні.

Асабліва частыя выпадкі непарадкаў мы маем па *Магілеўскай* губэрні. Пачынаючы з лета, няма літаральна месяца, на працягу якога губарнатар не павядаміў-бы ў міністэрства аб сялянскіх абурэньнях. Многія з іх былі і вельмі малалікімі і нязначнымі, як напрыклад, у ліпні, жніўні, лістападзе і пачатку сьнежня [3]), а некаторыя ня выходзяць за межы „непаразуменьняў“ паводле тэрміналёгіі Міністэрства ўнутраных спраў.

Найгоршым, з пункту погляду губарнатара, зьяўляецца Копыскі павет. Сялянскія непарадкі ў гэтым павеце пачаліся ў лістападзе месяцы ў маёнтку абшарніка Вайніловіча, з падачы сялянамі скаргі начальніку губэрні за лютае з імі абыходжаньне, прычым падача справаджалася адмаўленьнем прыгонных сялян падпарадкавацца абшарніцкай уладзе. „Маючы на ўвазе, што ў Копыскім павеце назіраюцца непарадкі паміж сялянамі“, начальнік губэрні асабіста паехаў на месца здарэньня, тым больш, што камандыраваны туды засядатаь земскага суду ні да якіх вынікаў не дайшоў.

Другое-ж данясеньне губарнатара ад 21 лістапада гаворыць аб тым, што хаця сяляне з пакорай і спакоем слухалі ўгаворы губарнатара і яго тлумачэньні аб іхных абавязках, усё-ж „некаторыя з іх выказаліся больш ці менш станоўча, што яны ня будуць слухацца ўладара“. Усе гэтыя сяляне былі арыштаваны і адпраўлены ў астрог.

[1]) Архіў Міністэрства ўнутраных спраў. Земскі аддзел, I справаводзтва, д. № 1 за 1859 г., лл. 29-33; архіў Галоўнага камітэту д. № 28 за 1858-61 гг., ч. III, лл. 97-114.

[2]) Архіў Мін. ўнутрн. спраў, Земскі аддзел, I справодзтва, справа № 1 за 1859 г., л. 90.

[3]) Архіў Міністра ўнутраных спраў, Земскае аддзяленьне, I-ае справоводз. справа № 1 за 1860 г. „Аб выпадках непадчыненьня помешчыцкіх сялян у 1860 г.“ лл. 84, 204 і інш. Тамсама № 2 за 1861 г., лл. 2-3 аб.

Маючы на ўвазе агульнае для ўсяго павету хваляваньне сярод сялян, губарнатар наважыў выясьніць усе тыя повады і прычыны непарадкаў, якія мелі месца ў маёнтку абшарніка Вайніловіча. Які-ж быў непакой і губарнатара і міністра ўнутраных спраў, калі выявілася, што „сяляне не маглі адзначыць ніводнага факту для яго абвінавачаньня і толькі паўтаралі, што ён мала аб іх клапоціцца". Здавалася-б, што адсутнасьць сапраўдных повадаў да непарадкаў павінна была супакоіць губарнатара. Але справа аказалася больш складанай, і, як даносіў начальнік губэрні, „наогул з іх адказаў можна было зрабіць вывад, што яны ня маюць асобных прычын скардзіцца на абшарніка, а хутчэй ім абрыдла яго ўлада" і хаця, як дадаў у сваім дакладзе губарнатар, „няма відавочных повадаў ужыць вайсковую сілу ці іншыя якія суровыя меры", але пры такім настроі, калі бязупынна выказваюцца нездаволеньні абшарнікам, „спакой гэты нельга прызнаць упаўне надзейным тым больш, што такое-ж нездавальненьне выказваецца ў іншых мясцох Копыскага павету" [1]).

Гэта замяшаньне ўлады перад непарадкамі, якія ўсё ўзьнікаюць і маюць выразныя тэндэнцыі не праходзіць і разьвіваюцца пры адсутнасьці звычайных повадаў, г. зн. злоўжыцьця абшарнікамі сваёй уладай, жорсткага абыходжаньня, непасільных павіннасьцяў і інш., надзвычай характэрна. Губарнатар правільна з пункту погляду *сваёй* клясы сыгналізуе небясьпеку таго становішча, што стварылася, бо ён правільна ўлічае, што пачынаецца барацьба на аснове агульнаклясавых інтарэсаў сялянства, якое імкнецца скінуць ярмо прыгоннай няволі; што барацьба гэтая пераходзіць у больш высокую стадыю свайго разьвіцьця ў параўнаньні з тым нядаўным яшчэ часам, калі сяляне той або іншай вёскі падымаліся на барацьбу за свае вузка-мясцовыя інтарэсы, з повадаў і прычын, якія насілі зноў-ткі спэцыфічна-мясцовы характар.

Такое-жа самае становішча, калі абурэньні ахапляюць адносна шырокія сялянскія масы і ў гэты самы час ня прыводзяць яшчэ да адкрытай сутычкі клясаў у масавай барацьбе, мы назіраем у 1860 г. у *Віленскай* губэрні.

Начальнік Віленскай губ. даносіў 20 ліпня ў дэпартамант паліцыі, што значная маса сялян Дзісьненскага павету, прываблена чуткамі аб найме рабочых у Сэвастопаль за вялікую плату, кінулася з абшарніцкіх маёнткаў. Аднак, большасьць сялян далей Дынабургу не пайшла, наняўшыся на чыгунку, якая там будавалася. Апрача таго, ня гледзячы на ўжытыя захады і расстаўленую па дарогах варту, каля 40 прыгонных сялян дзеліся нямаведама дзе. Начальнік губэрні здолеў паставіць гэты асобны як быццам выпадак у сувязь з сялянскімі настроямі наогул. У тым самым данясеньні губарнатар піша: „Але-ж той трывожны стан сялян неўзабаве адновіўся ў другім відзе: у чатырох памешчыцкіх маёнтках таго самага павету сяляне пачалі ўхіляцца ад выкананьня абавязковых для іх, паводле інвэнтарнага палажэньня прыгонных павіннасьцяў, абвясьціўшы абшарнікам, што ў моц новых

[1]) Архіў Міністэрства ўнутраных спраў, Земскі аддзел, справа №1 за 1860 г., лл. 226 об. 233—236; курсыў наш—*Ул. Г.*

інвэнтарных правіл, устаноўленых нібы ўрадам у бягучым годзе, яны апрача прыгонных дзён ня будуць служыць уладару ніякіх другіх павіннасьцяў“ [1]). З той прычыны, што „вразумления“ мясцовай улады ня мелі ніякага посьпеху, генэрал-губарнатар камандыраваў на месца здарэньня асобнага чыноўніка, якому раілася зьвярнуцца за дапамогай да ўзброенай сілы. Такія самыя падзеі здарыліся і ў Віленскім павеце і да таго яны адбываліся ў першую палову жніўня, г. зн. у самы гарачы рабочы час, чым прыносілі абшарнікам вялікія страты.

Трывога, якая ахапіла і губарнатара і Міністэрства ўнутраных спраў у сувязі з гэтымі падзеямі, зразумелая. Непарадкі ў Віленскім і Дзісьненскім павеце, якія ў той або іншай ступені закранулі ўсю сялянскую масу, маюць невыпадковы або прыватны характар. Пачаўшыся ў розных мясцох, стыхійна і ў розны час, яны аб'яднаны адзінствам мэты і маюць адны і тыя самыя карані, далёка не мясцовага парадку. І ў данясеньні сваім у Міністэрства ўнутраных спраў да апісаньня сялянскіх хваляваньняў у Віленскім і Дзісьненскім паветах губарнатар дадаў, што „ўсе гэтыя беспарадкі паміж абшарніцкімі сялянамі трэба прыпісаць трывожнаму чаканьню імі на працягу доўтага часу вырашэньня сялянскіх пытаньняў“ [2]). Інакш кажучы, губарнатар правільна ацаніў гэтыя непарадкі, як выяўленьне імкненьня прыгоннага сялянства рэволюцыйным спосабам вырашыць пытаньне аб сваім вызваленьні.

Такія спробы ў корані супярэчылі „лібэральнаму духу эпохі“, і пасьля зносін з вайсковым ведамствам, прымаючы пад увагу, што Дзісьненскі павет мяжуецца з 4 губэрнямі і з аднаго боку зьяўляецца месцам прытулку для ўцёкшых ад сваіх паноў сялян, а з другога—можа стацца асяродкам заразы, а таксама і на выпадак новых паўстаньняў, было пастаноўлена расквартэраваць у гэтым павеце дадаткова яшчэ адзін батальён пяхоты [3]).

Сялянскія хваляваньні ў *Віцебскай губ.* у гэтым годзе набылі таксама значныя разьмеры, яны таксама пачаліся ў летнія месяцы. Першыя весткі аб непарадках адносяцца да пачатку ліпня, калі сяляне Люцінскага павету маёнтку „Ненадзы“, якое належыла графу Бржастоўскаму, зьявіліся да яго групай у 21 чал., з лаянкай і з шумам, гаворачы яму „Час табе закрыць фабрыку, зьнішчыць засяваны сад, паменшыць засевы на адну дзесяціну супроць засяванай аднэй з трэцю, зьменшыць сенажаці і лішнія аддаць нам“ [4]).

Сялянскія патрабаваньні зусім выразна былі накіраваны супроць прыгоннай эксплёатацыі і выказвалі іх сяляне так энэргічна, што абшарнік напалоханы за сваё жыцьцё, адчуўшы сябе зусім беспарадным, вымушаны быў даць кожнаму селяніну па рублю, каб яны разышліся. Пасьля гэтага граф Бржа-

[1]) Справа Галоўнага камітэту па сялянскай справе № 28, ч. III, 1858—61 г., лл. 271—272 аб. Архіў міністэрства ўнутраных спраў, Земскі аддзел, справа № 1 за 1860 г., лл. 81—97 аб.

[2]) Архіў Міністэрства ўнутраных спраў, Земскі аддз. Справа № 4 за 1860 г. лл. 103-104 аб.

[3]) Тамсама, лл. 109.

[4]) Тамсама, л. 44 аб.

стоўскі натуральна зьвярнуўся да мясцовай улады з просьбай раскватэраваць у раёне вайсковую каманду.

Непарадкі, як протэст супроць прыгоннай стстэмы адбіраньня ад сялян дадатковага продукту, мелі месца і ў Невельскім павеце Віцебскай губ. Сяляне маёнтку „Заверэж'е" аказалі грубае непаслушэнства абшарніку, і парадак быў наведзены толькі пасьля таго, як земскі спраўнік цялесна пакараў некалькіх завадыяшоў. Пры гэтым начальнік губэрні павінен быў прызнаць, што прычынай непарадкаў было „дрэннае кіраваньне г. Рэнтэльна сваімі сялянамі". З пункту погляду інтарэсаў Міністэрства ўнутраных спраў злоўжываньні сваёй уладай ва ўмовах узрастаючых сялянскіх абурэньняў, а значыцца і нарастаючай небясьпекі сялянскай рэволюцыі было зусім недапушчальна, бо шкодзілі клясавым інтарэсам дваранства. Дзеля таго павятоваму прадвадзіцелю дваранства было запрапанавана мець за Рэнтэльнам асаблівы нагляд дзеля „зьнішчэньня ўсялякіх сваволъных з яго боку распараджэньняў і вымаганьняў ад сялян"[1]).

Боязьнь удзелу ў сялянскіх непарадках салдат, распушчаных з палкоў, выказаная яшчэ ў сьнежні 1857 г. міністрам унутраных спраў Ланскім у дакладзе на найвышэйшае імя, знайшла сваё пацьверджаньне ў падзеях, якія мелі месца ў маёнтку абшарніцы Гірцыус у Невельскім павеце. Сяляне катэгорычна адмовіліся адбываць далей паншчыну. Сваімі сіламі прывесьці іх да паслушэнства не ўдалося. Тады быў пасланы ў маёнтак прыстаў, які надумаў у барацьбе з сялянствам абаперціся на адпускных салдат. Аднак, апошнія падтрымлівалі ня прыстава, але прыгоных сялян і разам з імі пабілі прыстава[2]).

Непарадкі, зьвязаныя з адмаўленьнем адбываць паншчыну, адбыліся ў восень 1860 г. у Дынабурскім павеце ў маёнтку „Магнусава", якое належыла абшарніку Тызэнгольцу. Адзінаццаць дамаўласнікаў, якія ня былі адпушчаны абшарнікам на аброк, адмовіліся ўрабляць абшарніцкую зямлю, убіраць гаспадарскае сена і хлеб. Станавы прыстаў прыняў „законныя меры", каб навесьці парадак, але сяляне стаялі на сваём. Прымаючы пад увагу, што непарадкі адбываліся ў разгар уборачных работ, і, баючыся іх распаўсюджаньня, а ўвогуле „ў мэтах унікненьня магчымых больш важных вынікаў", Земскі суд камандыраваў на месца абурэньня часовае аддзяленьне, якое, аднак, спазьнілася, бо станавы прыстаў „энэргічнымі" захадамі прывёў прыгонных сялян да належнага паслушэнства"[3]).

У пачатку сьнежня абурэньні сялян, зноў-такі на грунце адбываньня паншчыны, паўтараліся ў Люцынскім павеце ў маёнтку „Краснапольле" абшарніка Сакалоўскага. Першае данясеньне, атрыманае губарнатарам, гаварыла аб тым, што сяляне адмовіліся ад якіх-бы там ні было павіннасьцяў, ня слухаюць і выганяюць войта, ня выконваюць загаду абшарніка аб вывазе купленага ім яравога і ржанога хлеба з суседняга маёнтку і, нарэшце, патрабавалі, каб абшарнік зьняў з іх усю іхнюю нядоімку за мінулыя

[1]) Тамсама, л. 101.
[2]) Тамсама, л. 165 аб.
[3]) Тамсама, лл. 196-197.

гады. З той прычыны, што „ў селян Сакалоўскага быў відаць дух непакорства“, спраўнік ужыў усе захады, каб зламаць іх. Аднак, дасягнуць спыненьня непарадку ўдалося толькі пасьля таго, як абшарнік выканаў некаторыя патрабаваньні сялян, а менавіта, зьмяніў войта, назначыўшы другога з сялян і вызваліў іх ад перавозкі і абмалоту купленых ім 400 копнаў хлеба. Такім чынам, гэтыя непарадкі скончыліся перамогаю сялян, чаму ня мала спрыяла вялікая колькасьць удзельнікаў гэтых абурэньняў і іх упартасьць. Губэрскае начальства, вітаючы зробленыя сялянам уступкі, як меру, прывёўшаю да спыненьня непарадкаў, непакоілася, пэўна, што гэтая перамога падвысіць настроі прыгонных сялян і прывядзе да новых ускладаньняў, раіла павятоваму прадвадзіцелю ўжыць захады „да ўнікненьня на будучы час у маёнтку Сакалоўскага ўсялякіх непарадкаў, а тамтэйшаму спраўніку загадала мець нагляд за жыцьцём сялян Сакалоўскага“ [1]).

Гэта боязнь малейшага палепшаньня становішча прыгонных сялян незалежна ад таго, зьяўляецца яна вынікам сялянскай барацьбы ці „лібэральнічаньня“ абшарніка,—гэта боязнь на фоне падрыхтоўкі „19 лютага“ асабліва ярка выявілася ў часе вельмі цікавых непарадкаў, якія мелі месца ў жніўні месяцы ў Веліскім павеце. Абшарнік Веліскага павету адстаўны генэрал-маёр Булгакоў, які стала жыў у Пецярбурзе і пэўна добра ведаў аб намерах ураду па вырашэньню сялянскага пытаньня, у адзін з прыездаў сваіх у маёнтак „Грабліна“ ў пачатку ліпня адзначыў свой прыезд, як павядамлялася ў данясеньні Віцебскага губарнатара ў дэпартамант „поліцыі исполнительной“, дараваньнем сялянам розных ільгот „*в ущерб господскому хозяйству*“ [2]). Ацэнка, даная тут „рэформам“ абшарніка мясцовай уладай і ўспрынятая губэрскім начальствам, сьведчыць аб адмоўных іх з самага пачатку адносінах да мерапрыемстваў Булгакова. Паглядзім, у чым заключаліся гэтыя „рэформы“. Паводле сьведчаньня губарнатара, Булгакоў вёў гутаркі з сялянамі, дапушчаў да сябе кожнага, абыходзіўся з імі з асаблівай далікатнасьцю, пашыраў правы старасты, казаў кіраўніку не шкадаваць яго грошай для сялян і, нарэшце, перад ад‘ездам у пачатку жніўня сабраў сход сялян і абвясьціў ім, што ніхто караць іх ня можа, а правіны павінна разьбіраць сама грамада. Архіўная справа не дае матар‘ялу для вырашэньня таго пытаньня, што кіравала Булгаковым, да якіх мэт ён імкнуўся, устанаўляючы такія надзвычайныя для гэтай эпохі адносіны паміж сялянамі ды іх панамі. Мо‘ ён сапраўды быў шчырым і пасьлядоўным прыхільнікам лібэральных рэформ зьверху і хацеў падаць асабісты прыклад, а мо‘ ён хацеў гэтым, ва ўмовах узрастаючай небясьпекі сялянскай рэволюцыі, задобрыць сваіх прыгонных і гэтым застрахаваць сваю маемасьць і сваю асобу ад пагражаючых няпрыемнасьцяў. У канчатковым выніку гэтае пытаньне не становіць для нас асаблівай цікавасьці. Трэба адзначыць толькі,

[1]) Тамсама, лл. 248-249.

[2]) Архіў Міністэрства ўнутраных спраў. Справа № 1 за 1860 г. па земскаму аддзелу, лл. 193—196. Курсыў наш—*У. Г.*

што, прабыўшы амаль месяц у сваім маёнтку, сам абшарнік разьвітаўся з сваімі прыгоннымі зусім мірна, не заўважыўшы ніякай для сябе шкоды ад тых навін, што ён уводзіў у маёнтку. Але гэтыя навіны не давалі, пэўна, спакойна спаць ні мясцовай уладзе, ні суседнім абшарнікам.

Назаўтра-ж пасьля ад‘езду абшарніка ў ход пушчаецца цэлая сыстэма провокацыі, маючая на мэце выклікаць сялян на непарадкі з тым, каб атрымаць повад і права ўмяшацца ў справы маёнтку, бо бяз гэтых непарадкаў цяжка было адважыцца нарушыць прынцыпы няўмешваньня дзяржаўнай улады ў адносіны паміж вотчыньнікам ды яго прыгоннымі, пакольні яны ня выходзілі за межы, устаноўленыя законам. Мясцовая ўлада заявіла, што яшчэ ў прысутнасьці самога Булгакова ў маёнтку „працаваць пачалі ўжо нядбала, з вялікімі ўпушчэньнямі і шкодай для ўласьніка“. Мотыў вельмі грунтоўны, каб другія лібэральнічаўшыя абшарнікі ня бралі прыкладу з генэрала Булгакова. Апошні выехаў з маёнтку 4 жніўня, а ўжо 5-га ў маёнтак прыехаў мясцовы станавы прыстаў, які, ведаючы пра „новыя правы“, якія даў быў абшарнік сваім сялянам, пачаў рабіць заўвагі старасьце за тое, што ён курыў люльку „каля панскага дому“. У адказ на гэта стараста „адказвае дзерзка“: „не тваё згарыць, я буду адказваць, мне генерал все поручил, а ты без дела ко мне не приезжай.“ Апрача таго, станавы прыстаў у сваім данясеньні скардіўся, што стараста зрабіў вобыск яго рэчаў у вазку. Атрымаўшы данясеньне аб гэтым, спраўнік даў загад „мець назіраньне, каб непарадак па гаспадарцы ў маёнтку Булгакова *не адбіўся на суседзкіх маёнтках*“. Але адным назіраньнем нельга было ліквідаваць становішча, якое стварылася, калі сяляне, карыстаючыся імем свайго пана, ня слухаліся прадстаўнікоў улады. Дзеля таго той самы станавы прыстаў надумаў спровокаваць булгакоўскіх сялян на рынку ў маёнтку „Велішча“, якое належыла другому абшарніку. На скаргу мясцовага пана, якога быццам зьняважыў граблінскі стараста, станавы прыстаў загадаў пяцісоцкаму ўзяць старасту. У адказ на гэта апошні закрычаў: „сюды хлопцы, мяне хоча станавы прыстаў узяць і адасласць у суд“. У выніку гэтага, згодна з данясеньнем губэрнатара, зьбегліся сяляне абшарніка Булгакова ў ліку больш 50 асоб і ня толькі вызвалілі свайго старасту, але яшчэ „нагаварылі станавому прыставу розных дзерзкасьцяў і ўсяк лаялі яго“. Губэрскае праўленьне, атрымаўшы ад мясцовага спраўніка данясеньне аб тым, што здарылася, загадала яму, каб ён „нечакана выехаў на месца ў складзе часавога аддзяленьня, наладзіў адзначанымі ў законе мерамі ў маёнтку Булгакова парадак і паслушэнства і выкрыў галоўных неслухаў паліцэйскай улады“. Спраўнік абышоўся з сялянамі згодна з адпаведным артыкулам збору законаў і перадаў вінаватых судоваму сьледчаму, каб было зроблена формальнае сьледзтва [1]).

Дваранства адно больш, другое менш ахвотна ішло на абгаварэньне захадаў за „палепшаньне жыцьця“ прыгонных сялян,

[1]) Тамсама.

пакуль гэта палепшаньне здавалася справай вельмі і вельмі далёкай. Але як толькі яно рабілася рэальным і непасрэдна блізкім, тады нават найбольш лібэральныя з іх білі адбой ад іхняй руплівасьці аб сялянах не заставалася і знаку. Чаго-ж можна было спадзявацца ад станавога прystава і земскага спраўніка? Досыць нязначныя па сутнасцці „рэформы“ генэрала Булгакова напалохалі як сваёй рэальнасьцю, як тым, што яны сыгналізавалі пераход ад бясстратных гутарак да справы і яшчэ зусім не па ініцыятыве вярхоўнай улады (недарма-ж губарнатар, а з ім і міністэрства ўнутраных спраў фактычна ўхвалілі ўчынкі мясцовай улады), так і тым, што сяляне другіх суседніх маёнткаў маглі патрабаваць для сябе аналёгічных рэформ. Непарадкі і былі спровокаваны з мэтай паказаць і абшарнікам і сялянам, да чаго даводзіць, з аднаго боку, надмерны лібэралізм у адносінах да прыгонных (матар'яльная шкода!), а з другога, што чакае сялян, выявіўшых непаслушэнства ўладзе і ня выканаўшых сваіх абавязкаў перад панамі (дваранскі суд!). Сапраўды, гаворачы словамі графа Кісялёва, няволя, паводле іхняга пляну, павінна была зьнікнуць зусім неўзаметку для самога нявольніка.

Чакаючы вырашэньня сялянскага пытаньня ў Пецярбурзе, вядучы барацьбу з небясьпечнай для „грамадзкага спакою“ ініцыятывай паасобных абшарнікаў, губэрская ўлада перад наступам сялянскіх непарадкаў, якія ўсё ўзмацняліся, натуральна імкнулася да зьнішчэньня асобных повадаў і прычын, выклікаўшых гэтыя абурэньні, якія паддавалі жару і ў без таго досыць распаленую атмосфэру. У гэтых адносінах характэрныя непарадкі, якія адбыліся ў маёнтку абшарніка Варачынскага ў *Віленскім* павеце ў пачатку студзеня 1861 году. Уласна кажучы, непарадкаў сур'ёзных ня было. Варачынскі вінаваціў сваіх сялян у непаслушэнстве і замаху на яго жыцьцё, у выніку чаго ў маёнтак было прыкамандыравана часовае аддзяленьне суду, узяўшае з сабой інвалідную каманду. Начальнік губэрні ўбачыў у пастанове земскага суду нарушэньне закону, бо суд абгрунтаваўся на беспадстаўным іаднабокім абвінавачваньні самога абшарніка. „І залішняя пасьпешнасьць земскага начальніка ў прыняцці суровых мер у справе, патрабуючай большай асьцярожнасьці і хутчэй нават мяккасьці, баязьлівасьці водгукаў і толкаў“—гаворыць данясеньне ў дэпартамант паліцыі—„прымусілі начальніка губэрні асабіста выбыць у горад Вілейск“[1]). Начальнік выявіў, што прычынай непаразуменьняў зьявілася патрабаваньне абшарніка да сялян заплаціць падаткі за тры мінулыя паўгодзьдзі, што складала пяць рублёў срэбрам з цягла. Гэтае патрабаваньне зьявілася, зразумела, надмерным для сялян „ня так багатых і заможных“.

Часовае аддзяленьне зрабіла вывад, што „сяляне адраблялі падаткі лішняй работай“ і дзеля таго зацьвердзіла нядоімку ў разьмеры 71,5 кап. срэбрам з душы. Апрача таго, начальнік губэрні „внушил“ абшарніку не злоўжываць уладай і памагчымасьці ўнікаць сутычак з сялянамі, якім ён загадваў слухацца. Ясна,

[1]) Арх. Мин. Вн. Дел по земскому отд. Центр. Статист. Комитета, № 2 за 1861 г. „О беспорядках в помещичьих имениях в 1861 г.“, лл. 6-8, курсыў мой—*Ул. Г.*

што ў другі час сяляне абшарніка Варачынскага ня толькі не дамагліся-б зьнішчэньня нядоімкі, але яшчэ пацярпелі-б за спробы супраціўляцца вотчыннай уладзе. Іхні посьпех трэба прыпісаць магутнасьці і размаху сялянскай барацьбы ва ўсёй Расійскай імпэрыі ў той час барацьбы, якая прымусіла і самаўладзтва і частку дваранства стаць на шлях хаця і прыгоньніцкага, але ўсё-ж вырашэньня сялянскага пытаньня. У гэтых умовах, калі галоўная небясьпека была ў сялянскай жакерыі, раздразьняць прыгонную масу злоўжываньнямі абшарніцкай уладай і строгімі, у гэтых умовах, і шкоднымі мерамі земскага начальніка было проста не ў інтарэсах пануючай клясы, гэта было, нават небясьпечна.

Канчаючы гэтым агляд сялянскіх абурэньняў на Беларусі на пярэдадні „19 лютага", мы можам адзначыць значны адносна ўзрост ня толькі ліку непарадкаў да 61 г. , але таксама і зьмены якаснага парадку. Непарадкі маюць больш ўпарты характар, узрастае іх працягласьць, сялянскія абурэньні, зьвязаныя з прычынамі і повадамі мясцовага парадку, трацяцца цяпер сярод тых, у аснове якіх ляжыць барацьба супроць прыгоннай эксплёатацыі ў цалку. Зусім натуральна, што ў працэсе гэтай барацьбы сялянства няўхільна стыкалася з усім апаратам дзяржаўнай улады, якi стаяў за сьпіной абшарніка і падтрымліваў яго.

Асаблівасьцю сялянскіх рухаў на Беларусі напярэдадні рэформ 1861 г. зьяўляецца іх адставаньне ў параўнаньні з сялянскай барацьбой як у самой Расіі, таксама і ва ўсходніх і паўднёва-ўсходніх колёніях былой Расійскай імпэрыі. Адставаньне гэта тлумачыцца, на наш погляд, тым, што колёніяльная і нацыянальная політыка на Беларусі ва ўмовах вялізарных сялянскіх непарадкаў 40-х гадоў, паставіла на парадак дня пытаньне аб увядзеньні ў абшарніцкіх маёнтках інвэнтарных правіл. Пашырэньне ліку дзяржаўных сялян з пераводам на чынш, становішча якіх уцалку, хаця-б у сэнсе асабістай залежнасьці, было лепшае, чым у абшарніцкіх, таксама можа адыграць сваю ролю. У выніку гэтага пасьля значнага ўздыму сялянскай барацьбы 40-х гадох мы назіраем пэўны спад як у першай палове 50-х гадоў, так і непасрэдна пасьля севастопальскага разгрому.

Проблема ўвядзеньня інвэнтарных правіл ва ўмовах упартага супраціўленьня з боку абшарнікаў Беларусі ўсіх нацыянальнасьцяў адцягнула сялянскую масу ад той непасрэднай барацьбы за сваё поўнае вызваленьне, якую вяло прыгоннае сялянства мэтраполіі. Другая прычына, выклікаўшая, на наш погляд, адносную слабасьць сялянскай барацьбы напярэдадні 19 лютага, гэта тое, што спэцыфічныя асаблівасьці становішча беларускага селяніна ў той час, а менавіта фэўдальна-прыгоньніцкая эксплёатацыя плюс нацыянальнае прыгнечаньне, не знайшлі яшчэ тады свайго як сьлед выразнага выяўленьня ў сялянскай барацьбе.

Але нябывалы ўздым сялянскіх абурэньняў і паўстаньняў, накіраваных супроць усёй прыгоннай сыстэмы і дваранскай дзяржаўнасьці, у другіх раёнах былой царскай Расіі, ня мог не адбіцца на характары руху беларускага сялянства, дапамагаючы яго пераключэньню на барацьбу за зьнішчэньне прыгоннай

залежнасьці. І сапраўды, на працягу 59-60 гг. беларускі сялянск рух уключаецца, уліваецца ў агульна-расійскі. Калі-ж к „19 лютага" сялянская маса Беларусі прышла яшчэ захаваўшы, і досыць значна, ілюзіі адносна вярхоўнай улады, быццам-бы здольнай абараніць яе ад абшарнікаў праз „урэгуляваньне" іхных узаемаадносін, гэта і ёсьць адна з спэцыфічных асаблівасьцяў сялянскага руху гэтай колёніі Расійскай імпэрыі, зьвязаная з палітыкай інвэнтароў, дык само палажэньне „19 лютага" ўсёй сваёй прыгонна-абшарніцкай сутнасьцю дапамагала хуткаму ажываньню і перамозе. гэтых ілюзій. ...„Што да сялян, то іх удзел у нацыянальным руху залежыць перш за ўсё ад характару рэпрэсій. Калі рэпрэсіі закранаюць пытаньні „зямлі", як гэта было ў Ірляндыі, то шырокія масы сялян неадкладна становяцца пад сьцяг нацыянальнага руху" (Сталін). „19 лютага" і зьявілася той рэпрэсіяй, якая закранула пытаньне „зямлі".

І адбылося тое, што павінна было адбыцца. Беларускае сялянства на пачатку 60-ых гг. высоўваецца на перадавую лінію агульнарасійскага дэмакратычнага руху. Царызму прышлося ўжыць шмат намаганьняў палегчаных, праўда, контррэволюцыйнай дзейнасьцю белага і непасьлядоўнай, замала рэволюцыйнай дзейнасьцю чырвонага жонду ў паўстаньні 1863 г., каб зьбіць так высока паднятую хвалю сялянскага руху.

Менск, 11 сакавіка 1932 г.

---

І. Гершэнбаўм

# Яўрэйскую навуковую работу на вышэйшую ступень

Мы мелі цэлы рад прарываў у навуковай рабоце Яўрэйскага сэктару Беларускай Акадэміі Навук. Панаваў „бюргфрыдэн“ паміж навуковымі работнікамі Яўсэктару і паміж фашызаваным „Яўрэйскім навуковым інстытутам“ у Вільні. Да работы ў Яўсэктары дапушчаліся буржуазныя вучоныя з „Віленскага Навуковага інстытуту“. Партыя выкрыла нацыянальна-опортуністычныя ўстаноўкі з боку навуковых работнікаў, якія рабілі націск на клясавы мір у яўрэйскай навуковай рабоце. Самакрытыка з боку рабочых і працоўных мас дапамагла дэмаскаваць нацыянал-опортуністаў у навуковай рабоце. Устаноўка гэтых „людзей навукі“ на „чысты акадэмізм“ мела мэтай адасобіцца ад працоўных, каб няпрыметна для іх выконваць функцыю буржуазнай навукі ў нашай краіне. Нацыянальная абмежаванасьць, адрыў тэорыі ад практыкі, замкнутасьць у цесным кругу некалькіх навуковых работнікаў, боязьнь дапусьціць працоўныя масы ў „святы храм“ навукі—усё гэта зьвеньні аднаго опортуністычнага ланцуга. Дзякуючы крытыцы і самакрытыцы з боку рабочых і працоўных мас пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, удалося ачысьціць Яўсэктар ад нацдэмаўскіх і нацыянал-опортуністычных навуковых працаўнікоў. Быў зьняты з работы „навуковы работнік“ Раўрэбе, якога газэта „Акцябр“ вельмі правільна назвала „доцэнтам у ярмолцы“. Нацдэмаўскі „навуковы працаўнік“ І. Гольдбэрг і нацыянал-опорнуніст І. Сосіс.

Апынуўшыся пад агнём самакрытыкі, нацыянал-опортуністы пачалі контр-атаку супроць партыі, высунуўшы лёзунг, што партыя не дае магчымасьці весьці навуковую работу. Гэты лёзунг фактычна падхапілі „лявацкія“ элемэнты, выступаўшыя з ліквідатарскімі лёзунгамі і дакаціліся да вялікадзяржаўнага шовінізму. Ліквідатарскія элемэнты, прыкрываючыся „левымі“ фразамі, матывавалі свой пункт погляду тым, што старыя „навуковыя працаўнікі“ няздольны перабудавацца адпаведна з патрабаваньнямі партыі, маладых навуковых працаўнікоў у нас няма, іх трэба падрыхтаваць, пагэтаму на даным этапе немагчыма весьці навуковай работы. Адсюль вывад—ліквідаваць Яўсэктар, або ператварыць Яўсэктар

ва ўстанову, якая будзе займацца зьбіраньнем сырога матар'ялу для будучых комуністычных навуковых працаўнікоў.

У барацьбе на два фронты пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі Яўсэктар мае значныя дасягненьні ў галіне перабудовы навуковай работы ў адпаведнасьці з задачамі соцыялістычнага будаўніцтва. На працягу 1931 г. колькасьць навуковых супрацоўнікаў сэктару ўзрасла з 7 да 17, колькасьць асьпірантаў з 2 да 7. Пры наяўнасьці 13 асьпіранцкіх месц 6 яшчэ незапоўненых. У сучасны момант значна ўзьнялася якасьць навуковай работы ў сэнсе тэматыкі. Пералом у рабоце сэктару пачаўся з таго, што сэктар сарваў маску з клерыкалаў, якія, прыкрываючыся „рэлігійнасьцю", вядуць контррэволюцыйную работу ў краіне, ідуць рука аб руку з папай Піем XI-м у крыжовы паход супроць бальшавізму і навукі. Справа ідзе аб брошуры „Рабіны на службе фінансавага капіталу". Гэтая брошура сустрэла гарачы прыём як сярод працоўных Саюзу, так і за межамі. Усе брацкія комуністычныя газэты і часопісы ў капіталістычных краінах, як Амэрыка, Латвія, Польшча, Румынія, і інш. цёпла адклікаліся аб гэтай рабоце і выкарыстоўвалі матар'ялы гэтае брошуры для дэмаскаваньня сапраўднай сутнасьці рэлігіі і дзейнасьці яўрэйскіх клерыкальных організацый.

Другім паказчыкам перолому ў рабоце Яўрэйскага сэктару БАН зьяўляецца выданьне зборніка „Фашызаваны ідышызм і яго навука". Гэты зборнік вельмі быў правільна ацэнены як нашымі клясавымі ворагамі, так і нашымі прыяцелямі. Гэта была атака супроць фашызаванага „яўрэйскага Навуковага" Інстытуту. Гэты зборнік поўнасьцю дэмаскаваў ідышысцкую навуку, якая мае мэтай узмацніць фашысцкае панаваньне, фашысцкую дыктатуру ў капіталістычных краінах і ўключыцца ў адзіны фронт супроць балшавізму, супраць савецкай улады, выяўляючы яскрава змычку фашысцкіх ідышысцкіх „вучоных" з клерыкалізмам. Гэты зборнік меў вялікі ўплыў на шырокія масы яўрэйскіх рабочых і працоўных у барацьбе за вызваленьне адсталых яўрэйскіх рабочых і працоўных ад нацыяналістычных настрояў. Амаль, што ўсе брацкія комуністычныя газэты і журналы перадрукавалі цэлыя артыкулы і вытрымкі з гэтага зборніку. Соцыял-фашысты, скрыгочучы зубамі, гаварылі аб гэтым зборніку. Гэты зборнік спаліў апошні мост паміж Яўсэктарам і фашызаваным Віленскім Яўрэйскім Навуковым Інстытутам.

* * *

Дзейнасьць Яўрэйскага сэктару ў 1931 годзе ўяўляе сабой шырока разгорнутую навуковую работу. У работу сэктару ўкараняецца лёзунг тав. Сталіна аб сувязі паміж тэорыяй і практыкай. Лёзунгі партыі аб тым, што навука павінна стаць на службу соцыялістычнаму будаўніцтву, знаходзяць свой адбітак у працы большасьці навуковых супрацоўнікаў сэктару. Робіцца першая спроба пляна ваньня навуковай работы. Вось як ацэньвае Бюро партколектыву БАН работу Яўсэктару на даным этапе. „У працы сэктару маецца значны пералом: у напрамку падпарадкаваньня працы задачам соцыялістычнага буданіцтва, у напрамку ліквідацыі адрыву тэорыі

ад практыкі (плян працы на 1932 год, яго тэматыка, паасобныя працы на 1931 г., „абсьледваньне мястэчак БССР, узьнікненьне яўрэйскага рабочага руху на Беларусі"), у напрамку барацьбы супроць нацдэмаўшчыны (зьняцьце Сосіса з кіраўнічай працы ў выніку крытычнай праверкі яго продукцыі і поўнае аслабаненьне яго ад працы, барацьба на літаратурным фронце, выданьне работы Дунца супроць Літвакова, выданьне работы Дунца супроць правага і „левага" опортунізму ў экономічнай працы сярод яўрэйскіх працоўных, выступленьне таварышоў Гершэнбаўма і Аляксандрава супроць Дзіхцяра". (З рэзолюцыі Бюро партколектыву БАН).

*У 1931 годзе працавалі наступныя камісіі:* гістарычная, соцыяльна-экономічная, літаратурная і лінгвістычная.

*Гістарычная камісія.* Камісія за 1931 год правяла значную работу па дэмаскаваньню нацыяналістычнай концэпцыі былога кіраўніка камісіі—нацопортуніста І. Сосіса. Барацьба супроць Сосіса пачалася па-за сьценамі Акадэміі ў сэмінарах на яўрэйскай сэкцыі Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту. Гістарычная камісія правяла 3 вялікіх дыскусійных вечары, у якіх прымала ўдзел значная колькасьць навуковых працаўнікоў, культработнікаў і рабочых.

Камісія за 1931 год дала наступныя працы:

Чарняўскі — „Рэволюцыйнае народніцтва ў яўрэйскім асяродзьдзі".

Чарняўскі — „Узьнікненьне рабочага руху ў БССР".

Рубін Я. І. і Голмшток Л. працуюць над тэмай „Яўрэйская буржуазія ў рэволюцыі 1905 году". Прапушчана праз дыскусію работа тав. Чарняўскага „Яўрэйскі рабочы на Беларусі пры ўзьнікненьні рабочага руху".

*На 1932 год намечаны наступны плян:*

1) Соцыяльныя карэньні нацопортунізму ў яўрэйскім асяродзьдзі—І. Чарняўскі.

2) Да пытаньня аб мэтодолёгіі яўрэйскага рабочага руху—І. Чарняўскі.

3) Яўрэйская буржуазія ў рэволюцыі 1905 году —Я. Рубін і Л. Голомшток.

4) Вывучэньне гісторыі фабрык і заводаў.

Як відаць з тэматыкі, гістарычная камісія наблізілася да вывучэньня гісторыі рабочага руху і ўключылася ў барацьбу за партыйнасьць у гістарычнай навуцы. Але „гістарычная камісія ня прыступіла да распрацоўкі проблем па гісторыі савецкага пэрыоду" (з рэзолюцыі сходу прартгрупы Яўсэктару ад 23-га лютага 1932 году).

Гістарычная камісія не вяла барацьбы супроць ідэалізацыі „Бунду". Толькі ў апошнія месяцы, гэта значыць у першым квартале 1932 году, супрацоўнікі камісіі напісалі рад крытычных артыкулаў супроць бўндаўскай фальсыфікацыі гісторыі яўрэйскага рабочага руху. Камісія не намеціла ў сваім пляне работы такіх актуальных і важных пытаньняў, як асьвятленьне контррэволюцыйнай

ролі яўрэйскага соцыял-фашызму ў капіталістычных краінах, іх барацьбы супроць сусьветнага комуністычнага руху. Распрацоўка гэтых проблем мае вялікае значэньне для комуністычных партый капіталістычных краін, яна дапамагае бальшавізацыі яўрэйскіх рабочых у іх барацьбе супроць яўрэйскіх соцыял-фашыстаў.

Камісія яшчэ ня досыць рашуча вядзе барацьбу супроць яўрэйскіх фашысцкіх гісторыкаў, як Дубноў, Шыпер і інш. Дэмаскаваньне гэтых „гісторыкаў" у вачох яўрэйскіх рабочых і працоўных мае вельмі вялікае значэньне, бо яны выступаюць адзіным фронтам разам з яўрэйскімі фашыстамі.

*Соцыяльна-экономічная камісія.* Перад соцыяльна-экономічнай камісіяй стаяла пытаньне аб непасрэднай увязцы навуковай работы з задачамі партыі ў галіне экономічнага ўпарадкаваньня яўрэйскіх працоўных БССР. Сумесна з нацкамісіяй ЦВК БССР былі абсьледаваны 13 мястэчак БССР. Абсьледаваньне мела мэтай высьветліць тыя дасягненьні, якія мы маем у галіне гаспадарчага ўпарадкаваньня мястэчак і намеціць пэрспэктывы іх далейшага гаспадарчага ўпарадкаваньня. У выніку абсьледваньня мы павінны былі атрымаць падрабязны малюнак аб наяўных контынгентах для перасяленьня ў Біра-Біджан і Крым. На аснове матар'ялаў абсьледваньня Прэзыдыум ЦВК БССР прыняў пастанову, дзе вызначаюцца дасягненьні ленінскае нацыянальнае політыкі і асноўныя лініі далейшага экономічнага ўпарадкаваньня яўрэйскага працоўнага насельніцтва. Камісія прымала таксама ўдзел у барацьбе супроць правых і „левых" опортуністычных скажэньняў экономічнай работы сярод яўрэйскіх працоўных. Тт. Аляксандраў і Гершэнбаўм выступілі з артыкулам супроць нацопортуністычнага пункту погляду Дзіхцяра. Друкуецца кніга тав. Дунца „Супроць правых і „левых" ухілаў у экономічнай рабоце сярод яўрэйскіх працоўных".

*На 1932 год соцыяльна-экономічная камісія намеціла наступны плян работы:*

1) 15-я гадавіна Кастрычнікаўскай рэволюцыі і яўрэйскія працоўныя БССР—зборнік.

2) Склад рабочае клясы БССР (сумесна з іншымі нацсэктарамі БАН і Інстытутам экономікі).

3) Працоўныя яўрэі ў Польшчы—т. Г. Аляксандраў.

4) Працоўныя яўрэі ў Заходняй Беларусі—т. І. Гершэнбаўм.

5) Нацыянальныя колгасы БССР—т. Фішар.

Але соцыяльна-экономічная камісія да гэтага часу не зьвязалася непасрэдна з работай Комзэту і Озэту. Яна ня зьвязана з Дзяржплянам, у ёй не сконцэнтраваны найбольш важныя статыстычныя матар'ялы аб яўрэйскім насельніцтве БССР. Адным з найбольш важных недахопаў у рабоце камісіі зьяўляецца тое, што яна зусім не займалася пытаньнем Біра-Біджану. Асабліва трэба падкрэсьліць, што тэмпы работы камісіі не адпавядаюць тым патрабаваньням, якія перад ёю стаяць. Апрацоўка матар'ялаў абсьледваньня мястэчка ідзе вельмі марудна.

Буйным недахопам работы соцыяльна-экономічнай камісіі трэба лічыць тое, што Комзэт і Озэт да гэтага часу ня высоўвалі непасрэдна ніякіх пытаньняў для распрацоўкі яўрэйскімі навуковымі ўстановамі. Неабходна каб Комзэт і Озэт больш шчыльна зьвязаліся з яўрэйскімі навуковымі ўстановамі і непасрэдна з соцыяльна-экономічнымі камісіямі гэтых установ, высоўваючы перад імі конкрэтныя задачы; з гэтага пункту погляду трэба вітаць пастанову пленуму цэнтральнага кіраўніцтва Озэту ў сакавіку 1932 г. аб стварэньні навуковай брыгады пры цэнтральным кіраўніцтве Озэт і аб стварэньні такіх-жа брыгад пры рэспубліканскіх кіраўніцтвах. У навуковую брыгаду павінны быць уцягнуты соцыяльна-экономічная камісія Яўсэктару БАН, соцыяльна-экономічная сэкцыя Інстытуту яўр. пролетарскай культуры пры ВУАН у Кіеве.

*Літаратурная камісія.* Літаратурная камісія займала значнае месца ў мэтодолёгічных бойках на літаратуразнаўчым фронце. Тут варта адзначыць наступныя працы ў гэтай галіне:

1. М. Эрык—Шолам Аш.
2. Х. Дунец—„Тэорыя ператварэньня“ тав. Літвакова.
3. Мэтодолёгічны зборнік.

Камісія ўвесь час працавала ў цеснай сувязі з Белаппам. Буйным недахопам яе работы трэба лічыць тое, што Яўсэктар у цэлым і літаратурная камісія ў прыватнасьці ня выявілі сваіх адносін да дыскусіі, якая вялася навакол кнігі тав. Броништэйна „Атака“.

У літаратурнай камісіі маецца ўсяго толькі два штатных супрацоўнікі—тт. Эрык М. і Броништэйн Я. Прыгэтым трэба адзначыць, што, пачынаючы з верасьня мясяца 1931 г., т. Эрык знаходзіцца ў камандыроўцы ў Кіеве, куды ён быў накіраваны да 1-га мая, каб дапамагчы там наладзіць работу літаратурнай сэкцыі Кіеўскага інстытуту. Такім чынам, у літаратурнай камісіі працаваў адзін сталы навуковы працаўнік—тав. Броништэйн Я. Гэтым часткова тлумачыцца тое, што ў камісіі меў месца прарыў, і яна не працавала шэсьць месяцаў. Тут трэба прыняць пад увагу, што тав. Броништэйн перагружаны работай у Вышэйшым пэдагогічным інстытуце. Літаратурная камісія мае 5 асьпірантаў. Асьпіранты павінны быць прыцягнуты да работы ў камісіі. Маецца рад па-заштатных членаў, як тт. Дунец, Дамэсек і інш.

*На 1932 год намечаны наступны плян работы:*

1) Гісторыя яўрэйскай савецкай пролетарскай літаратуры (падручнік для пэдтэхнікумаў і ВНУ).

2) Яўрэйскі соцыял-фашызм, яго літаратура, крытыка і літаратурная політыка.

3) Нарысы па гісторыі яўрэйскай крытыкі.

*Лінгвістычная камісія.*

Лінгвістычная камісія на 1932 год закончыла: 1) Лінгвістычны атляс, над якім нябожчык т. Вэйнгер працаваў на працягу

некалькіх год. Закончыў атляс і напісаў прадмову да яго тав. Л. Віленкін. 2) Беларуска-яўрэйскі слоўнік. 3) Ударнымі тэмпамі складзена сельска-гаспадарчая тэрміналёгія дапамогай аграномаў тт. Х. Файнзільбэра і К. Бязносіка.

У рабоце лінгвістычнае камісіі неабходна зазначыць наяўнасьць паўзучага эмпірызму, ухіленьне ад ідэолёгічнае барацьбы па асноўных проблемах лінгвістыкі.

Перад лінгвістычнай камісіяй асабліва востра стаіць пытаньне барацьбы супроць ідэалізму, паколькі ідышызм распускае свае крыльлі над яўрэйскімі працоўнымі ў капіталістычных краінах у форме зьбіраньня розных матар'ялаў для „Віленскага Яўрэйскага Навуковага Інстытуту“. Выкрыцьцё фашысцкага характару ідышысцкіх „мовазнаўцаў“—гэта адна з найбольш важных задач, якія стаяць перад лінгвістычнай камісіяй. Недапушчальным зьяўляецца тое, што лінгвістычная камісія крытычна не адгукнулася на ортографічную конфэрэнцыю „Віленскага Навуковага Інстытуту“, якая адбылася ў 1931 годзе.

**На 1932 год намечаны наступны плян работы камісіі.**

1) Тлумачальны слоўнік яўрэйскай мовы (на працягу 1932 г. выпрацаваць організацыйныя, мэтодолёгічныя, мэтодычныя і тэхнічныя прынцыпы слоўніка, скласьці вокабуляр і апрацаваць каля 4-6 тысяч слоў. Над гэтай работай працуюць тт. Х. Голомшток, К. Бязносік, Х. Файнзільбэр, Г. Шкляр.

2) Мэтодолёгічныя прынцыпы складаньня яўрэйскага тлумачальнага слоўніка—т. Х. Голомшток.

3) Проблема ліку і дапасаваньня—т. Х. Голомшток.

4) Мэтодолёгія тэрміналёгічнай лексікі—т. Х. Файнзільбэр.

5) Мова менскіх рабкораў—т. Г. Шкляр.

6) Моўныя новатворы, як органічны элемэнт стыль пісьменьніка—т. К. Бязносік.

Да гэтага часу сэктар ня вёў сыстэматычнай антырэлігійнай работы. Час ад часу даваліся кароткія антырэлігійныя артыкулы. Як эпізодычную антырэлігійную работу сэктару трэба адзначыць брошуру „Рабіны на службе фінансавага капіталу“. Выходзячы з асаблівай важнасьці антырэлігійнай работы і неабходнасьці яе правядзеньня, сэктарам створана спэцыяльная антырэлігійная камісія.

**На 1932 г. намечаны наступны плян работы гэтае камісіі.**

1) Хрыстоматыя—„Ленін аб рэлігіі“—Крывіцкі.

2) Ленінскі этап у атэізьме—навуковы даклад тав. Крывіцкага.

3) Абсьледваньне антырэлігійных і рэлігійных настрояў рабочых. 5-6 фабрык БССР. (сумесна з Інстытутам філёзофіі Беларускай Акадэміі Навук).

Неадкладная задача ўзмацніць гэтую камісію навуковымі працаўнікамі.

**За 1931 г. вышлі наступныя кнігі:**

1) „Цайтшрыфт“ т. V—40 друк. аркушоў.

2) Яўрэйскі лінгвістычны атляс—Л. Віленкін—10 друк. арк. і 70 карт.

3) „Шчадрын, мястэчка ў рэконструкцыйны пэрыод"—І. Гершэнбаўм—$2^1/_2$ друкаваных аркушы.
4) Фізычная тэрміналёгія—19 друкаваных аркушоў.
5) „Шолам Аш"—М. Эрык—8 друкаваных аркушоў.

Заканчваюцца друкаваньнем:

1) Яўрэйска-беларускі слоўнік—12 друк. аркушоў.
2) „Мястэчкі БССР у рэконструкцыйны пэрыод"—5 друк. аркушоў.
3) „Правы і „левы" ўхіл у экономічнай рабоце сярод яўрэйскіх працоўных"—Х. Дунец—6 друк. аркушоў.
4) Тэорыя ператварэньня т. Літвакова—Х. Дунец— 8 друк. аркушоў.
5) Яўрэйскі рабочы ў Беларусі пры ўзьнікненьні рабочага руху. І. Чарняўскі—11 друк. арк.

Друкуецца:

1) Мэтодолёгічны зборнік па пытаньнях літаратуразнаўства—20 друк. аркуш.

У портфэлі сэктару маюцца наступныя работы да друку.

1) „Пролетарыят БССР"—Г. Аляксандраў—6 друк. аркушоў.
2) „Рэволюцыйнае народніцтва ў яўрэйскім асяродзьдзі"—І. Чарняўскі—$6^1/_2$ друк. аркушоў.
3) Сельска-гаспадарчая тэрміналёгія—20 др. аркушоў.

Усё гэта зьяўляецца продукцыяй 1931 г. і толькі некаторыя з іх продукцыяй 1930 г.

У камісію ўжо паданы рад прац па пляну 1-га кварталу 1932 г.

1) На гістарычным фронце—зборнік крытычных артыкулаў па пытаньнях гісторыяграфіі—5 друк. аркушоў.
2) Мэтодолёгічныя прынцыпы яўрэйскага тлумачальнага слоўніка—т. Х. Галомшток—$3^1/_2$ друк. аркушы.
3) Мэтодолёгія тэрміналёгічнае лексыкі т. Х. Файнзільбэр і К. Бязносік у $2^1/_2$ друк. аркушы.
4) Рэцэнзія аб яўр. лінгвіст. атлясу—т. Г. Шкляр—$1^1/_2$ друк. аркушы.

У сувязі з лістом тав. Сталіна ў рэдакцыю „Пролетарская рэволюцыя" „Аб некаторых пытаньнях гісторыі бальшавізму", была праведзена пэўная работа ў сэктары. Супрацоўнікі былі мобілізаваны для прагляду продукцыі сэктару ў сьвятле ліста тав. Сталіна. У выніку абгаварэньня ліста тав. Сталіна былі перагледжаны вытворчыя пляны сэктару на 1932 год і ўнесены ў іх адпаведныя зьмены. Вышэйазначаныя пляны камісіі ў пэўнай меры зьяўляюцца рэзультатам прапрацоўкі ліста тав. Сталіна.

* * *

Яўсэктар прыступіў да выданьня зборніка „Барацьба Леніна супроць Бунду". Работа па складаньню гэтага зборніка праводзіцца ўдарнымі тэмпамі. Ужо перагледжаны ўсе томы твораў Леніна і ленінскіх зборнікаў. Выбраны артыкулы, якія павінны

ўвайсьці ў зборнік, ужо перакладзены на яўрэйскую мову амаль усе артыкулы.

Да 15-й гадавіны Кастрычнікаўскай рэволюцыі Яўсэктар выдае зборнік, у якім павінны быць адлюстраваны дасягненьні ленінскае нацыянальнае палітыкі ў экономічнай, культурнай і навуковай галінах. У зборніку павінна быць выяўлена барацьба комуністычнай партыі за бальшавізацыю яўрэйскіх рабочых і выкрыта роля, якую адыгрывалі контррэволюцыйныя яўрэйскія буржуазныя і дробна-буржуазныя партыі ў барацьбе супроць Кастрычнікаўскай рэволюцыі, павінна быць выкрыта барацьба на тэорытычным фронце ў галіне гістарычнай, соцыял-экономічнай, літаратурнай, лінгвістычнай і інш., дасягненьні партыі ў барацьбе за бальшавізацыю навукі. Да гэтай работы прыцягнуты ўсе супрацоўнікі сэктару. Увесь сэктар мобілізуецца на выкананьне гэтае задачы на працягу мая—жніўня 1932 году, калі гэты зборнік павінен быць перададзены ў друк.

Камісіі сэктару сталі на шлях удзелу ў ДВС Наркамасьветы. Лінгвістычная камісія выпрацавала програму па яўрэйскай мове для 2-га концэнтру сямігадовай школы. Яна таксама прымала ўдзел у выпрацоўцы програм па мове для пэдтэхнікумаў. Гістарычная камісія выпрацавала програмы па—„Гісторыі яўрэяў у Расіі да рэформы 1861 г.“, па „Гісторыі яўрэйскага рабочага руху“—для ВНУ, програму па „Яўр. элемэнтам у гісторыі клясавай барацьбы“—для 2-га концэнтру сямігадовай школы. Соцыяльна-экономічная камісія павінна выпрацаваць програмы па „яўр. элемэнтах“ у грамадазнаўстве для пэдагогічных тэхнікумаў і 2-га концэнтру сямігодак.

Літаратурная камісія ўдзельнічала ў выпрацоўцы програм па яўр. літаратуры для сямігодак.

Частка супрацоўнікаў зьяўляецца мэтодычнымі і палітычнымі рэцэнзентамі па падручніках для навучальных устаноў. Вылучаны таксама грамадзкія інспэктары пры гарадзкой інспэктуры нарасьветы, для інспэктаваньня школ па пэўных дысцыплінах. Гістарычная камісія кіруе сэмінарам для настаўнікаў па гісторыі яўр. рабочага руху.

Актыўны ўдзел Яўсэктар прымаў у рабоце Ўсебеларускага зьезду культработнікаў, які адбыўся ў Менску ў студзені 1931 г. На зьезьдзе быў заслуханы даклад тав. Агульніка „Клясавая барацьба на тэорытычным фронце“. У першы раз з часу існаваньня Яўсэктару дзейнасьць яго была вынесена на абгаварэньне культурных работнікаў. Зьезд выявіў вялікую зацікаўленасьць да работы Яўсэктару. Сурова крытыкавалася дзейнасьць сэктару, яго адарванасьць ад мас культработнікаў, яго замкнёнасьць у сябе і асабліва нацдэмаўскія і антыленінскія скажэньні ў рабоце яўсэктару пры нацдэмах. Апрача таго, на гэтым зьезьдзе былі зачытаны даклады тав. Броншэйна па пытаньнях „літаратуразнаўства“ і тав. Гершэнбаума „аб інтэрнацыянальным выхаваньні“ (у сэкцыі інтэрнацыянальнага выхаваньня). Усе супрацаўнікі сэктару прымалі актыўны ўдзел у рабоце сэкцый зьезду.

Лінгвістычная камісія прымала ўдзел у конфэрэнцыі яўрэйскіх мовазнаўцаў, якая адбылася ў Кіеве ў лютым 1931 г. На гэтай конфэрэнцыі выступілі з дакладам тав. Голомшток Х. аб часопісе—„Ідышэ шпрах“, у якім выкрыў пурыстычныя і ідышысцкія ўстаноўкі часопісу, і тав. Віленкін аб лінгвістычным атлясе.

Мы маем таксама рад дасягненьняў у масавай рабоце. Быў зачытаны рад навукова-популярных дакладаў у адкрытай аўдыторыі Яўсэктару для настаўнікаў, рабочых і культурных работнікаў. Чыталіся таксама даклады на фабрыках і заводах на антырэлігійныя і палітычныя тэмы, былі організаваны 4 літаратурных гурткі для рабочых у 1931 г. У сучасны момант існуюць 8 рабочых гурткоў, якімі кіруюць супрацоўнікі сэктару: два гурткі па гісторыі яўрэйскага рабочага руху, адзін антырэлігійны гурток, чатыры літаратурных гурткі і адна літаратурная студыя для рабочых ударнікаў. Літаратурная і соцыяльна-экономічная камісія прымалі актыўны ўдзел у пэрыодычным друку ў газэце „Акцябр“, „Эмэс“ і ў часопісе „Штэрн“. У радзе навукова-популярных артыкулаў яны ілюстравалі дзейнасьць гэтых камісій і іх бягучую навуковую работу. За апошні час у работу пэрыодычнага друку была ўцягнута і гістарычная камісія. Вельмі адстае ў гэтым кірунку лінгвістычная камісія. Быў зьмешчаны таксама рад крытычных артыкулаў аб дзейнасьці сэктару. Яўсэктар уключыўся таксама ў дэкаднік Беларускай Акадэміі Навук, які праведзены ў Віцебску і Гомелі. Тав. Розэнгаўз прачытаў там даклад на тэму „Рэлігія і яўрэйскі соцыял-фашызм“.

Але трэба адзначыць, што масавая работа яшчэ не зрабілася органічнай часткай работы сэктару, яна яшчэ носіць эпізодычны, несыстэматычны характар.

Няма цеснай сувязі з рабочымі на фабрыках і заводах. Масавая работа пераважна вядзецца толькі ў Менску (апрача аднаго дакладу тав. Аляксандрава на тэму: „Яўрэйскія мястэчкі ў рэконструкцыйны пэрыод“ які быў зачытаны ў Віцебску). Вельмі марудна выконваецца намечаны плян выезду сэктару з дакладамі ў больш буйныя прамысловыя гарады БССР, як, напрыклад, Гомель, Бабруйск, Віцебск і інш. Рабочыя масы вельмі мала, амаль зусім не азнаёмлены з работай сэктару. Рабочыя ня прыцягнуты да навуковае работы сэктару. У гэтай галіне вельмі многа магла-б зрабіць гістарычная камісія ў справе вывучэньня і напісаньня гісторыі фабрык і заводаў. Ня менш магла-б зрабіць у гэтай галіне соцыяльна-экономічная камісія. Яна можа і павінна стварыць сетку навуковых корэспондэнтаў на фабрыках і заводах, у саўгасах, колгасах. Гэта дало-б камісіі сталы, заўжды сьвежы матар'ял для навуковай работы. Тое-ж самае і ў адносінах да лінгвістычнай камісіі. Сэктар павінен ажыцьцявіць пастанову бюро партколектыву: „разгарнуць масавую працу сэктару, увязаўшы яе з Масавым сэктарам БАН... Стаць на чале працы па ўцягненьню рабочых у навуковую працу. Рабіць даклады па-за межамі гораду Менску, стварыць сетку корэспондэнтаў“...

Неабходна констатаваць, „што ў 1931 г. мэтоды соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў рабоце сэктару ня ўжываліся, соцспаборніцтва з Інстытутам яўр. культуры ў Кіеве было сарвана па віне

сэктару, колектыўная форма работы амаль цалкам адсутнічала і толькі ў апошні час наглядаецца пашырэньне соцпаборніцтва і ўдарніцтва і колектыўнасьці ў рабоце". (З рэзолюцыі партколектыву БАН).

Гэта сьведчыць аб тым, што тэмпы навуковай работы могуць і павінны быць яшчэ больш узьняты. У гэтым кірунку мы маем пэўныя дасягненьні ў І-м квартале 1932 г. Яўсэктар заключыў соцдогавар з Польскім сэктарам БАН. 12 супрацоўнікаў сэктару абвясьцілі сябе ўдарнікамі. Рад работ выканаць і выконваюцца ўдарнымі тэмпамі, але „ніводзін яшчэ з ударнікаў не аформіў сваіх абавязкаў, што не дае магчымасьці контроляваць іх выкананьне. Яшчэ не разгорнута соцпаборніцтва паміж паасобнымі камісіямі і супрацоўнікамі сэктару" (з рэзолюцыі агульнага сходу супрацоўнікаў сэктару ад 20 красавіка 1932 году). Перад профорганізацыяй стаіць важная задача: разгарнуць соцпаборніцтва і ўдарніцтва паміж супрацоўнікамі, каб забясьпечыць выкананьне плянаў 1932 г., замацаваць дасягненьні і ўзьняць продукцыйнасьць і якасьць навуковай работы.

Яўрэйскі сэктар зьяўляецца органічнай часткай усяго колектыву Беларускай Акадэміі Навук. Замкнёнасьць, якая панавала ў сэктары, нацыянальная абмежаванасьць цалкам яшчэ не ліквідаваны. У гэтым кірунку мы маем пэўныя дасягненьні. Супрацоўнікі гістарычнай і соцыяльна-экономічнай камісіі выступалі з навуковымі дакладамі ў інстытутах гісторыі і экономікі БАН, часткова зьвязаны з адпаведнымі інстытутамі БАН лінгвістычная і літаратурная камісія. Але гэта сувязь мае ўсё яшчэ фармальны характар. Масавая работа сэктару яшчэ ня зьвязана органічна з работай Масавага сэктару БАН. Супрацоўнікі Яўсэктару ня ўдзельнічаюць у часопісе „Савецкая краіна" (апрача тав. Гершэнбаума, які зьмясьціў там некалькі артыкулаў). Супрацоўнікі сэктару, за выключэньнем некалькіх таварышоў, ня прымаюць таксама ўдзелу ў рабоце розных навуковых марксысцкіх таварыстваў, як Таварыства гісторыкаў-марксыстаў, экономістаў-марксыстаў і інш.

Ня гледзячы на ўсе дасягненьні ў рабоце Яўсэктару, тэмпы нашае навукова-дасьледчае работы ўсё-ж яшчэ невыстрачальныя.

Ня гледзячы на спробы плянаваньня навуковай работы ў 1931-32 гг., яна яшчэ не здавальняе патрабаваньняў соцыялістычнага будаўніцтва. Гэта ўсё яшчэ першыя спробы. У аснове плянаваньня навукі на другую пяцігодку неабходна пакласьці дырэктывы 17-й конфэрэнцыі ЎсеКП(б)—„асноўнай палітычнай задачай другой пяцігодкі зьяўляецца канчатковая ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул, поўнае зьнішчэньне прычын, якія параджаюць клясавыя адрозьненьні і эксплёатацыю і перамаганьне перажыткаў капіталізму ў экономіцы і сьвядомасьці людзей, ператварэньня ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавай соцыялістычнай грамады" (з рэзолюцыі 17 партконфэрэнцыі па дакладу тт. Молатава і Куйбышава).

Пры распрацоўцы пытаньняў XVII канфэрэнцыі і XIV зьезду КП(б)Б сход сэктару прабаваў даць агульныя рысы тэматыкі другой пяцігодкі. Вось яны: распрацаваць пытаньні, зьвязаныя з ліквідацыяй „спэцыфічных" проблем яўрэйскіх працоўных мас (засяленьне Біра-Біджану, уцягненьне яўрэйскіх рабочых у прамысловасьць, саматужную коопэрацыю, у колгаснае будаўніцтва і інш.), вывучаць проблему мястэчак у абсягу задач зьнішчэньня процілегласьці паміж горадам і вёскай, напісаць гісторыі яўрэяў на Беларусі, пачынаючы з больш блізкіх пэрыодаў, вывучыць соцыяльныя карэньні яўрэйскай рэлігіі, ролю атэізму ў клясавай барацьбе, скласьці гісторыю яўрэйскай пролетарскай літаратуры.

Распрацоўка гэтых проблем павінна быць прасякнута барацьбой супроць буржуазнай і дробнабуржуазнай ідэолёгіі.

Пытаньне кадраў зьяўляецца вузкім месцам у навуковых установах і яўрэйскіх у асаблівасьці. Каб унікнуць паралелізму ў рабоце і больш рацыянальна скарыстаць наяўныя навуковыя сілы Саюзу як у галіне навукова-дасьледчай работы, так і ў галіне падрыхтоўкі кадраў, неабходна контактаваць работу Яўсэктару БАН з работай іншых яўрэскіх навуковых інстытутаў Саюзу, у прыватнасьці з Інстытутам яўрэйскай пролетарскай культуры пры ВУАН у Кіеве. Недапушчальным зьяўляецца тое, што такія навуковыя ўстановы, як Яўсэктар БАН і Інстытут яўрэйскай пролетарскай культуры ў Кіеве да гэтага часу не дагаварыліся аб контакце ў іх рабоце.

Каб як-мага хутчэй дабіцца плянавасьці і коордынацыі ў яўрэйскай навуковай рабоце, неабходна склікаць нараду яўрэйскіх навуховых работнікаў Саюзу. Комакадэмія СССР павінна ўзяць на сабе організацыю і кіраўніцтва гэтай нарадай. На аснове пастановы Бюро партколектыву БАН быў дасланы ў Прэзыдыум Комакадэміі мэморандум, дзе азначаецца: „Дырэктывы 17-й партконфэрэнцыі аб 2-й пяцігодцы высоўваюць перад яўрэйскімі навукова-дасьледчымі ўстановамі вельмі складаныя і вялікія проблемы па лініі ліквідацыі экономічнай і культурнай адсталасьці і перамаганьня перажыткаў капіталізму ў экономіцы і сьвядомасьці. У сувязі з гэтым прадстаіць задача поўнасьцю вырашыць местачковую проблему ў сьвятле зьнішчэньня супроцьлегласьці паміж горадам і вёскай, а таксама вырашыць проблему аб засяленьні працоўнымі яўрэямі Біра-Біджану, згодна дырэктывам партыі. Яўрэйскія навуковыя ўстановы павінны пераключыцца на гэтую важную работу і аднавіць контакт з адпаведнымі савецкімі і грамадзкімі ўстановамі, як Комзэт, Озэт і Дзяржплян. Апрача гэтых экономічных проблем, стаяць вялікія задачы ў галіне гісторыі, лінгвістыкі, пролетарскае літаратуры, перавыхаваньні яўрэйскіх колгасьнікаў і маладых кадраў рабочых, узмацненьні антырэлігійнай барацьбы і г. д.

„Няма ніякага сумненьня, што мы павінны ўзмацніць барацьбу супроць буржуазнае навукі ва ўсіх яе формах і відах, маючы на ўвазе, што і яна мае сваю агентуру ў радох нашых навуковых работнікаў і шляхам контрабанды пранікае і ў наш друк".

„Выходзячы з гэтага, Яўсэктар БАН ставіць перад Комакадэміяй СССР пытаньне аб скліканьні нарады прадстаўнікоў існуючых яўрэйскіх навукова-дасьледчых установ (Менск, Кіеў, Масква, Ленінград) з мэтай абгаварэньня агульных мэтодолёгічных проблем, якія датычацца гісторыі, экономікі, лінгвістыкі і г. д. і ўстанаўленьня пэўнае координацыі ў рабоце ўсіх навуковых інстытутаў і ўзаемнае дапамогі шляхам абмену практыкай і навуковымі кадрамі і сродкамі“.

---

А. Сяргееў

# Да пытаньня племработы з чырвона-беларускай жывёлай

*(У парадку абгаварэньня)*

Племянная справа ёсьць адно з найбольш важнейшых мерапрыемстваў і адказных месц у справе соцыялістычнае рэконструкцыі жывёлагадоўлі.

Некаторыя і называюць яе зусім правільна „цяжкой індустрыяй“ жывёлагадоўлі.

Павышэньне продукцыйнасьці жывёлагадоўлі павінна пайсьці па двух грунтоўных шляхох, шляхам паляпшэньня ўмоў вырашчваньня, кармленьня і ўтрыманьня жывёлы і шляхам павышэньня племянных якасьцяў жывёлы. Зразумела, што гэтыя мерапрыемствы павінны быць паміж сабой вельмі шчыльна ўвязаны.

Другі шлях складае об‘ект так званай племянной справы. Гэты шлях павінен, на нашу думку, улічыць усю наяўную практыку па вывядзеньню і палепшаньню маючыхся культурных парод, скарыстаць усе тыя зоотэхнічныя рэсурсы, якімі ўладае БССР і, зразумела, будаваць сваю работу на грунце самых апошніх дасягненьняў біолёгіі ў кірунку вывучэньня зьявішч зьменнасьці і спадчыннасьці.

Сэлекцыя, як прыкладная генэтыка, павінна тут сказаць сваё рашаючае слова. Посьпехі генэтыкі і сэлекцыі за апошнія гады падводзяць навуковыя рэйкі пад племянную справу і апошняя ўсё больш і больш набывае рысы навуковае дысцыпліны.

Племянная справа—справа для БССР новая. Да самага апошняга часу гэтай справе не ўдзялялася ў нас належнае ўвагі. Шмат хто з нашых гаспадарнікаў і да сёнешняга дня блытае племянную справу з аднаўленьнем свайго стада (простым або пашыраным і ў лепшым выпадку ўсё зводзіць да так званае контрольнае работы). Да самага апошняга дня БССР ня мела адзінага стройнага навукова-прапрацаванага пляну племработы. Калі-ж што і рабілася ў гэтым кірунку, дык гэта было свайго роду саматужніцтва. У нас ня было нават сталых установак і грунтоўных вех разгортваньня племработы,—сталых установак на паляпшаючыя пароды, стройнай прадуманай сеткі племгасаў і племколгасаў, працуючых па адзінаму племпляну і карыстаючыхся

адзінай мэтодыкай. Пастанову Колегіі НКЗ БССР па пытаньню пароднага раёнаваньня жывёлы („Савецкая Беларусь“ № 230 ад 4 кастрычніка 1931 году), здавалася, трэба было лічыць за паваротны пункт разгортваньня ў нас племработы. Але на справе нашы гаспадарчыя ўстановы (Белмалпромтрэст, Белмалакоколгасцэнтар і г. д.), як відаць, ня вельмі ўважліва аднесьліся да гэтае пастановы. Факты гавораць за тое, што ў кірунку выкананьня даных гэтай пастановай дырэктыў амаль што нічога ня зроблена. Аб гэтым вельмі красамоўна гаворыць пастанова Савету Народных Камісараў БССР пра разгортваньне племяннай справы ў БССР („Савецкая Беларусь“ ад 14 лютага 1932 году). Пастанова гаворыць: „... рад цэнтральных і раённых устаноў зусім недаацэньваюць племяннай справы, як аднаго з галоўных мерапрыемстваў у галіне разьвіцьця жывёлагадоўлі“. І далей „Раённыя выканаўчыя камітэты, дырэктары Савгастрэстаў і Белколгасцэнтар замест хутчэйшага выкананьня дырэктыў партыі і ўраду аб укомплектаваньні племгасаў праз перадачу ўсёй племяннай жывёлы звычайных колгасаў у племгасы і племколгасы тармозяць гэтую справу і не перадаюць племянную жывёлу, якая ёсьць у раёне (Дрысенскі, Рагачэўскі раённыя выканаўчыя камітэты). Малочна-прамысловы трэст і Белмалакоколгасцэнтар да гэтага часу не разгарнулі работы па ўкоплектаваньню племгасаў племяннай жывёлай і не ўзялі гэтыя гаспадаркі пад асобны нагляд і вэтэрынарна-заотэхнічнае абслугоўваньне“.

Пастанова Савнаркому БССР высоўвае рад конкрэтных мерапрыемстваў па разгортваньню племработы ў БССР. У гэтым артыкуле нам хацелася-б застанавіцца на некаторых пытаньнях племработы з чырвона-беларускай жывёлай. Пастанова Колегіі НКЗ БССР аб пародным раёнаваньні БССР высоўвае ў якасьці плянавых паляпшаючых парод для БССР тры пароды:

1) Швіцкая парода (паўночная частка БССР—былыя акругі: Полацкая, Віцебская, Аршанская і Магілеўская).

2) Чырвона-беларуская парода (цэнтральная частка БССР—былыя акругі: Менская Бабруйская і большая частка Гомельшчыны).

3) Белагаловая—коленісцкая (паўднёвая частка БССР—Мазыршчына і частка Гомельшчыны).

Больш дэталёва межы пародных раёнаў даюцца намі на карце № 1. Проект пароднага раёнаваньня ў адносінах да буйной рагатай жывёлы быў распрацаваны Горацкай зональнай станцыяй малочнае гаспадаркі. На І-й Усесаюзнай нарадзе па племсправе і пародным раёнаваньні, якая адбывалася ў Маскве 15-20 ліпня 1931 году, проект гэты ўвайшоў у агульны проект пароднага раёнаваньня СССР, які і быў далажан Нарадзе проф. Е. Ф. Ліскуном. Апошні ў дакладзе высунуў думку. „Пры самым выбары плянавых парод неабходна застанавіцца, з аднаго боку, на лепшых карэнных масывах мясцовай жывёлы, а з другога—і на лепшых культурных пародах замежнай жывёлы, якія зарэкомэндавалі сябе ў якасьці паляпшацеляў у сусьветным маштабе і атрымалі сусьветнае распаўсюджваньне.

Сярод атродзьдзяў мясцовых масываў буйной рагатай жывёлы заслугоўваюць увагі: халмагорскі, яраслаўскі, чырвона-нямецкі,

чырвона-гарбатоўскі, тагільскі, бястужаўскі, сібірскі, шэры-украінскі, беларускі, кіргіскі, калмыцкая жывёла, як і буйвал". (Тэзізы дакладу проф. Ліскуна „Плянавае раёнаваньне парод буйнай рагатай жывёлы" § 13, 14).

Усесаюзная нарада ўнесла некаторыя папраўкі да гэтага проекту і зацьвердзіла яго. У адносінах да БССР проект застаўся бяз зьмен. Проект пароднага раёнаваньня быў зьмешчаны проф. Е. Ф. Ліскуном у газэце „Социалистическое Земледелие" № 254 ад 14/IX-31 году і ў часопісах „Техника социалистического земледелия" за 1931 год і „Социалистическая реконструкция сельского хозяйства" № 10 за 1931 год.

Тым больш нечаканым і незразумелым для нас зьявіўся новы проект ВІЖ'а, па якому ў БССР замест чырвона-беларускай і колёнісцкай белагаловай пароды ў якасьці паляпшаючай пароды высоўваецца остфрысьлянская парода. Усходняя пруска-галяндзкая парода (остфрызы, остфрысьлянская парода) прадстаўляе сабой жывёлу, якая атрымалася ў выніку скрыжаваньня мясцовай усходняй прускай пароды з жывёлай галяндзкай пароды (скрыжаваньне да паглынанньня крыві мясцовай пароды і потым працяглае вазьвядзеньне ў сябе). У значнай ступені гэта жывёла абавязана сваім існаваньнем і ўсімі тымі значнымі дасягненьнямі, якія яна мае, умеламу кіраўніцтву „таварыства племяннай кнігі па паляпшэньню развадзімай у ўсходняй Прусіі галяндзкай жывёлы" ў Кёнігсбэргу (Herdbuch-Gesellschaft zur Verbesserung des in Ostpreussen gezüchteten Holländer Rindvichs, e. V., Königsberg).

Жывёла гэтая была вельмі рэклямавана на Кёнігсбэргскай выстаўцы, дзе і было ў мінулым годзе закуплена СССР каля 400 племянных быкоў-вытворцаў і 20 цельных цёлак. Новы проект пароднага раёнаваньня надрукаваны Е. Ф. Ліскуном у часопісу „Проблема животноводства" № 1 за 1932 г. На жаль, гэты артыкул нічога не гаворыць пра тыя меркаваньні, дзякуючы якім гэты новы проект забракаваў чырвона-беларускую пароду.

Гаворачы пра пародны склад буйной рагатай жывёлы БССР, дырэктар Паўднёвага навукова-дасьледчага інстытуту малочнае гаспадаркі т. Бэрзін на аднэй з нарад адзначыў, што БССР прадстаўляе ў гэтых адносінах „сапраўдны зоопарк". Але-ж да гэтага трэба дадаць, што як не багаты гэты зоопарк быў на віды, але-ж як-быццам остфрызаў у нас пакуль што амаль што ня было. Ёсьць праўда ў нас галяндкі, але паміж галяндкамі і остфрызамі поўнага знаку роўнасьці нам здаецца зусім нельга ставіць, а тым, хто ўсё-ж такі, ня гледзячы ні на што, гэты знак роўнасьці ставіць, мы павінны напомніць аб тым, што галяндцы ў умовах БССР зусім пакуль што не зарэкомэндавалі сябе ў якасьці лепшай пароды. Наогул-жа Прыдарогін („Крупный рогатый скот") вось што гаворыць пра галяндцаў: „Удойлівасьць галяндзкіх кароў як сярэдняя дасягае на бацькаўшчыне і ў радзе месц Заходняй Эўропы 300 вядзёр (3700 літраў у год), прычым

гадавыя ўдоі і ў 500 вядзёр (6150 літраў) там нярэдкі. Аднак, сярэдні процант тлустасьці ў малаку малы, звычайна ня больш 3,3, а ў шматмалочнай жывёлы нават ня большы 3 пры невялікім проценце ўсёй сухой матэрыі, які не перавышае 12 проц. Акрамя гэтага тлушчавыя галачкі малака галяндзкае каровы дробныя. Усе гэтыя асаблівасьці галяндзкай жывёлы робяць яе найбольш падыходзячай для сыраварэньня, хоць некаторыя сарты сыроў выходзяць таксама занадта поснымі, выклікаючы скаргі з боку пакупнікоў". Як вядома, згодна прынятай спэцыялізацыі сельскае гаспадаркі БССР, малочнае жывёлаводзтва ў апошняй у асноўным павінна насіць масьляны кірунак. Галяндзкая парода якраз і зьяўляецца найменш падыходзячай пародай для гэтых мэт. Апрача гэтага многа прыходзіцца чуць і пра тое, што галяндзкая парода зьяўляецца пародай і найменш устойлівай супроць сухотаў.

У 1930 годзе ў Менску адбылася Ўсебеларуская с/г выстаўка. На выстаўцы ў сэктары буйной рагатай жывёлы было прадстаўлена 172 жывёлы, з якіх на долю чырвона-беларускай жывёлы прыходзілася 16,9 проц. і на долю галяндцаў—8,1 проц. Зразумела, што на выстаўку трапіла лепшая элітная частка буйной рагатай жывёлы БССР і прытым, галоўным чынам, з саўгасаў і калгасаў (адзінаасобны сэктар прымаў удзел ледзь на 1,7 проц.).

Вось кароценькая характарыстыка ў лічбовых даных галоўных парод, прадстаўленых на Ўсебеларускую выстаўку ў 1930 годзе (па выставачных экзэмплярах).

*Табліца № 1.*

| Парода | Жывая вага | Продукцыйнасьць за 300 дзён | | |
|---|---|---|---|---|
| | | % тлуст. | Удой за 300 д. | Тлустасьці 300 дзён |
| Галяндзкая парода | 451 | 3,35 | 4279 | 143,3 |
| Дацкая „ | 492 | 3,75 | 4809 | 180,3 |
| Чырвона-беларуская | 466 | 4,0 | 3066 | 122,6 |
| Мясцовая палепшаная | 414 | 3,8 | 2944 | 112,0 |
| Колёнісцкая белагаловая | 395 | 3,9 | 3279 | 127,8 |
| Ангелькі | 405 | 3,8 | 3025 | 114,9 |
| Чырвоная нямецкая | 447 | 3,3 | 3222 | 106,32 |
| Швіцы | 457 | 3,7 | 3420 | 126,5 |

Табліцка гаворыць за тое, што галяндзкая карова, нават і ў тым выпадку, калі бяруцца лепшыя прадстаўнікі гэтай пароды, дае вельмі беднае на тлушч малако. Звычайна, каб некалькі завуаляваць гэтае зьявішча, прыхільнікі галяндзкае пароды ўказваюць на тое, што ў гэтым выпадку якасьць малака компэнсуецца яго колькасьцю. Усе аднолькава разважаюць яны ці мы атрымаем 4000 літраў малака з 3 проц. тлустасьці, ці толькі 2.400 літраў пры 5 проц. тлустасьці, бо як у першым, так і ў другім вы-

падку карова дасьць 120 кілёграм тлустасьці. Проф. Ліскун дае такую табліцу:

Табліца № 2.

| Удой | %% тлустасьці | Колькасьць тлустасьці ў удоі | На 1 кілёгр. малака ідзе | | На ўсё малако ідзе | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Бялку | Кормовых адзінак | Бялку | Кармовых адзінак |
| 4000 | 3 | 120 | 42 грам. | 0,375 к. | 168 к. | 1380 к. |
| 3488 | 3,5 | 120 | 46 " | 0,370 " | 168 " | 1268 " |
| 3000 | 4 | 120 | 59 " | 0,400 " | 150 " | 1200 " |
| 2666 | 4,5 | 120 | 54 " | 0,435 " | 144 " | 1166 " |
| 2400 | 5 | 120 | 57 " | 0,455 " | 137 " | 1092 " |

Таблічка гаворыць, што хоць продукцыя малака пры вялікім процанце тлустасьці абходзіцца на адзінку малака і даражэй, але продукцыя адзінкі тлустасьці будзе больш таннай. Таблічка гаворыць і аб тым, што трымаць карову з удоем у 2·400 літраў пры 5 проц. тлустасьці карысьней, чым карову з 4.000 літраў удою пры 3 проц. тлустасьці. Нас павінна цікавіць ня толькі колькасьць атрымліваемай продукцыі, але і яе каштоўнасьць. Але так меркаваць можна толькі для гаспадарак, якія маюць кірунак перапрацоўкі малака ў масла. БССР якраз і прадстаўляе такое месца. У другіх выпадках трэба памятаць, што сухая матэрыя малака складаецца ня толькі з аднэй тлустасьці. Акрамя тлустасьці ў склад сухога астатку ўваходзяць яшчэ бялкі, малочны цукар, мінэральная частка і інш. Продукцыя малака больш шчыльна ўвязана з продукцыяй абястлушчаных матэрый (бялкі, малочны цукар і г. д.), чым з малочнай тлустасьцю. Карэляцыя паміж проц. тлустасьці і колькасьцю малака бывае ў большасьці выпадкаў адмоўная, даволі часта зусім гэтае карэляцыі не назіраецца і толькі ў адзіных выпадках яна будзе станоўчай. Продукцыя абястлушчаных матэрый прадстаўляе больш сталую велічыню. Так коэфіцыент карэляцыі паміж удоем малака і колькасьцю абястлушчаных матэрый у ім, пры сталай велічыні тлустасьці, раўняецца $0,820 \pm 0,012$, у той час калі коэфіцыент карэляцыі паміж удоем малака і колькасьцю тлустасьці пры сталай велічыні абястлушчанай сухой матэры $0,082 \pm 0,37$ (карэляцыі няма, бо ўтроеная памылка коэфіцыенту карэляцыі перавышае самы коэфіцыент[1]). Ацэнка малочнае продукцыйнасьці па колькасьці малочнай тлустасьці, як відаць, ня зусім правільна рысуе калёрымэтрычную каштоўнасьць малака. Джэмс і Давідсон[2]) пры параўнаньні малака рознае якасьці раюць пераводзіць яго на малако з 4 проц. тлустасьці, называючы гэта малако малаком, якое корэктавана на тлустасьць (Fat Correcte Milk, або скарочана—F. C. M.).

[1]) Gowen. Milk Secrecion Baltimore U. S. A. 1924 г.

[2]) Gaines and Davidson. Comparing the production records of cows III Ex. Ag. Sta Bull. 245 1923 г.

Для пераводу рознае якасьці малака (у адносінах да тлустасьці) у малако корэктаванае Джэмс і Давідсон даюць формулы:

$$F.\ C.\ M. = M,\ O{,}4 + F \times 15 \text{ або}$$
$$F.\ C.\ M. = M\ (O{,}4 + 15C)$$

дзе М—удой за лактацыю, F—колькасьць тлустасьці за лактацыю і С—сярэдні проц. тлустасьці.

Папрабуем мы ранейпрыведзеныя даныя Ўсебеларускае выстаўкі перавесьці корэктаванаму на тлустасьць малаку. Пры гэтым атрымліваецца малюнак:

| Парода | Тлустасьці | Удой за 300 дзён. | |
|---|---|---|---|
| Галяндзкая парода | 3,35 | 4279 | 3423,2 |
| Дацкая парода | 4,0 | 4089 | 3925,4 |
| Чырвона-беларуская | 4,0 | 3066 | 3066,0 |
| Мясцовая палепшаная | 3,8 | 2944 | 2855,7 |
| Колёнісцкая белагаловая | 3,9 | 3279 | 3229,9 |
| Ангелькі | 3,8 | 3025 | 2930,2 |
| Чырвона-нямецкая парода | 3,3 | 3222 | 2899,8 |
| Швіцы | 3,7 | 3420 | 3249,0 |

Як відаць з гэтае таблічкі, розьніца паміж продукцыйнасьцю прадстаўленых на выстаўку кароў рознай пароды была не такая ўжо вялікая. Да гэтага трэба яшчэ дадаць і тое, што для сэлекцыянэра задача падвышэньня колькасьці малака разрашаецца куды больш лёгка і хутка, чым задача павялічэньня проц. тлустасьці ў малаку. Проф. Давыдаў гаворыць у сваёй кнізе („Селекция молочнога скота“): „пры скрыжаваньні розных парод паміж сабой высокая малочнасьць зьяўляецца некалькі дамінуючай над молочнасьцю. Нізкі процант тлустасьці некалькі дамінуе над больш высокім проц. тлустасьці“. Адсюль і зусім зразумела, што ў той час, калі, напрыклад, галяндзкая карова вельмі падатліва ў адносінах рэкордных удояў, малако гэтай пароды ў сваёй асноўнай масе вадкае. За межамі з асаблівай упартасьцю змагаюцца за кожную дзесятую долю проц. тлустасьці. Мэтызуючы нашу мясцовую жывёлу, якая дае малако ў сярэднім з 4 проц. тлустасьці з з галяндзкай пародай з невялікім проц. тлустасьці, мы можам пры гэтым даволі хутка зьнізіць проц. тлустасьці (нізкі процант тлустасьці адзнака дамінантная).

Фактычна ніхто нічога пра остфрызаў у нас ва ўмовах БССР сказаць ня можа. Ня было практыкі ў гэтым кірунку, чаму і гаварыць што-небудзь аб гэтым можна апрыоры. Раючы ў якасьці паляпшаючай пароды для БССР остфрызаў, новы проект пароднага раёнаваньня і падыходзіць да разьвязваньня гэтага пытаньня, на нашу думку, тэорэтычна.

Існуе два грунтовых віды паляпшэньня мясцовай жывёлы пры разьвядзеньні—гэта спосаб скрыжаваньня і спосаб паляпшэньня нашай мясцовай жывёлы ў сябе. Як той, так і другі мэтоды маюць як сваіх прыхільнікаў, так і сваіх праціўнікаў. Разважаючы пра мэтазгоднасьць таго ці іншага спосабу разьвядзеньня, мы перш за ўсё павінны заўважыць і тое, што з сваёй мясцовай жывёлай мы да рэволюцыі, ды і цяпер амаль што зусім не зай-

маліся (у сэнсе яе дэталёвага вывучэньня). Панаваў погляд, па якому нашы рускія групы пароды не прадстаўляюць ніякай цікавасьці і што паляпшэньне іх саміх у сябе справа надта нудная і нявартая. Побач з гэтым даволі часта мажліва было спаткаць і гарачых прыхільнікаў паляпшэньня нашае жывёлы ў сябе, але гэтыя прыхільнікі па большай частцы кіраваліся таксама ня тым, чым патрэбна, а меркаваньнямі чыста патрыотычнага зьместу. Першыя назіраньні над нашай жывёлай да самага апошняга часу як быццам сапраўды сьведчаць аб вельмі малой малочнай продукцыйнасьці нашых мясцовых груп пароды. Але будаваць свае пляны толькі выходзячы з гэтых сваіх знадворных прадстаўленьняў нельга. Гэта было-б праявай непрадуманага і ненавуковага мышленьня. Пры гэтым на грунце аналізу існуючага становішча, шляхам чыста формальных лёгічных умазаключэньняў робіцца той ці іншы вывад. Даваць пры гэтым гарантыю за тое, што гэты вывад сапраўды будзе адказваць наяўнасьці, зразумела зусім нельга. Толькі практыка і праверка гэтае практыкі конкрэтным досьледам змогуць зьявіцца рашаючым крытэрыем сапраўдных законамернасьцяў. Падыходзячы да гэтае справы з гэтага боку і разглядаючы продукцыйнасьць нашай жывёлы не адарвана ад тых конкрэтных жыцьцёвых умоў, у якіх расла і разьвівалася гэтая мясцовая жывёла, мы павінны з усёй катэгорычнасьцю заявіць, што *сапраўднай малочнай вытворчасьці нашай буйной рагатай жывёлы мы ня ведаем.* У гэтым выпадку мы ў поўнай меры солідарызуемся з проф. Ліскуном, які разьвівае гэтую думку ў сваёй працы „Русские отродия крупного рогатого скота"...

Як-бы ні быў высок генотып той ці іншай каровы, але пры дрэнных умовах карменьня і ўтрыманьня жывёлы вымагаць ад яе вялікіх удояў ня прыходзіцца. Гэтым паміж іншым і тлумачацца тыя няўдачы, якімі раней звычайна аканчваліся ўсе спробы паляпшэньня нашае жывёлы рознымі мясцовымі пародамі. Гаварыць аб тым, што некаторыя нашы мясцовыя групы пароды ня здольны раздойвацца ў нас, як-быццам няма ніякіх падстаў. Рад фактаў гаворыць супроцьлеглае. Паўлаў Т. А. у сваёй працы „Матар'ялы да вывучэньня ўтрыманьня мясцовага малочнага быдла ці мэтысаў мясцовага скота на навучальнай фэрме Беларускай Акадэміі сельскае гаспадаркі" (4 т. „Праца навуковага т-ва па вывучэньню Баларусі") адзначае тое зьявішча, што з 15 закупленых мясцовых кароў на працягу аднаго году амаль што палова падвысіла ўдой на 100 проц. Е. О. Клеменціч („Палескі скот") дае зьвесткі аб тым, што на Новазыбкаўскай станцыі закупленыя на мясцовым рынку паляшучкі ў сярэднім у выніку добрых умоў утрыманьня і карменьня давялі ўдой да 228 вядзёр (2736 кг). Ня менш цікавыя матар'ялы даюць контрольныя саюзы. Віткоўскі К. Б. („Об улучшенной части красно-белорусского скота") прыводзіць такія паказчыкі для чырвона-беларускай жывёлы.

1. Крупецка-Сталбуноўскі Контрольны Саюз—сярэдні ўдой па чырвона-беларускай жывёле ў 1926-27 годзе быў 2069 кг, у 1927-28 годзе—2431 кг і ў 1928-29 годзе—2550 кг.

2. Кацагскі Контрольны Саюз—у 1928-29 годзе—2232 кг.
3. Пяцеўскі Контрольны Саюз—у 1928-28 годзе—1950 кг.

Даныя гавораць самі за сябе. Пры больш добрых умовах кармленьня і ўтрыманьня чырвона-беларуская жывёла добра раздойваецца. Да самага апошняга часу вывучэньне нашых мясцовых груп пароды і ў тым ліку і чырвона-беларускай вялося галоўным чынам экспэдыцыйным шляхам, г. зн. такім шляхам, пры якім амаль што зусім выключалася ўсякая магчымасьць дакладнага вызначэньня малочнае продукцыйнасьці жывёлы. Пры гэтым мы звычайна вывучылі так званыя „часовыя кармовыя тыпы", г. зн. жывёлу ў умовах недакорму, што не дазваляла нам лічыцца з гэтымі паказчыкамі, як сапраўднымі паказчыкамі продукцыйнасьці жывёлы. Так, напрыклад, рабіла экспэдыцыя па вывучэньню буйной рагатай жывёлы БССР, організаваная НДІ ў 1928-1929 годах. Каб мець правільнае меркаваньне аб вытворчасьці жывёлы, яе трэба раней паставіць у адпаведныя ўмовы кармленьня і ўтрыманьня. Гэтыя ўмовы дасьць буйная соцыялістычная жывёлагадоўчая гаспадарка. Гаворачы аб вытворчай якасьці нашых мясцовых груп пароды, прыхільнікі замежных парод звычайна адмаўлялі здольнасьць мясцовых груп пароды да цьвёрдай спадчыннай перадачы сваіх якасьцяў шматмалочнасьці. Яны вымагалі, каб лепшая жывёла мясцовых груп пароды (рэкордысткі) давалі пасьля сябе патомства таксама з вялікай вытворчасьцю. Гаворачы на мове генэтыкаў, іх запатрабаваньні зводзіліся да таго, каб кожны добры фэнотып адначасна пры гэтым быў і добрым генотыпам. Запатрабаваньне, бязумоўна, неабгрунтаванае. Там, дзе ніхто ніякага адбору ня вёў, там нельга гаварыць і аб выяўленых генотыпах. Але і сярод гэтых мясцовых атродзьдзяў жывёлы ўжо пачалі намячацца такія групы, якія прэтэндуюць на назву пароды (халмагорская, яраслаўская і г. д.). У нас да такіх парод трэба аднесьці чырвона-беларускую жывёлу. Літаратуры пра гэту жывёлу ня так многа. Нам вядома:

1. Е. И. Бокун—Предварительный отчет по качественному изучению литовско-белорусского скота в Минской губернии, 1913 год.

2. Е. И. Бокун—Красно-белорусский скот—журнал „Молочное хозяйство и скотоводство" № 2 и 3—1914 год.

3. Проф. И. И. Калугин—Красный белорусский скот, 1923 г.

4. К. Б. Витковский—Об улучшенной части красно-белорусского скота, 1931 год.

5. В. Ф. Старинский—К вопросу изучения красно-белорусского скота, 1931 г.

6. Матар'ялы экспэдыцыі па вывучэньню буйной рагатай жывёлы ў 1928-29 гадох.

Па даных 1-й Усесаюзнай с/г выстаўкі 1923 г. (аграном А. В. Леапольдаў „Крупный рогатый скот") чырвона-беларуская жывёла характарызуецца паказчыкамі: жывая 256—288 кг, сярэдні гадавы ўдой—1560 кг і найбольшы—3216 кг пры 4,28 проц. тлустасьці. На першай Усебеларускай выстаўцы ў 1930 годзе прадстаўленыя на выстаўку экспонаты чырвона-беларускае жывёлы мелі ў сярэднім жывую вагу 479 кг, удой за 300 дзён—3025 кг

пры 3,8 проц. тлустасьці. Лепшыя экзэмпляры давалі да 3.600 кг малака. Сярэднія ўдоі па племгасам: Калініна і Русінавічы былі наступнымі:

Табліца № 3.

| Назва племгасу | 1928 г. | 1929 г. |
|---|---|---|
| Племгас „Калініна“ .. | 2207 к. | 2229 к. |
| „ „Русінавічы“ | 1863 к. | 1979 к. |

Па даным матар'ялам экспэдыцыі 1928 году сярэдні ўдой чырвона-беларускай жывёлы на Меншчыне ў Самахвалаўскім раёне раўняўся 2.186 кг і ўрэшце проф. Е. Ф. Ліскун у сваіх артыкулах чырвона-беларускую жывёлу характарызуе лічбамі: жывая вага—350 кг, гадавы ўдой—2.000 літраў, пры 4,3 проц. тлустасьці. Усе гэтыя даныя на нашу думку гавораць аб тым, што ў асобе чырвона-беларускай жывёлы мы маем каштоўную мясцовую пароду. Продукцыйнасьць гэтай жывёлы пакуль што ня выяўлена, але ўсё гаворыць за тое, што пры ўмове належным чынам пастаўленай племработы гэтая жывёла сапраўды зможа аформіцца ў высокапродукцыйную пароду.

А колькі-ж маецца ў нас гэтай жывёлы?

Вось сьпіс племгасаў былога Белсельтрэсту па становішчы на 1/I-31 г. (таблічка № 4).

Табліца № 4.

**Племгасы был. Белсельтрэсту па становішчы на 1-I-31 г.**

| Назва племгасу | колькасьць жывёлы | Парода |
|---|---|---|
| Калініна Менгарсав. | 300 | Чырвон. белар.—100% |
| Русінавічы | 322 | „ „ 100% |
| Прылукі | 124 | „ „ 90% |
| Самуэлева Койд. р. | 260 | „ „ 90% |
| Анопаль | 125 | „ „ 10% |
| Каралёва | 135 | Дацкая 60% |
| Крынкі Высач. р. | 185 | Швіцкая 90% |
| Грудзінаўка Бых. р. | 226 | Сімэнталы 40% |
| Беліца. Відокі Сеньн. р. | 426 | Ангельская 30% |
| Ліпава Мазырск. р. | 176 | Колёнісцкая белагал. |
| Станіславава Дубр. р. | 76 | Чырвона-нямецк.—100% |

Таблічка гаворыць аб тым, што ўжо на 1/I-31 году ў БССР мелася 5 племгасаў з гэтай жывёлай. У НКЗ БССР маюцца,

праўда, няпоўныя (у сэнсе поўнага абхвату) весткі аб такой колькасьці чырвона-беларускай жывёлы па сэктарох: па саўгасах—895, па калгасах—1.271—і па індывідуальнаму сэктару—1.468. Гэта было на 1/I-1931 году. Цяпер, бязумоўна, будзе значна больш. Гаворачы аб гэтых лічбах, мы разумеем ледзь палепшаную частку чырвона-беларускай жывёлы. Гэтая колькасьць ужо дазваляе разгарнуць племработу з гэтай жывёлай.

Праф. Лемус на Ўсерасійскай нарадзе па племяннной справе задаў такое пытаньне: „Хіба гены шматмалочнасьці прысутнічаюць толькі ў адных замежных пародах, толькі ў галяндзкіх каровах?“, і тут-жа дае адказ: „Не, ня можа быць, каб расійская парода ня мела генаў шматмалочнасьці, гэта парода ня можа зьявіцца выключэньнем“. Аб гэтым гаворыць і гісторыя галяндзкай, дацкай і г. д. жывёлы, якія яшчэ ня больш як 60 ці 70 год таму назад нічым не адрозьніваліся ад нашай жывёлы. Там, дзе ўжо распачата работа па паляпшэньню мясцовых груп пароды і ўжо маюцца станоўчыя вынікі ў гэтых адносінах, трэба павесьці з гэтай пародай племянную работу шляхам разьвядзеньня яе ў сябе. Адначасна з гэтым мы павінны падтрымаць думку праф. Лемуса, які заявіў, што пад мясцовай абарыгеннай жывёлай ні ў якім разе нельга разумець жывёлу выключна чыста мясцовую. Пад мясцовай жывёлай можна, дый трэба разумець жывёлу, якая дастаткова ўжо акліматызавалася ў той ці іншай мясцовасьці, нават калі яна і мае частку крыві замежных парод, напрыклад: халмагорская, чырвона-нямецкая парода і г. д. Некаторыя, гаворачы аб чырвона-беларускай жывёле, указваюць на тое, што яна быццам носіць у сабе адзнакі крыві ангельскай пароды. На нашу думку гэта не зьмяншае вартасьці гэтай жывёлы. Важна, каб сярод гэтай палепшанай часткі назіралася консолідаванасьць і константнасьць у адзнаках, а апошняя ў гэтай пародзе пачынае ўжо выяўляць сябе. Падкрэсьліваючы ўсё вышэйсказанае, мы яшчэ раз патрабуем належнае ўвагі да гэтай пароды. *Побач з замежнымі пародамі ў вырашэньні жывёлагадоўчай проблемы павінны быць скарыстаны і нашы галоўныя лепшыя мясцовыя групы парод.*

Пастанова НКЗ БССР па пытаньню пароднага раёнаваньня жывёлы прапануе Горацкай зональнай станцыі малочнай гаспадаркі прапрацаваць схему племработы з чырвона-беларускай жывёлай. Гэтым НКЗ БССР хоча падкрэсьліць тыя некаторыя асаблівасьці, якія паўстаюць пры разгортваньні племработы з гэтай жывёлай. Станавіцца тут на звычайны шлях разьвядзеньня ў сябе ня прыходзіцца. Сучасныя тэмпы патрабуюць больш хуткага вырашэньня тых ці іншых проблем, чым, напрыклад, дае разьвядзеньне ў сябе, узятае ў чыстым выглядзе. Чырвона-беларуская жывёла, як і ўсе нізьменыя чырвоныя пароды Эўропы, мае сваё паходжаньне ад старажытна-эгіпецкай кароткарогай жывёлы. У выніку ўплыву розных прыродных і экономічных асаблівасьцяў розных краін гэтая жывёла стварыла ў Германіі ангельскую і сілескую пароду, у Польшчы і Галіцыі—чырвоную польскую і галіцыйскую, у Латвіі—латыскую, у Літве—літоўскую, у Беларусі—чырвона-беларускую і на поўдні СССР—чырвоную нямецкую.

Гэтае сваяцтва паходжаньня само за сябе гаворыць аб тым, што найбольш падыходзячымі пародамі для паляпшэньня чырвона-беларускай пароды павінны зьявіцца найбольш культурныя з пералічаных вышэй парод. З гэтых парод у саўгасах, колгасах і адзінаасобным сэктары ў нас даволі многа было ангельскай жывёлы. Пасьля рэволюцыі ў БССР заведзена было некалькі чырвона-нямецкай жывёлы. Трэба яшчэ ўпамянуць пра чырвона-дацкую жывёлу. Стада гэтай пароды было вывезена з Даніі ў БССР і знаходзіцца ў сучасны момант у племгасе Каралёва.

Зразумела, што ўся наяўная жывёла гэтых парод павінна быць скарыстана ў мэтах паляпшэньня чырвона-беларускай жывёлы. Але падыход да гэтага павінен быць розны. Чырвона-беларуская жывёла мае невялікую жывую вагу, параўнальна далікатную конституцыю. Ангельская парода таксама мае даволі здалікатнены экстэр'ер і малую жывую вагу. Зразумела, што гэта ўжо гаворыць за тое, што ангельская парода ня зусім здавальняе тым запатрабаваньням, якія да яе накіроўваюцца як да паляпшаючай чырвона-беларускую пароду. Пры скрыжаваньні чырвона-беларускай жывёлы з ангелькамі, апошнія, бязумоўна, павысяць культурнасьць і продукцыйнасьць першай, але адначасна з гэтым яна паменшыць і жыцьцяздольнасьць гэтай жывёлы. Апрача таго, дзякуючы таму, што паміж ангелькамі і чырвона-беларускай жывёлай існуе даволі значная розьніца ў ступені культурнасьці, мэтысы іх ня будуць гармонічны ў сваім складзе, бо расшчапленьне адзнак у патомстве будзе сказвацца даволі рэзка. Пагэтаму пры карыстаньні гэтай пародай у якасьці паляпшаючай для чырвона-беларускай жывёлы неабходна прытрымлівацца некаторай асьцярожнасьці, г. зн. карыстацца ангелькамі толькі ў тых гаспадарках, чырвона-беларуская жывёла якіх да некаторае ступені ўжо палепшана. Ангелькаў у БССР ня так многа, чаму мэтызацыя імі павінна весьціся па мэтоду прыліцьця крыві. Для гэтай мэты павінны быць скарыстаны ўсе наяўныя вытворцы і каровы гэтай пароды здаровыя і з продукцыйнасьцю ня ніжэй устаноўленага стандарту. Дацкая парода зьяўляецца, на нашу думку, найбольш падыходзячай для паляпшэньня чырвона-беларускай жывёлы. Гэтай пародай магчыма было-б карыстацца ў вельмі значным маштабе, калі-б колькасьць гэтай жывёлы дазваляла зрабіць гэта. Дацкая парода мае высокую ўдойлівасьць, больш грубы экстэр'ер чым ангелькі, больш здаровая і мае большую жывую вагу. Томэ М. („Молочное скотоводство в Дании") гаворыць аб тым што „Данія са сваім чырвоным скатом можа спаборнічаць з голяндзкай на міжнародным рынку племяннное жывёлы". Праўда, дацкая жывёла, як быццам ня высоўвае з сваіх радоў такіх найвыдатнейшых рэкордыстак, як, напрыклад, голяндзкая парода, але гэта па тлумачэньню Томэ абумаўляецца тым, што агульны характар усёй работы Даніі па жывёлагадоўлі ішоў па шляху падвышэньня ўдойлівасьці ў масе жывёлы, а не па шляху спортыўнага павялічэньня продукцыі ў паасобнай жывёлы. Цікава гэта парода для нас і з другога боку. Дацкая жывёла самая маладая з сучасных культурных парод, што не перашкаджае ёй конкураваць па сваёй продукцыйнасьці з го-

ляндзкай пародай. Гэта гаворыць аб тым, што можна зрабіць з мясцовай жывёлы пры ўмела разгорнутай племрабоце. На жаль, дацкай жывёлы ў нас вельмі мала. Гэта ў сувязі з яе вялікай каштоўнасьцю ў справе паляпшэньня чырвона-беларускай жывёлы прымушае нас карыстацца ёю вельмі экономна. Найбольш мэтазгодна будзе прыліваць кроў гэтай (дацкай) пароды толькі той чырвона-беларускай жывёле, племянная якасьць якой ужо выяўлена. Вытворцы дацкае пароды асабліва будуць карысны ў тым выпадку, калі трэба будзе павялічыць жывую вагу і моц касьцяку чырвона-беларускай жывёлы. Дзякуючы таму, што колькасьць дацкай жывёлы нязначна, а завоз з замежаў таксама быццам не прадугледжаны, паляпшэньне гэтай пародай чырвона-беларускай жывёлы павінна пайсьці па мэтоду прыліцьця крыві.

Іншы падыход павінен быць да чырвона-нямецкай жывёлы, якой у БССР налічваецца па савгасах звыш 700 галоў. Гэта колькасьць ужо настолькі значная, што дазваляе організаваць не кароткатэрміновае, а доўгатэрміновае карыстаньне крывёй гэтай жывёлы. На нашу думку ў пародным раёне чырвонае беларускай жывёлы вельмі мэтазгодна будзе організаваць племгас чырвона-нямецкай жывёлы, які і будзе даваць матар'ял для работы з чырвона-беларускай жывёлай.

Нам здаецца, што пры гэтай схеме мы, па-першае, скарыстаем наяўныя ў нас чырвоныя пароды (ангельскую, дацкую і чырвона-нямецкую) і, па-другое, палепшым чырвона-беларускую жывёлу.

Зразумела, што пры ўсім гэтым як-мага шырэй павінна быць скарыстана штучнае запладненьне.


СХЭМАТЫЧНАЯ КАРТА РАЁНАЎ Б.С.С.Р.
Паводле пастановы Ц.В.К. ад 8 ліпеня 1931 г.
Маштаб: у 1 цалі 80 в
ЛАТВІЯ
Полацак
Віцебск
Гарадок
Сураж
Лёзна
Лепель
Сянно
Орша
Дуброўна
Талачын
Крупкі
Барысаў
Менск
Шклоў
Горкі
Магілёў
Бялынічы
Бярэзіна
Чэрвень
Чавусы
Крычаў
Клімавічы
Слуцак
Бабруйск
Рагачоў
Жлобін
Парычы
Рэчыца
Гомель
Мазыр
Брагін
АБАЗНАЧЭНЬНІ:
Межы Б.С.С.Р
Межы раёнаў
Цэнтры раёнаў
Чыгункі
Шасы
Рэкі
I - Швіцы
II чырвона-белоруск.
III Колон. - белоголов.

О. Шульман[1].

# Організацыя работы ў колгасе „МОПР“ Віцебскага раёну

Колгас „МОПР“ у пачатку трэцяй бальшавіцкай вясны ўзяў садова-гародны і жывёлаводчы кірунак гаспадаркі. Адпаведна з гэтым прадугледжана разьмеркаваньне паасобных культур на зямельным вучастку колгасу, каб перайсьці да пэўнага плянавага севазвароту.

Парадак засеву і чаргаваньне культуры ў севазвароце разьмяркоўваецца так: 1) папар заняты, 2) жыта азімае, 3) віка аднагадовая, 4) яравыя—авёс, ячмень, караньплоды, 5) віка двухгадовая, 6) бульба, 7) бабовыя расьліны і пэўны вучастак вылучаны пад гароднія культуры. Выходзячы з гэтага, уся зямельная плошча колгасу падзелена на паасобныя вучасткі для тых ці іншых культур.

Паводле вытворчага пляну колгас „МОПР“ у трэцюю бальшавіцкую вясну павінен засеяць: аўса—14 га, ячменю—10 га, гароху—4 га, вікі на корм і насеньне—76 га, бульбы—115 га, сілосных культур—11 га, лёну—3 га, караньплодаў—16,5 га і гароднымі культурамі— 45 га, разам 283,5 га.

Апрача засеву, догляду і будучай уборкі ўраджаю з паказанай плошчы вытворчым плянам вызначана ў бягучым годзе пабудаваць: аборы, 2 склады для спрату гародных культур, сілосную вежу, 1 сьвінарнік, пераабсталяваньне некаторых памяшканьняў і догляд жывёлы. Забясьпечаньне пасьпяховага выкананьня работ, вызначаных вытворчым плянам, патрабуе правільнага разьмеркаваньня наяўных сіл колгасу, інвэнтару і рабочае жывёлы, у гэтых адносінах колгас стаў на правільны шлях і ўжыў усе захады да організацыі работы адпаведна з пастановаю ЦК УсеКП(б) ад 4 лютага бягучага году „Аб організацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў“. Пастанова гэта дэталёва распрацавана сьпярша праўленьнем колгасу і потым выносілася на абмеркаваньне ўсіх колгасьнікаў, праз прапрацоўку яе на вытворчых нарадах і агульных сходах колгасьнікаў. Перадавая частка колгасьнікаў-ударнікаў прыняла самы актыўны ўдзел у распрацоўцы гэтае пастановы. Вынесены цэлы рад прак-

[1]) Малады краязнаўца-колгасьнік.

тычных прапаноў аб рэалізацыі і практычным ажыцьцяўленьні гэтай дырэктывы партыі. Колгасьнікі-перадавікі горача ўзяліся за выкананьне пастановы ЦК УсеКП(б), бо яны ўбачылі, што колгасная брыгада ўзмацняе самадзейнасьць і адказнасьць колгасьнікаў за выкананьне даручанае работы. Пры брыгаднай сыстэме работы кожная гадзіна прагулу або нясумленнае выкананьне работы відаць як на далоні. У брыгадзе вельмі лёгка пазнаць добрасумленнага працаўніка ад абібока. Брыгада дапамагае ўкараненьню і ўзмацненьню соцыялістычных мэтодаў работы—соцспаборніцтва, ударніцтва, грамадзкі буксір—і ліквідуе абязьлічку ды ўраўнілаўку. Вось чаму колгас поўнасьцю перайшоў на сыстэму арганізацыі брыгаднай работы літаральна ва ўсіх галінах гаспадаркі.

Усяго ў колгасе арганізавана сем брыгад: тры паляводчыя, дзьве садова-гародныя, адна жывёлагадоўчая і адна будаўнічаабслугоўчая. Схематычна ўвесь працэс арганізацыі брыгад у колгасе „МОПР“ можна падзяліць на сем арганічна зьвязаных паміж сабою зьвяноў, пасьлядодчае злучэньне якіх мае немалаважнае значэньне. Першае зьвяно—гэта арганізацыя зямельнае плошчы і разьмяшчэньне паасобных культур. Другое—вызначэньне колькасьці і віду брыгад, з паказаньнем аб'ёму іх вытворчага заданьня. Трэцяе — складаньне вытворчае програмы (пляну) для кожнай брыгады ў паасобку, з паказаньнем культур, норм высеву, патрэбы ў насенным матар'яле, вызначэньне прадпалаганага сярэдняга ўраджаю, тэрмінаў выкананьня плянаў, якасьці іх, налічэньне працадзён адпаведна норм і зьдзельшчыны.

Чацьвертае—прымацаваньне цягавай сілы, сельска-гаспадарчых машын, прылад і інш. сродкаў вытворчасьці і рабочай сілы колгасьнікаў, выходзячы з аб'ёму вытворчага заданьня.

Пятае—падбор і вызначэньне брыгадзіраў з паказаньнем аб'ёму работы, патрэбных сродкаў вытворчасьці і колькасьці прымацаванае сілы па сьпісах з абмеркаваньнем і зацьверджаньнем на сходзе колгасьнікаў.

Шостае—задача брыгадзірам вылучанага інвэнтару і даручанае цягавае сілы.

Сёмае—давядзеньне вытворчага заданьня брыгадзе да кожнага паасобнага колгасьніка праз абмеркаваньне плянаў на вытворча-тэхнічных нарадах, прымацаваньне да кожнага колгасьніка ў брыгадзе інвэнтару і рабочае жывёлы.

Для кожнай брыгады выпрацавана вытворчая програма (плян), выходзячы з агульнага пляну колгасу на бягучы год. У гэтай програме вызначаны аб'ём заданьня, нормы, тэрміны пачатку і канцы работы. Для ілюстрацыі лічым патрэбным зьмясьціць тут вытворчую програму паляводчай брыгады, колгасу МОПР на 1932 г. (гл. табл. на стар. 61).

Правёўшы, такім чынам, арганізацыю працы, колгас МОПР ліквідаваў ранейшыя свае аддзяленьні, якіх было тры, бо колгас арганізаваны з трох былых вёсак: Карпавічы, Навікі і Макарава.

Укомплектаваньне арганізаваных брыгад у колгасе і разьмеркаваньне паміж імі сродкаў вытворчасьці адбывалася пры шы-

*Табліца 1.*

**ВЫТВОРЧАЯ ПРОГРАМА** (плян)

**паляводчай брыгады колгасу МОПР на 1932 год**

| Назва мерапрыемстваў | Абʼём вытворчага заданьня па культурах | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Канюшына пад сеў | Канюшына на ўкос | Канюшына на насеньне. | Віка на сена | Віка на зялёны корм | Віка на насеньне | Бульба | Сілосн. культуры | Авёс | Ячмень | Гарох | Жыта для ўборкі | Пшаніца для ўборкі | Жыта пасеў | Пшаніца пасеў | Сенажаць | Лён |
| Пасеяць га . . . | 44 | 14 | 4 | 31 | 3 | 7 | 22,5 | 3 | 12 | 4 | 1,5 | 46,3 | 1,5 | 45 | 3 | 90 | 1 |
| Норма высеву: канюшына . . | 10 клг. | — | — | 1 | 1 | 1 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Норма высеву: цімафееўка . . | 4 клг. | — | — | а 0,8 | ў 0,8 | с у 0,8 | 15 | 24 | 2 | 1,6 | 1,5 | — | — | 1,5 | 1,5 | — | 1,1 |
| Патрэба насеньня (цэнт.) . . . . | 4,4<br>1,76 | —<br>— | —<br>— | 31<br>24,8 | 3<br>2,4 | 7<br>5,6 | —<br>337,5 | —<br>— | —<br>24 | —<br>6,4 | —<br>2,25 | —<br>— | —<br>— | —<br>67,5 | —<br>4,5 | —<br>— | —<br>1,1 |
| Дабіцца ўраджайнасьці на га (цэнт.) . | — | 35 | 4 | 35 | 200 | 12 | 100 | 250 | 12 | 15 | 15 | 10 | 10 | 12 | 12 | 20 | сем. 2,5<br>3 лен |
| Пасеяць не пазьней 15/IV | 15/IV | — | — | у | м | а | і | м | е | с я | ц | ы | — | вера | сьня | — | мая |
| Пасеяць не пазьней 15/V | 15/V | — | — | 13 | 18 | 18 | 25 | 18 | 30 | 18 | 18 | — | — | 5 | 5— | — | 25 |
| Вытварыць уборку . | 30/VI<br>5/IX | 20/VIII | ліп<br>10 | ня<br>1 | 30 VIII | 25/IX | 25/VIII | 30/VIII | 10/VIII | 30 VIII | 10/VIII | 10 VIII | 10/VIII | — | — | 15/VII | 1/IX |

рокім удзеле колгасьнікаў. Праўленьне колгасу пры непасрэдным удзеле колгаснага актыву правяло належны ўлік рабочай сілы.

Складзены поўны падворны сьпіс, з якога відаць наяўнасьць працаздольных рабочых і работніц. На сходзе чыталі па сьпісу адно за адным прозьвішча колгасьнікаў і колгасьніц, узважвалі ўсе акалічнасьці, абставіны і ўмовы, вызначалі працаздольнасьць кожнае асобы і потым прымацоўвалі да пэўнай брыгады, унікаючы такім чынам мэханічнай разьбіўкі колгасьнікаў па брыгадах.

Кожнай брыгадзе на час вясновай сяўбы выпрацаваны конкрэтны графік работ, выходзячы з вытворчае яе програмы. Падаем тут графік работ паляводчай брыгады № 1, з якога відаць, што трэба рабіць, у які тэрмін, якой колькасьцю людзей, патрэба цягавай сілы (коні) інвэнтар і інш. (гл. табл. № 2 на стар. 63).

Садова-гароднія брыгады пераважна ўкомплектаваны жаночай рабочай сілай. Мужчыны прымацаваны да гэтых брыгад толькі ў залежнасьці ад патрэбы работнікаў для абслугоўваньня конскай цягавай сілы. У склад 2-х садова-гародных брыгад вылучана 53 жанчыны і 10 мужчын, у брыгаду па абслугоўваньню жывёлы вылучана 12 жанчын, 4 мужчыны і 5 падлеткаў. У будаўніча-абслугоўчую брыгаду вылучана 14 мужчын.

Да садова-гародных брыгад прымацавана 15 коняў. да жывёлагадоўчай—1 конь, да будаўнічай—4, да першай паляводчай брыгады—19, да другой—18 і да трэцяй—16. Кожная брыгада, выходзячы з патрэб, атрымала адпаведную колькасьць вазоў, плугоў, барон, акучнікаў, комплектаў вупражы і інш. прылад і машын. Па выкананьню работы ўвесь інвэнтар здаецца на схоў ў адпаведныя склады колгасу. Для кожнай брыгады складзены дакладны сьпіс інвэнтару і маемасьці, атрыманай са складаў колгасу, адбітак сьпісу даецца брыгадзіру.

Цяпер, калі брыгада атрымала ўсе патрэбныя сродкі вытворчасьці і пэўнае заданьне па выкананьню работы, прыступілі да расстаноўкі рабочай сілы ў самой брыгадзе. Паставілі кожнага колгасьніка на пэўнае месца, вызначыўшы яго абавязкі і нормы выпрацоўкі.

Да кожнага колгасьніка ў брыгадзе прымацавалі патрэбны пры выкананьні яго абавязкаў інвэнтар і рабочую жывёлу, растлумачыўшы, што поўную адказнасьць за прымацаваныя да яго сродкі вытворчасьці адказвае той, хто іх атрымаў. Пры станку кожнага каня прыбіты надпіс з адзнакай, да якой брыгады і да якога колгасьніка прымацаваны той ці іншы конь. Прыкладам, скажам, да колгасьніка першай паляводчай брыгады т. Вітошкіна Сьцяпана прымацаваны коні „Драма“ і „Чарнасьліў“, на якіх ён павінен араць зямлю. Яму таксама вызначаны плуг і пэўныя комплекты збруі. Вітошкін у атрыманьні даручаных яму коняй, плуга і збруі расьпісаўся ў адпаведнай ведамасьці і цяпер ён ведае, на якіх конях, з якім інвэнтаром ён павінен працаваць. Такая пастаноўка работы ліквідуе абязьлічку поўнасьцю, бо кожны колгасьнік будзе несьці адказнасьць за даручаныя сродкі вытворчасьці, і цяпер ужо ня будзе таго, што

той ці іншы колгасьнік будзе кожны дзень выбіраць сабе для работы таго ці іншага каня, плуг ці прылады. Такая пастаноўка работы канчаткова ўдарыла па абязьлічцы і дала магчымасьць паставіць кожнага колгасьніка на пэўнае месца ў гаспадарцы, а таксама палажыла пачатак унутрыбрыгаднай спэцыялізацыі колгасьнікаў, што, бязумоўна, будзе спрыяць узьняцьцю продукцыйнасьці работы.

Паколькі ўнутры кожнай брыгады ёсьць цэлы рад асобных відаў работы, якія носяць сыстэматычны характар і тыя ці іншыя віды работы даручаецца выконваць асобным групам колгасьнікаў ці нават асобным работнікам, пастолькі гэта дае магчымасьць выхоўваць з іх сталых спэцыялістаў, патрэбных колгасу. Прыкладам, калі мы бярэм садова-гародную брыгаду колгасу „МОПР", дык тут ужо вызначаецца пэўны шлях спэцыялізацыі, бо мы маем тут вылучэньне часткі колгасьнікаў парнікаводаў, якія будуць спэцыялізавацца ў гэтым кірунку; у брыгадзе па жывёлагадоўлі вылучана група сьвінаводаў, конюхаў, даглядчыкаў кароў, цялят і даільніц. Пытаньне спэцыялізацыі колгасьнікаў у брыгадзе надзвычай сур'ёзнае і вырашэньне яго на практыцы ў колгасе патрабуе асаблівае ўвагі і папярэдняй прадуманасьці. Гэта як праўленьне колгасу, так і ўся колгасная маса колгасу „МОПР" добра прапрацавала і падыйшла да яго вырашэньня ў поўнай меры падрыхтавана. Трэба сказаць, што з боку пасобных колгасьнікаў былі тэндэнцыі не падзяліць адразу ўсіх колгасьнікаў на розныя групы з тым, каб яны займаліся толькі сваёй справай, ня ўлічаючы таго, што некаторыя віды работы маюць чыста сэзонны характар і па выкананьню гэтых работ патрэбна пераключэньне на выкананьне другога віду работы, бліжэйшай да папярэдняга віду работы. Усё гэта цяпер улічана і прадугледжана пры стварэньні брыгады ды іх спэцыялізацыі.

Падбору брыгадзіраў-кіраўнікоў пэўных галін у гаспадарцы колгасу праўленьне асабліва аддала многа ўвагі, і зразумела чаму. Брагадзір—організатар работы ў брыгадзе, ад гібкасьці, уменьня і опэрацыйнасьці яго кіраўніцтва залежыць правільная расстаноўка сіл у брыгадзе і пасьпяховае забясьпечаньне выкананьня вытворчага плянавага заданьня брыгадзе. Ад брыгадзіра залежыць організацыя работы, улік працадзён, змаганьне за якасьць, колькасьць і каляндарнае выкананьне пляну. Вось чаму пры падборы і вылучэньні брыгадзіраў абмяркоўвалі кожную кандыдатуру пры самым актыўным удзеле колгасных мас. Вылучыўшы брыгадзіраў, праўленьне колгасу організавала спэцыяльныя курсы для падрыхтоўкі брыгадзіраў. Курсы разьлічаны на 40 гадзін і згодна з праграмай мінімумам за гэты час кожны брыгадзір павінен азнаёміцца з тэхнікай організацыі работы і яе ўліку.

Спынімся цяпер коратка на садова-гароднай брыгадзе т. Брайкава. Гэта брыгада мае ў сваім складзе 6 мужчын і 29 жанчын, да яе прымацавана 8 коняй, 8 аднаконных плугоў, 8 барон, 1 дзіскавая барана, 2 акучнікі, 8 вазоў, 8 саней, 8 комплектаў упражы і патрэбную колькасьць рыдлёвак, грабляў, палівачак і іншых прылад. Словам, брагада ў поўнай меры забясьпечана

як людзьмі, так і сродкамі вытворчасьці. Вытворчае заданьне брыгада атрымала наступнае: засеяць капусту, гуркі, памідоры, моркву, цыбулю, раньнюю бульбу і іншую гародніну на плошчы 24,6 га. У вытворчым заданьні дакладна вызначана плошча засеву кожнай культуры і нормы засеву. Прыкладам, гуркоў трэба засеяць 5 га, цыбулі 5 ц, бульбы 15 ц і г. д. Быў недахват некаторых відаў насеньня. Гэта абавязала брыгаду мобілізаваць унутраныя рэсурсы і тая колькасьць насеньня, якой не хапала, брыгадай сабрана часткова,—знайшлі яго сярод колгасьнікаў, частку пазычылі ў другога колгасу, частку абмянялі на лішак сваіх насенных рэсурсаў, а частку проста купілі і такім чынам брыгада т. Брайкова забясьпечыла сябе насенным матар'ялам. Далей вытворчае заданьне прадугледжвае патрэбу ўгнаеньня, належнай падрыхтоўкі глебы, прадпалаганыя нормы ўраджаю і цэлы рад іншых агратэхнічных мерапрыемстваў. У гэтых адносінах брыгада Брайкова дакладна падлічыла і сабрала патрэбную колькасьць угнаеньня падрыхтавала глебу і вызначыла календарны плян правядзеньня асобных відаў работ. Такім чынам, брыгадзе дакладна вядомы самыя нязначныя дэталі таго, што трэба рабіць і ў які тэрмін.

Напрыклад, з вытворчага пляну відаць, што брыгадзе трэба вывезьці 700 вазоў угнаеньня і згодна з нарадам гэту работу трэба пачаць 25 сакавіка, а скончыць 2 красавіка. Для гэтага вызначаюцца 10 чалавек з 10 коньмі. Норма вывазу 10 вазоў у дзень пры ацэнцы 10 сотых рабочага дня, гэта паказвае, што на выкананьне гэтай работы патрэбна 70 рабочых дзён. Значыць, цяпер ясна ня толькі заданьне, але і тое, як рабіць і што можна вырабіць у сэнсе ўзнагароды. Адсюль брыгада, маючы вытворчы плян нарады і заданьне, расстаўляе свае ўнутраныя сілы і сродкі так, каб забясьпечыць сваечасовае і добраякаснае выкананьне належных работ.

Першай гародняй брагадзе было заданьне зрабіць і закласьці 100 парніковых рам. Разьмяркаваўшы людзей, выходзячы з тэрміну на выкананьне гэтай работы і нормы зьдзельнае работы, брыгада зрабіла і залажыла за гэты час ня 100, а 120 рам.

Вось прыблізна кароткія даныя з практыкі колгасу „МОПР“ па організацыі работы ў ім на падставе апошніх дырэктыў партыі і ўраду, накіраваных на організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасу. Зразумела, што мы падалі тут далёка ня поўны малюнак таго, што робіцца і зроблена колгасам у гэтым кірунку, але лічым, што і гэтыя весткі будуць карыснымі для абмену практыкай з другімі колгасамі.

**Мікалай Войтка**

# Сілай колектыву

## 1. Некалі

Там, дзе цяпер расьцілаюцца палеткі колгасу „Чырвоны Кастрычнік“ Крупскага раёну—даўней панаваў абшарнік Брадоўскі. Ён меў каля 1000 дзесяцін зямлі, вінакураны завод, цагельні. Сяляне вёсак Хацюхава, Падбярэзьзе, Шчаўры і інш. працавалі на панскіх палёх, на заводзе, бязьлітасна эксплёатуючыся экономамі і цівунамі Брадоўскага. Рознымі спосабамі абіраў сялян пан Брадоўскі. Рэволюцыя прагнала пана ў панскую Польшчу. Сяляне падзялілі частку панскай зямлі між сабой, організаваўшы пасёлкі „Красный Пахарь“, „Пагароц“, „Яблынка“ і інш. На астатняй зямлі організавалася інвалідная арцель.

Нормальнаму разьвіцьцю гаспадаркі, жыцьцю сялян доўгі час перашкаджалі бандыты.

Банды Семеніка і Моніча актыўна разьвілі сваю бандыцкую дзейнасьць у часе, калі белапольскія легіёны стаялі ў Барысаве. Яны мелі цесную сувязь з белапалякамі, забясьпечваючыся ад іх збраяй і амуніцыяй. Бандыты вербаваліся з кулацка-заможных элемэнтаў вёсак былой Халопеніцкай і інш. воласьцяў з мэтай весьці шпіёнскую работу і наводзіць жах на насельніцтва ў прыфрантовай паласе і ў тыле.

## 2. Матар'яльная база колгасу

Да 1929 г. у былым двары Брадоўскага была інвалідная арцель. У 1929 організаваўся колгас „Чырвоны Кастрычнік“. Організатарамі колгасу былі комуністы з Хацюхаўскай ячэйкі КП(б)Б, якую організаваў у 1920 г. настаўнік-комуніст М Клімковіч. Зуёнак Парфён, Рогаў Хвядот, Мікалаёнак Сямён, Зуёнак Апанас,—гэта першыя колгасьнікі колгасу „Чырвоны Кастрычнік“, тыя, хто пачаў організоўваць і пашыраць колгас. Бедната вёскі Хацюхова, якая жорстка эксплёатавалася да рэволюцыі панам Брадоўскім і паўпанкамі, а пасьля цярпела ад бандытаў ды кулакоў, адразу зразумела, што колгас выведзе яе на сьветлы шлях да соцыялізму.

Калі ў жніўні 1929 г. ў колгасе было ўсяго 9 гаспадарак, дык увесну 1930 г. ў колгасе было аб'яднана 72 бядняцкія гаспадаркі. Колгас шпарка рос і пашыраўся.

„Чырвоны Кастрычнік“ займае плошчу ў 1116 *га* зямлі. Плошча па ўзгодзьдзях разьмеркавана:

| | |
|---|---|
| Ворнай зямлі | 530 *га* |
| Сенажаці (сухадол, балотны) | 300 „ |
| Лес | 125 „ |
| Хмызьняк | 125 „ |
| Выган | 30 „ |
| Сад | 50 „ |
| Гарод | 5,6 „ |
| Сядзіба | 6,5 „ |

Чвэрць плошчы пахаці мае сугліністую глебу; другая чвэртка пахаці мае супяшчаную глебу, астатняя плошча прыпадае на „цяжкую зямлю“—гліністую глебу. Сустракаецца дзе-ні-дзе і падзоліца. З сельска-гаспадарчага інвентару колгас мае:

1 мэханічная малатарня (трактарная), 3 конных малатарні, 3 жаткі самаскідкі, 1 сенакасілка, 2 радавыя сеялкі, 2 сеялкі для спэцыяльных культур, 1 сілосарэзка, 3 ільномялкі, 1 качарэз, 1 глебапаглыбляльнік, 1 жмыхадрабілка, 1 маслабойка, 1 сэпарат, 45 плугоў, 17 барон зіг-заг, 27 простых барон, 3 арфы, 3 сячкарні, 2 трыеры, 5 спрунжыновых барон, 30 калёс. Каштоўнасьць усяго мёртвага інвэнтару 10000 рублёў. Вясной 1932 г. пры колгасе „Чырвоны Кастрычнік“ організавана аддзяленьне МТС, дзе будзе работаць шэсьць трактараў, абслугоўваць патрэбы як колгасу—„Чырвоны Кастрычнік“, так і навакольных колгасаў.

Рабочай жывёлы колгас мае: 69 рабочых коняй; маладняку 11. Частка коняй — слабая, няпрыдатная для выкананьня цяжкіх с/гаспадарчых работ.

Маецца 102 дойныя каровы; 4 быкі-вытворцы; 9 нецеляй; 87 галоў маладняку; сьвінаматак 25; маладняку 31; кныроў—4.

У колгасе ёсьць 52 авечкі; 10 рамачных вульляў і 50 калод пчол.

На базе колектывізацыі былі ліквідаваны 15 кулакоў. Маемасьць у суме 7.784 рублі перайшлі ў непадзельны фонд колгасу. Колгас мае млын з лёкомотывам у 25 конскіх сіл. За 1930 год млын даў 3.565 рублёў прыбытку.

### Пытаньні клясавае барацьбы ў колгасе

У жніўні 1929 г. у колгасе было толькі 9 гаспадарак. Колгас хутка пачаў расьці. Ужо ў верасьні таго-ж году колгас аб'яднаў 52 гаспадаркі. Пасьля земляўпарадкаваньня ў кастрычніку 1929 г. колгас налічваў 63 гаспадаркі.

У 1932 годзе ў колгасе аб'яднана 74 бядняцкія гаспадаркі, 19 серадняцкіх, 1 рабочы, 12 адзіночак, 15 служачых. Усяго насельніцтва ў колгасе 520 чалавек, з іх працаздольных: 133 жанчыны, 115 мужчын, 8 падлеткаў, 265 непрацаздольных.

Сярод колгасьнікаў маецца членаў і кандыдатаў КП(б)Б—24 чал., членаў ЛКСМБ—13 чалавек. Пры організацыі колгасу ў колгас пралезла некалькі гаспадароў-заможнікаў, кулакоў, воража настроеных супроць колгасаў. Вораг пачаў падрываць колгас з сярэдзіны.

У 1930 годзе члены колгасу з заможнікаў не пайшлі жаць на адны палеткі з беднякамі і серадняками і гэтым хацелі зрабіць прарыў у колгаснай рабоце. У тым-жа годзе па віне заможнікаў было згноена 10 пудоў ільносемя. Заможнік Кандрат Рогаў таемна ад колгасу прадаваў колгаснае сена ў г. Барысаў, за што праўленьне ў свой час наклала на яго штраф, зьняўшы 20 працадзён. Летам 1930 г. пад уплывам кулацкае агітацыі ў колгасе ня ўбралі ўсёй сенажаці. Каб падарваць аўторытэт колгасу „Чырвоны Кастрычнік“ сярод аднаасобнікаў, заможнікі пусьцілі чуткі аб тым, нібыта ў колгасе зьмерзла бульба, у той час як бульба была добра захавана ў капцох і была цэла.

Заможнікі на сходах колгасьнікаў выступалі супроць беднаты, агітавалі супроць дапамогі некаторым колгасьнікам-бедняком.

Прыехаў з Сібіры рабочы Зьмітра Макрыцкі, уступіў у колгас. Замест таго, каб дапамагчы яму (Макрыцкі прасіў праўленьне аб матар‘яльнай дапамозе), праўленьне, пад уплывам агітацыі заможнікаў, нічога ня дала т. Макрыцкаму—рабочаму, комуністу.

Увосень 1931 г. у праўленьне колгасу пралезьлі заможнікі і адразу паказалі сваю „работу“. Маемасьць колгасьнікаў раскрадалася, згноены лён-валакно. Сход колгасьнікаў у студзені 1932 г. выключыў з колгасу 6 заможніцкіх гаспадарак. У сакавіку яшчэ адна „група“ заможнікаў была выключана з колгасу. Пад кіраўніцтвам партыйнай ячэйкі і сельсавету бедната і сераднякі „Чырвоны Кастрычнік“ ачысьцьлі колгас ад заможнікаў. Пры гэтым бедната выявіла сваю клясавую чуласьць, сьвядомасьць і адзінства ў барацьбе з кулацка-заможнай часткай колгасу.

## 4. Вынікі 1931 году

У 1930 годзе кошт валавой продукцыі гаспадаркі вызначаўся ў 70.730 руб. Кошт валавой продукцыі паляводзтва быў 32.555 рублёў, садоўніцтва 2.984, лугаводзтва 6.466, гародніцтва 5.128, жывёлагадоўлі 13.255, прадпрыемствы 3.565, організацыйна-вытворчае абслугоўваньне насельніцтва 199, ад цягавай сілы 1.355, эксплёатацыя машыны на старане 5.223.

Валавая продукцыі гаспадаркі за 1931 год відаць з табліцы № 1 [1]). На гэтай табліцы апрача продукцыі відаць і разьмеркаваньне яе: як дзача дзяржаве, так і організацыя фондаў і разьмеркаваньне на працадні.

[1]) Валавая продукцыя колгасу ў 1931 г. вызначылася лічбай у 73.500. руб.

Грашовая частка ўраджаю колгасу ў 1931 годзе складалася:

| | |
|---|---|
| ад здачы дзяржаве таварнай продукцыі на суму | 12.250 р. 03 к. |
| Спэцыяльна харчовага фонду . . . . . | 468 „ 38 „ |
| Ад малочна-таварнай фэрмы . . . . | 10.018 „ 98 „ |
| Ад адыходніцтва . . . . . . . | 1.805 „ 89 „ |
| Ад жывёлагадоўлі . . . . . . | 6.692 „ 01 „ |
| Ад прадпрыемстваў . . . . . . | 4.148 „ 88 „ |
| Іншыя прыбыткі . . . . . . . | 2.279 „ 17 „ |
| Разам . . | 37.671 р. 34 к. |

Калі сюды дадаць кошт продукцыі натуральнае часткі, якая разьмяркоўваецца на працадні ў суме 11.737 р. 55 кап., дык *валавы прыбытак,* з якога вылічваюцца фонды, вызначыўся лічбай у *49.408 р. 89 к.* Валавы прыбытак гаспадаркі за 1931 год разьмеркаваны наступным чынам:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Сельгаспадатак . . . . | 548 р. | к. | (у 1930 годзе пад. 375 р.) |
| Страхоўка . . . . . | 2.083 „ | „ | |
| Пагашэньне крэдытаў і %% па іх. | 8.204 „ | 21 „ | |
| Непадзельны капітал . . . | 5.786 „ | 10 „ | |
| Для разьмеркаваньня на абагуленую маемасьць. . . . . | 1.157 „ | 22 „ | |
| Культурна-бытавы фонд . . | 771 „ | 48 „ | |
| Фонд дапамогі курсантам . . | 385 „ | 74 „ | |
| Прэміяльны фонд. . . . | 385 „ | 74 „ | |
| Фонд аградапамогі . . . | 385 „ | 74 „ | |
| Гаспадарчыя выдаткі . . . | 3.667 „ | 55 „ | |
| Адміністрацыйныя выдаткі . . | 391 „ | 38 „ | |
| Разам адлічэньняў . . | 23.766 р. | 16 кап. | |

Для разьмеркаваньня сярод колгасьнікаў згодна выпрацаваных працадзён застаецца 13.905 р. 18 кап. з грашовай часткі ўраджаю. Непадзельны капітал колгасу „Чырвоны Кастрычнік" на 1932 г. вызначыўся даволі вялікай лічбай—у 16.129 р. 10 кап.

Значную частку крэдытаў „Чырвоны Кастрычнік" ужо аддаў па назначэньню. На патрэбы колгасу былі ўзяты крэдыты на суму 20.365 руб. Колгас ужо зьвярнуў дзяржаве крэдытаў на суму 13.907 руб. 21 кап.

## 5. Хто больш і лепш працуе, той больш атрымлівае

Натуральная і грашовыя часткі з агульнай прыбытковасьці колгасу разьмеркаваны выключна на прапрацаваныя дні. Хто больш выпрацаваў дзён, той найбольш атрымаў харчоў і грошай. У колгасьніка Дзеравягі Ігната сям'я 4 чал., з іх працаздольных—3 чал. За год ужо выпрацавалі 988 працадзён. За гэта колгас ім выдаў: жыта 1.053,9 *кг*, ячменю—162,8 *кг*, пшаніцы—75,0 *кг*, аўсу—76,6 *кг*, бульбы—3086,4 *кг*, сена—1244,8 *кг*, саломы—436 *кг;* грашыма атрымалі—325 р. 76 к.

Лабаноўская Пелагея, што мае сям'ю ў 6 едакоў, з іх—3 працаздольныя, выпрацавала з сваёй сям'ёй за год 826 працадзён.

**Табліца канчатковага разьмеркаваньня нату**

| № па парадку | Назва культур | | Плошча пасеву | Валавы збор у ц | Здача дзяржаве | | | Насенны фонд | Страхавы нас. фонд | Фуражны | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | ц | На суму | | | | Разам фураж. фонд | Для МТЗ |
| | | | | | | Р. | К. | | | | |
| 1 | Жыта . . . . | | 140 | 768,14 | 26,15 | 210 | 76 | 248 | — | — | — |
| 2 | Пшаніца яр. . . | | 10 | 41,00 | — | — | — | 5 | 0,75 | — | — |
| 3 | Авёс . . . . | | 80 | 335,91 | 96,21 | 609 | — | 133 | 19,95 | 52,25 | 8,00 |
| 4 | Ячмень . . . | | 30 | 109,48 | — | — | — | 30,00 | 4,50 | — | — |
| 5 | Гарох . . . . | | 2 | 2,68 | — | — | — | 2,68 | — | — | — |
| 6 | Бульба . . . | | 70 | 4520 | 1491 | 5368 | — | 1248 | 187 | 220 | — |
| 7 | Лён | семя . . | 50 | 62,70 | 62,70 | 695 | — | — | — | — | — |
| | | валакно. | | 95,57 | 95,57 | 754 | — | — | — | — | — |
| 8 | Каноплі | семя . | 3 | 2,50 | — | — | — | 2,50 | — | — | — |
| | | валакно | | 4,10 | 4,10 | 82 | — | — | — | — | — |
| 9 | Лубін нас. . . | | 5,5 | 6,51 | — | — | — | 6,51 | — | — | — |
| 10 | Лубін на ўгнаеньне . . . | | 4 | 4 | — | — | — | 4 | — | — | — |
| 11 | Кашюшына н. . | | 4 | 0,14 | — | — | — | 0,14 | — | — | — |
| 12 | Конюшына сен. . | | 25 | 483 | — | — | — | — | 483 | — | — |
| 13 | Сеналуг. . . . | | 280 | 3266 | 3188 | 75 | 5 | — | — | 2642 | 1400 |
| 14 | Салома . . . | | — | 2197 | 66 | 132 | — | — | — | 1941 | 1553 |
| 15 | Сілос . . . . | | — | 160 | — | — | — | — | — | 160 | 160 |
| 16 | Кораньплоды. . | | 6,5 | 656 | — | — | — | — | — | 656 | 656 |
| 17 | Капуста . . . | | 3 | 348,87 | 346 | 1447 | — | — | — | — | — |
| 18 | Памідоры. . . | | 0,5 | 6,42 | 6,42 | 197 | 9 | — | — | — | — |
| 19 | Гуркі . . . . | | 0,5 | 12915 | 12915 | 132 | — | — | — | — | — |
| 20 | Бручка . . . | | 0,5 | 5020 | 5020 | 203 | — | — | — | — | — |
| 21 | Яблыкі . . . | | 6,5 | 110,72 | 11072 | 2350 | — | — | — | — | — |
| 22 | Адыходы . . . | | — | 32,56 | — | — | — | — | — | 32,56 | — |
| | Разам . . | | — | — | — | 12256 | — | — | — | — | — |

Табліца № 1.

**ральнай часткі колгасу „Чырвоны Кастрычнік“**

| фонд у ц | | Спэцыяльны харчовы фонд | | | | | Застаецца для разьмеркаваньня на працадні | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Недатыкал. фонд | Запасны фуражны фонд | ц | На суму | | Зварот сем. ссуд, узятых у пазыку | Разам адлічэньняў у ц | Кольк-касьць ц | На суму | | Увага |
| | | | Р. | К. | | | | Р. | К. | |
| — | — | 35 | 299 | 25 | — | 309,46 | 458,68 | 3921 | 71 | |
| — | — | 2,5 | 28 | 13 | — | 8,25 | 32,75 | 368 | 44 | |
| 13 | — | — | — | — | — | 301,41 | 34,50 | 272 | 55 | |
| — | — | 4 | 33 | — | — | 38,5 | 70,98 | 585 | 59 | |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| — | — | 30 | 108 | — | — | 317618 | 1343,82 | 4817 | 75 | |
| — | — | — | — | — | — | 62,70 | — | — | — | |
| — | — | — | — | — | — | 95,57 | — | — | — | |
| — | — | — | — | — | — | 2,50 | — | — | — | |
| — | — | — | — | — | — | 4,10 | — | — | — | |
| — | — | — | — | — | — | 6,51 | — | — | — | |
| — | — | — | — | — | — | 4 | — | — | — | |
| — | — | — | — | — | — | 0,14 | — | — | — | |
| — | — | — | — | — | — | 483 | — | — | — | |
| 150 | 50 | — | — | — | — | 272388 | 542,12 | 1409 | 54 | |
| — | — | — | — | — | — | 2007 | 190 | 342 | — | |
| — | — | — | — | — | — | 160 | — | — | — | |
| — | — | — | — | — | — | 656 | — | — | — | |
| — | — | — | — | — | — | 346 | — | — | — | |
| — | — | — | — | — | — | 6,42 | — | — | — | |
| — | — | — | — | — | — | 12915 | — | — | — | |
| — | — | — | — | — | — | 50,20 | — | — | — | |
| — | — | — | — | — | — | 11072 | — | — | — | |
| — | — | — | — | — | — | 32,56 | — | — | — | |
| — | — | — | 468 | 38 | — | — | — | 11737 | 55 | |

За гэта атрымала: 880 *кг* жыта, 138,4 *кг* ячменю, 63 *кг* пшаніцы, 66 *кг* аўсу, 2.580 *кг* бульбы, 1.048,8 *кг* сена, 315 *кг* саломы, грошай 265 р. 88 кап.

Арлёнак Уладзімер на працягу ўсяго году ленаваўся. У яго ў сям'і 2 чал., усе працаздольныя. За год выпрацавалі ўсяго толькі 191 працадзень, за што атрымалі: жыта 203,5 *кг*, ячменю 31,5 *кг*, пшаніцы 14,6 *кг*, аўсу 15 *кг*, бульбы 596,6 *кг*, сена 240,7 *кг*, саломы 84 *кг* і грашыма ўсяго толькі 61 руб. 72 кап.

### 6. Барацьба за высокі ўраджай

Падняць ураджай—задача, якую трэба ў найхутчэйшы час рашыць колгасам і саўгасам СССР. Падняць ураджай, каб матар'яльна і продуктамі харчаваньня забясьпечыць працоўныя масы СССР да канца другой пяцігодкі ў 2,5—3 разы больш, чым гэта мы маем у канцы першай пяцігодкі.

Проблема падвышэньня ўраджайнасьці пастаўлена ва ўсю шырыню колгасьнікамі.

Колгасьнікі „Чырвонага Кастрычніка“ абавязуюцца ў 1932 г. падняць ураджайнасьць зернавых культур і лёну. Прымусіць глебу і насеньне даць з *га*, засеянагу лёнам, лёну-насеньня—3 *ц*, лёну-валакна—2,5 *ц*, аўсу—10 *ц*, ячменю—10 *ц*, пшаніцы—8 *ц*, гароху—15 *ц*, вікі на насеньне—15 *ц*, вікі на сена—20 *ц*, бульбы—100 *ц*.

Падвышэньне ўраджайнасьці колгас „Чырвоны Кастрычнік“ робіць наступнымі мэтодамі: сваечасовай і добраякаснай апрацоўкай глебы, раньнім узорваньнем папару пад азімыя культуры (жыта), ворыва на зяб, дзе будзе сеяцца ярына 1932 году. Зроблена тарфаваньне глебы: 530 *т* торфу, на якім стаяла жывёла, будзе аддана глебе. Вясной 1932 г. вывезена пад яравыя пасевы 6.920 вазоў гною. Колгас ужывае штучнае ўгнаеньне. У 1932 годзе колгас расьсее 54 *ц* супэрфосфату, 80 *ц* фосфарыту.

Будзе пашырацца плошча пад пасевы. У 1932 г. мяркуецца асушыць 30 *га* балота, раскарчаваць—34 *га*, распахаць залежаў 40 *га*.

Колгас заклапочаны паляпшэньнем лугоў, каб узмацніць кармовую базу для рагатай жывёлы, лік якой у гэтым годзе будзе павялічаны. Будзе ўгноена 20 *га* сенажаці, забаранавана 20 *га*. Мяркуецца залажыць 15 *га* для выпасу жывёлай.

Для таго, каб павысіць ураджай лёну—семя і валакна, колгас засявае раньнім пасевам лёну 40 *га* на зяблевым ворыве. Пад пасеў лёну будзе рассыпана 92 *ц* сільвэніту і 54 *ц* супэрфосфату.

Колгас засявае толькі ачышчаным сартаваным насеньнем. У колгасе ўжываюцца зернавыя культуры наступных сартоў: жыта—шацкае, пшаніца—чырвонакальская, авёс—„залаты дождж“, бульба—белая „баброўка“, лён—„даўгунец“. Пытаньне падвышэньня ўраджаю ў колгасе асабліва рэзка пастаўлена ў сувязі з зьявішчам частковага зьніжэньня ўраджаю ў 1931 годзе параўнальна з 1930 г.

Праўда гэтае зьявішча тлумачыцца тым, што мела месца выправаньне азімых. Зьніжэньне ўраджайнасьці ярыны часткова

можна тлумачыць сухавеямі ўлетку 1931 году. Але галоўнай прычынай гэтага трэба лічыць—*няўгноенасьць глебы*. Колгас мала клапаціўся аб тым, каб як-мага лепш угнаіць зямлю. Да гэтага трэба дадаць дрэнную апрацоўку глебы.

У 1932 годзе колгасьнікі рашуча паставілі пытаньне аб значным павялічэньні ўраджайнасьці збожжавых культур параўнальна з 1931 г., што яскрава відаць з соц.-умоў, заключаных паміж брыгадамі на час пасеўнае кампаніі, і з практыкі выкачаньня сельскагаспадарчых работ.

## 7. Пасеўны плян 1932 году

Асаблівую ўвагу Райколгассаюз і праўленьне колгасу „Чырвоны Кастрычнік" зьвярнулі на пашырэньне плошчы пад пасеў лёну. У 1932 годзе будзе ім заня́та плошча ў 140 *га*.

Мяркуецца ўвосень пры ўборцы лёну ўжываць машыны—ільнацерабілкі, якімі будзе ўбрана плошча ў 100 *га*. Пры дапамозе машын будуць ачэсаны галоўкі з лёну.

Значна (параўнальна з пасеўплянам 1931 г.) пашыраецца плошча пад канюшыну, віку. Канюшынай будзе засеяна (разам з ярыной) плошча ў 55 *га*, вікай—50 *га*. Плошча пад караньплоды даведзена да 11 *га*, пад бульбу—100 *га*, (у 1931 г. бульба займала плошчу ў 70 *га*).

Сілосныя культуры будуць займаць плошчу ў 8 *га*, авёс—98 *га* (у 1931 годзе аўсом было засеяна 80 га).

Такія вялікія зьмены ў пасеўным пляне 1932 г. параўнальна з плянам 1931 г. яскрава сьведчаць аб рэконструкцыі колгасу, аб значэньні яго ролі ў індустрыялізацыі краіны, а таксама сьведчаць і аб жывёлагадоўчым кірунку колгасу, для чаго трэба ўзмацніць кармовую базу шляхам засеву значнае колькасьці канюшыны, вікі, бульбы, караньплодаў, сілосных культур.

## 8. Жывёлагадоўля

Жывёлагадоўля—адна з асноўных, вядучых галін колгасу „Чырвоны Кастрычнік". Узмацніць кармовую базу, пашырыць стада рагатае жывёлы, палепшыць пароду кароў, падвысіць удой ад кароў—вось задачы, якія стаяць перад колгасьнікамі. Як зазначалася вышэй, колгас мае 102 дойныя каровы, 9 нецеляй, 87 галоў маладняку. Усе каровы простай мясцовай пароды. Удойлівасьць іх нізкая.

У сярэднім карова дае ў дзень 3-4 літры малака. На зіму карове не хапае корму. На зіму 1931-1932 гг. было засілосавана 20 *ц* кармоў, зьнята канюшыны з 33 *га*, ды караньплодаў 656 *ц*. За 1932 год колгас мяркуе давесьці стада дойных кароў да 150 галоў, нецеляй старэй 2 год—35 галоў, маладняку—ад году да двух—50 галоў, цялят за год—85 галоў.

Распачаць і закончыць будоўлю аборы на 200 галоў кароў і абору для цялят на 50 галоў.

Намечана засілосаваць 350 *тон* корму.

Гадавы плян здачы малака дзяржаве вызначаецца ў 787 *ц*.

## 9. Соцспаборніцтва і ўдарніцтва

Як ніколі ў 1932 г. у „Чырвоным Кастрычніку“ шырока разгорнуты соцыялістычныя мэтоды працы—соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Асаблівая выключная ўвага зьвернута на організацыю брыгад колгасьнікаў—гэтых асноўных зьвеньняў організацыі працы ў колгасах.

Організаваны тры палявыя брыгады па 10 чалавек кожная, 1 брыгада жывёлагадоўчая—18 ч., 1 брыгада будаўнічая—6 ч., 1 брыгада агародняя—13 ч.

Заключаны ўмовы па соцспаборніцтву паміж будаўнічай брыгадай і палявымі і жывёлагадоўчай. Палявыя брыгады заключылі соцспаборніцтва між сабой. 3-я палявая брыгада выклікала на спаборніцтва агародную, кузьня выклікала рамонтныя майстэрні (калёсную, шорную).

Палявыя брыгады абяцаюцца падняць ураджайнасьць збожжа, гародняя брыгада будзе дабівацца, каб 1 *га* караньплодаў даў 150 *ц*, капусты 150 *ц*, цыбулі 60 *ц*, памідораў 40 *ц*, буракоў і морквы на 60 *ц*.

Будаўнікі ўзялі абавязкі да 15-га кастрычніка 1932 г. закончыць пабудову аборы на 200 галоў рагатай жывёлы, закончыць пабудову жылога дому, закончыць пабудову пуні колгасу. Жывёлагадоўчая брыгада абяцае: экономна выкарыстоўваць кармовы фонд. Прымацаваць кароў да працуючых колгасьнікаў па догляду і па пасьбе жывёлы згодна норм выпрацоўкі і г. д.

Сярод колгасьнікаў ёсьць ударнікі, якія сапраўды па-ўдарнаму працуюць на колгасных палёх.

Колгас яшчэ ў веснавую пасяўную кампанію 1931 г. перайшоў выключна на зьдзельшчыну. Усе работы ў колгасе маюць нормы выпрацоўкі, згодна якім і вядзецца ўчот работы колгасьнікаў.

Канцылярыя, учот у „Чырвоным Кастрычніку“ пастаўлены добра. Т. Канапелька К. добрасумленна, як ударнік, добраякасна вядзе рахункаводзтва колгасу.

## 10. Культасьветная работа

Сярод колгасьнікаў ёсьць значная колькасьць няпісьменных і малапісьменных. На працягу восені 1931 г. да зімы 1931-32 гг. працаваў лікпункт, які наведвала 28 чалавек.

Працавалі: школа малапісьменных, якая ў сакавіку 1932 г. была пераорганізавана ў вячэрнюю, і школа колгасьнікаў. Мэтай гэтай школы зьяўляецца перадаць колгасьнікам агротэхнічныя веды.

Пры колгасе ёсьць школа колгаснае моладзі, дзе навучаецца 250 вучняў, дзяцей колгасьнікаў, аднаасобнікаў ня толькі з колгасу „Чырвоны Кастрычнік“ Хацюхоўскага с/савету, але з іншых сельсаветаў.

Між ШКМ і колгасам заключана ўмова па політэхнізацыі. Настаўнікі ШКМ вядуць культасьветную работу: організоўваюць спэктаклі, робяць даклады на тэмы бягучае політыкі, агрономіі, дапамагаюць колгасу выпускаць насьценгазэту „Чырвоны Кастрычнік“.

Пры колгасе організаваны ячэйкі—Асоавіяхім, Мопр, Бязбожнік, Чырвоны крыж.

Колгасьнікі выпісваюць значную колькасьць газэт і часопісаў.

З ліку колгасьнікаў выдзяляліся асобы для навучаньня на: трактарыстаў—1 ч., рахункаводы-жывёлаводы—2 ч., масларob—1 ч., рахункаводы—2 ч., пчалавод—1 ч., дашкольныя работніцы—2 ч.

Вясну, лета, восень працуюць дзіцячыя ясьлі, дзе выхоўваецца 40 дзяцей колгасьнікаў.

**В. Скардзіс, К. Кернажыцкі**

# Супроць буржуазнага „об'ектывізму" ў гісторыі Беларусі[1])

У часопісе „Известия Академии наук СССР" № 1 за 1932 год зьмешчаны артыкул К. А. Пушкарэвіча пад назвай „Преобразование духа народности" (эпизод из истории руссификции Белоруссии).

Артыкул напісаны на аснове архіўных матар'ялаў, частка якіх да гэтага часу яшчэ не апублікавана. Гэта складае пэўную заслугу аўтара. Гістарычны процэс Беларусі яшчэ вельмі слаба вывучаны, таму пуск у навуковы зварот сьвежых архіўных матар'ялаў зьяўляецца справаю вельмі патрэбнаю і актуальнаю. Аднак, апошняя акалічнасьць ні ў якім разе ня зьнімае адказнасьці з гісторыка за комэнтары і правільны марксысцка-ленінскі аналіз гістарычнага процэсу на падставе гэтых докумэнтаў. Вось гэтай-то адказнасьці т. Пушкарэвіч, відаць, не адчувае і не разумее.

Аўтар скарыстаў архіўны фонд так званага „Комитета по делам Западных губерний". Гэты фонд зьмяшчае вельмі каштоўныя матар'ялы, якія высьвятляюць сутнасьць і клясавыя карэньні нацыянальна-колёніяльнае політыкі царызму ў Беларусі, Літве і Украіне (правабярэжнай яе часткі). Але аўтар „паклапаціўся" прыпаднесьці гэтыя матар'ялы так, што пытаньне колёніяльнасьці фактычна змазана. Сама назва артыкулу, тая гістарычная тэрміналёгія, якую ўжывае аўтар, голы эмпірызм аналізу не мобілізуюць увагі чытача да проблемы колёніяльна-залежнага палажэньня памянёных краін у складзе б. імпэрыі. У артыкуле адсутнічае політычна партыйная завостранасьць гістарычнага аналізу, чаго безадкладна патрабуе марксысцка-ленінская навука. Аўтар ідзе па сьцежцы буржуазнага „об'ектывізму", апісвае факты як староньні наглядальнік. Больш таго, сваім „об'ектывізмам" аўтар скатваецца на позыцыю ўхілістаў у бок вялікадзяржаўнага шовінізму.

Многанацыянальная руская імпэрыя была „турмою народаў". Яна будавалася шляхам ваенна-фэўдальных захопаў і прыгнечаньня, шляхам драпежніцтва шматлікіх народаў, ужываючы мэтоды самай

[1]) З прычыны таго, што артыкул Пушкарэвіча напісаны на расійскай мове, цытаты падаем на гэтай-жа мове.

агіднай фэўдальна-прыгоньніцкай, а затым і капіталістычнай эксплёатацыі „інародцаў“. Расія мела свае колёніі і на Захадзе: Беларусь, Літва, Украіна. Аўтар, мабыць, з гэтым не згаджаецца. У прыватнасьці, пытаньне аб Беларусі, як аб колёніі, ім зьнімаецца. Нават і назва „колёнія“ ня ўжываецца. На працягу ўсяго артыкулу аўтар дзесяткі раз, дзе трэба і ня трэба, карыстаецца ўрадавай тэрміналёгіяй, разглядаючы Беларусь, Літву і правабережную Украіну як „губернии от Польши возвращенные“. Хаця гэты тэрмін ён і бярэ ў коскі, але не паказвае, як-жа ён асабіста адносіцца да гэтага тэрміну, і наогул да колёніяльнага палажэньня гэтых краін... І гэта робіцца невыпадкова. Аналіз разгорнутай політыкі русіфікатарства, якую царызм самым рашучым чынам праводзіў у адносінах да колёній і залежных краін, можна даць толькі на аснове клясавага аналізу ўсёй політыкі рускага абсолютызму. У аўтара гэтага якраз і няма. Ён констатуе факты, але не дае клясавага аналізу іх. Напрыклад, мэтаю заснаваньня Міколаем I сакрэтнага Заходняга камітэту аўтар лічыць „установление такого порядка, при котором стало-бы невозможным повторение событий 1830/31 г. г.“. У другім месцы гаворыцца: „Насаждение крупного русского землевладения должно было содействовать более тесному сближению края с Россией“. Ці такі выраз: „Не меньший интерес вызвали мероприятия русского правительства в отношении „губерний от Польши возвращенных“ в среде русского дворянства...“ Падобных цытат, характарызуючых „бесхребетность“ усяго артыкулу, можна прывесьці многа. Дзе-ж тут клясавыя мотывы ўрадавае політыкі, дзе сапраўдныя прычыны ваенна-фэўдальных захопаў народаў і тэрыторый, што дыктавала пануючай клясе правядзеньне адпаведнай політыкі? Гэта зусім не паказана. Політыку дыктуюць клясавыя адносіны. Расія канца XVIII і пачатку XIX ст. сваёй ваеннай політыкай (падзелы Польшчы, заваёва Каўказу і інш.) імкнулася разьвязаць ці аслабіць тыя напружаныя клясавыя супярэчнасьці, якія склаліся ў краіне. Яна імкнулася захапіць новыя рыначныя шляхі, рынкі, новыя тэрыторыі, павялічыць об'екты фэўдальна-прыгоньніцкае эксплёатацыі. Раздача зямель у Беларусі рускай прыдворнай арыстократыі і дваранству, інтарэсы якога выражала ўрадавая політыка, зьяўлялася сродкам ня „сближения края с Россией“ (гэта мова рускіх фэўдалаў), а сродкам стварэньня аплоту для ажыцьцяўленьня колёніяльнага драпежніцтва. У гэтым пытаньні патрэбна поўная яснасьць. Аўтар, хоча гэтага, ці ня хоча (бо выразна не вызначае свайго пункту погляду, хаваючыся за ўрадавай тэрміналёгіяй), схіляецца да таго, што політыку ўраду процістаўляе ці аддзяляе ад клясавых інтарэсаў дваранства і скатваецца, па сутнасьці, да буржуазнай тэорыі аб надклясавасьці рускага абсолютызму; гэтая-ж тэорыя і цяпер яшчэ займае не апошняе месца ў якасьці „навуковай аргумэнтацыі“ контррэволюцыйнага трацкізму ў барацьбе яго супроць ленінскае тэорыі аб рэволюцыі і ходзе гістарычнага працэсу ў б. Расіі.

Ігнараваньне клясавым аналізам гістарычных фактаў прыводзіць аўтара да таго, што ён разгорнутай русіфікатарскай політыцы царызму, які ставіў перад сабой задачу—замацаваць Бела-

русь, Літву і Украіну, як колёніі, дае лібэральную характарыстыку, як злучанасьці ўрадавых мерапрыемстваў па „преобразованию духа народности“. У выніку гэтага нацыянальна-колёніяльнае пытаньне зусім затушоўваецца.

Рускія фэўдалы і ўрад дасканала разумелі, што, маючы справу з Беларусьсю, Літвой і Украінай, яны маюць справу з гэтымі краінамі, як з захопленымі колёніямі. Уяўляць сабе справу інакш, гэта, па меншай меры, наіўна. Прысяжны ідэолёг русіфікатарства і ідэёвы натхніцель пазьнейшай чорнасоценна-паліцэйскай плыні на Беларусі,—так званых „заходня-русаў“, Мураўёў-вешацель яшчэ ў запісцы ў 1831 годзе (якая вядома і аўтару) прызнаваў, што беларускі край „после более пятидесятилетнего нахождения оного под правлением России еще отчасти *чужд оной*“ (падкрэсьлена намі). Аўтар-жа сьцьвярджае, што „Правительство смотрело на Белоруссию как на край исконно русский, лишь временно находившийся под властью Польши. Специфические особенности края не учитывались вовсе... Проводя в качестве языка государственного язык русский, правительство лишь имело ввиду борьбу с польским языком, считая, что общегосударственный язык русский является языком коренного населения края“. Гэтае палажэньне аўтара ў корані няверная. Рускае фэўдальнае дваранства і ўрад дасканала „ўлічвалі“ спэцыфічныя абставіны ў колёніях. Недарэмна, у мэтах цьвёрдага замацаваньня за імпэрыяй Беларусі, Літвы і Украіны, беларусы, літоўцы і ўкраінцы пазбаўляліся права называць сябе асобнымі народнасьцямі, не дарэмна праводзілася рашучая палітыка па русіфікацыі гэтых краін, рабілася стаўка на тое, каб выкарчаваць адсюль усё нярускае, неправаслаўнае. Афіцыяльная ўрадавая тэза аб Беларусі, як аб „исконно русском крае“ ёсьць толькі шыльда, якою царызм прыкрываў сваю захопніцкую палітыку, ёсьць толькі сродак для абману працоўных эксплёатуемых мас, ёсьць толькі ідэолёгічнае „абгрунтаваньне“ нацыянальнага і соцыяльнага прыгнечаньня. Аўтар недапушчальна заблытваецца ў дэмагогічнай чорнасоценнай фразэолёгіі гістарычных крыніц, ён аказаўся няздольным адрозьніць прычыны ўрадавай палітыкі ад формы і мэтадаў яе ажыцьцяўленьня.

Падаючы вытрымкі з розных докумэнтаў аб мерапрыемствах царызму ў Беларусі, аўтар ня імкнецца падкрэсьліць усёй той варожасьці, якою яны пранізены ў адносінах да прыгнечаных народаў, засяляўшых тэрыторыю Беларусі, не выпукляе *чорнасоценна-вялікадзяржаўнага* зьместу гэтых докумэнтаў, якія ня рэдка былі завуаляваны ідэяй „народалюбства“, дэмагогіяй і, нават, гульнёй у „мужыцкі монархізм“. Падобныя „лібэральныя“ адносіны аўтара да докумэнтаў проста дзіўныя.

Колёніяльнаму драпежніцтву, страшэннаму соцыяльнаму і нацыянальнаму ўціску, рэлігійным зьдзекам, якімі праваджалася разгорнутая русіфікатарская палітыка царызму ў Беласусі, Літве і Украіне, аўтар дае формулёўку „преобразования духа народности“; ён змазвае клясавыя карэньні гэтага пытаньня, ён фактычна трактуе данае пытаньне з позыцый вялікадзяраўнага шові-

нізму. Гэта ёсьць ні што іншае, як адрыганьне разьбітай „школы“ Карскага.

Рэзультатам немарксысцкае концэпцыі аўтара зьяўляецца таксама зьняцьце пытаньня аб нацыянальна-вызваленчым руху. У пачатку артыкулу ім прыводзіцца цытата з Энгельса, з якой аўтар чамусьці выкінуў некалькі слоў (менавіта „или политической революции“). Але невядома, з якой мэтай гэтая цытата прыводзіцца. Ці не хацелася аўтару характарызаваць польскае паўстаньне 1830-1831 гадоў як рэакцыйную справу? З контэксту артыкулу такая думка выцякае. Гэта поўнае скажэньне марксысцкай ацэнкі нацыянальна-вызваленчых рухаў. Энгельс, у прыводзімай аўтарам цытаце, ацэньваючы польскае паўстаньне 1830-31 гг. і параўноваючы яго з кракаўскім паўстаньнем 1846 году, дае ацэнку першаму ня з пункту погляду эўрапейскага яго значэньня, а толькі з пункту погляду суадносін клясавых сіл унутры самой Польшчы. З гэтага менавіта пункту погляду консэрватыўнсьць паўстаньня не падлягае ніякаму сумненьню, хаця і тут Энгельс падкрэсьлівае, што „в недрах этой консервативной революции, в самом национальном правительстве нашелся человек, который резко нападает на узость взглядов господствующего класса. Он предложил действительно революционные меры, смелость которых устрашила аристократов Сейма“. (Соч. т. V, стар. 265). Тут Энгельс мае на ўвазе дзейнасьць Лелевэля і яго групы. З пункту-ж погляду эўрапейскай дэмократыі паўстаньне 1830-31 гг., накіраванае супроць жандара Эўропы і натхніцеля рэакцыйнага „священного союза“—мікалаеўскай монархіі, мела, бязумоўна, прогрэсыўныя рысы. „Марксисты, — піша Ленін, — никогда не отрицали прогрессивности буржуазно-национальных освободительных движений против феодальных абсолютистских сил“. (Соч., том XVIII, изд. II, стар. 105).

У заключэньне трэба зусім адкрыта сказаць, што артыкул цалкам і поўнасьцю не марксысцкі. Пасьля вядомага ліста таварыша Сталіна ў часопіс „Пролетарская революция“ проста незразумела, якім чынам ён мог знайсьці сабе месца на старонках выданьня Акадэміі Навук СССР. Бясхрыбетнасьць, адсутнасьць аналізу і політычнай завостранасьці, баржуазны „об'ектывізм“ і голы эмпірызм—вось характарныя рысы мэтодолёгіі аўтара. Ленін рашуча падкрэсьліваў ня раз, што „Метод Маркса состоит прежде всего в том, чтобы учесть *об'ективное* содержание исторического процесса в данный конкретный момент, в данной конкретной обстановке, чтобы прежде всего понять движение *какого класса* является главной пружиной вазможного прогресса в этой конкретной обстановке“. (Соч., том XVIII, стар. 106).

Увесь зьмест артыкулу—яскравы прыклад таго, як ня трэба тлумачыць гістарычныя падзеі і факты.

# ОФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## За бальшавіцкую гісторыю грамадзянскай вайны

30 ліпеня 1931 г. ЦК УсеКП(б) ухваліў ініцыятыву М. Горкага і прыступіў да выданьня „Гісторыі грамадзянскай вайны".

Ажыцьцяўляючы пастанову ЦК Усе КП(б), 1 жніўня 1931 году ЦК КП(б)Б пастанавіў прыступіць да зьбіраньня матар'ялаў па гісторыі грамадзянскай вайны „з мэтай садзейнасьці і дапамогі па стварэньню агульнасаюзнай гісторыі грамадзянскай вайны, так і з мэтай асобнага выданьня „Гісторыі грамадзянскай вайны на Беларусі".

Пастановы ЦК Усе КП(б) і ЦК КП(б)Б маюць надзвычай важнае палітычнае значэньне. ГГВ пазнаёміць працоўных СССР і Беларусі з іх нядаўнім мінулым—з гісторыяй гераічнага змаганьня пролетарыяту і рэволюцыйнага сялянства супроць памешчыкаў і буржуазіі, за соцыялістычны лад. ГГВ перадасьць пакаленьням моладзі рэволюцыйныя бальшавіцкія традыцыі, дапаможа яшчэ большаму ўзбраеньню працоўных баявой энэргіяй на фронце соцыялістычнага будаўніцтва. Працоўныя капіталістычных краін з ГГВ будуць браць вопыт змаганьня за зьвяржэньне сваіх прыгнятальнікаў.

Выкананьне такіх важных пастаноў партыі на Беларусі праходзіць надзвычай кепска.

Выданьне „Гісторыі грамадзянскай вайны"—адна з нашых першачарговых палітычных задач. За яе трэба ўзяцца з усёй бальшавіцкай энэргіяй. Трэба зрабіць рашучы пералом ва ўсёй рабоце.

Стварэньне „Гісторыі грамадзянскай вайны" павінна быць справай усёй пролетарскай грамадзкасьці, справай усіх партыйных, комсамольскіх, профэсіянальных організацый, навукова-дасьледчых устаноў і г. д. Да складаньня ГГВ павінны быць прыцягнуты ўсе актыўныя ўдзельнікі грамадзянскай вайны (чырвонагвардзейцы, чырвонаармейцы, б. чырвоныя партызаны, чырвонафлётцы, падпольныя работнікі) і тыя, хто ня быў непасрэдна ўдзельнікам грамадзянскай вайны, але найбліжэйшым чынам наглядаў падзеі, знаходзячыся ў раёнах баявых дзеяньняў. Былыя ўдзельнікі „зялёнага руху" павінны таксама быць прыцягнуты да напісаньня ўспамінаў аб іх дзеяньнях у грамадзянскай вайне. „Апошнім трэба памятаць, што іх запрашаюць ня каяцца ў старых грахох, а толькі дапамагчы асьвятліць гістарычныя падзеі" (М. Горкі).

Збор матар'ялаў па ГГВ і прыцягненьне працоўных да яе складаньня зьяўляюцца асноўнымі задачамі камісіі садзейнасьці пры РК і ГК КП(б)Б.

Пры зборы матар'ялаў па ГГВ мясцовыя комісіі садзейнасьці павінны кіравацца плянам выданьня гісторыі грамадзянскай вайны галоўнай рэдакцыі і інструкцыяй па зьбіраньню і апрацоўцы матар'ялаў, апублікаваных у „Правде" і „Известиях".

Для стварэньня асобнай „Гісторыі грамадзянскай вайны на Беларусі" найбольш поўна павінны зьбірацца матар'ялы па пытаньням: Кастрычнік на Беларусі, нямецкая інтэрвэнцыя, пэрыод Літ.-Беларускай Савецкай рэспублікі, вайна з белапалякамі, палітычны бандытызм на Беларусі, КП(б)Б у гады грамадзянскай вайны, нацыянальная палітыка ў пэрыод грамадзянскай вайны, працоўныя Заходняй Беларусі, Польшчы і Літвы ў грамадзянскай вайне.

Плян выданьня „Гісторыі грамадзянскай вайны на Беларусі" дакладна вызначае кола пытаньняў, якія падлягаюць распрацоўцы па гісторыі грамадзянскай вайны на Беларусі.

Па зьместу матар'ялы павінны быць прысьвечаны наступным пытаньням: а) соцыяльна-эканомічныя ўмовы грамадзянскай вайны і асноўныя палітычныя падзеі пэрыоду; б) роля парторганізацый; в) дзеяньні Чырвонай арміі і б. чырвоных партызан; г) змаганьне з адмоўнымі бакамі ў жыцьці чырвонага тылу і фронту; д) контррэволюцыйныя змовы, паўстаньні ў тыле і на фронце; е) дзеяньні белых арміі, белых

Урадаў; ж) нацыяналістычная контррэвалюцыя.

Само сабою зразумела, што гэтымі момантамі не павінен абмяжоўвацца збор матар'ялаў па гісторыі грамадзянскай вайны. Матар'ял трэба зьбіраць як можна паўней па ўсіх пытаньнях грамадзянскай вайны, памятаючы, што „чым больш зьбярэцца матар'ялу, тым больш поўнай і праўдзівай будзе „Гісторыя", якую трэба ведаць усім працоўным" (М. Горкі).

Усе матар'ялы (дакумэнты, фотографіі плякаты, успаміны, стэнограмы, дзёньнікі і г. д.), сабраныя мясцовымі камісіямі садзейнасьці „Гісторыі" і аддзельнымі асобамі, павінны дастаўляцца рэдакцыі „Гісторыі грамадзянскай вайны на Беларусі" (адрас: Менск, вул. К. Маркса, д. № 14, Інстытут гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б, для рэдакцыі „Гісторыі грамадзянскай вайны").

Каштоўныя матар'ялы, якія выкарыстае рэдакцыя ГГВ, будуць аплачвацца. З лепшых успамінаў будуць складацца зборнікі і выходзіць у сьвет асобнымі выданьнямі.

Таварышы, якія працуюць над успамінамі, могуць у сакратарыяце рэдакцыі атрымаць дапамогу ў сваёй рабоце. Гэта дапамога можа выражацца ў папярэднім абмеркаваньні пляну ўспамінаў, рэкомэндацыі літаратуры па пытаньнях, якія закранаюцца ва ўспамінах, адшуканьні патрэбных аўтару архіўных дакумэнтаў, стэнографаваньні вусных успамінаў, консультацыі па асобных пытаньнях і г. д.

Успаміны будуць больш каштоўныя і праўдзівыя, калі яны прапрацоўваюцца і пішуцца колектыўна. Таму, аўтару ўспамінаў рэкомэндуецца абмяркоўваць свае работы сярод удзельнікаў і наглядальнікаў тых або іншых падзей, удзельнікаў грамадзянскай вайны, сярод рабочых і сялян, на сходах, гуртках і г. д.

Работа па стварэньню агульнасаюзнай „Гісторыі грамадзянскай вайны", і выданьню „Гісторыі грамадзянскай вайны на Беларусі" аграмадная.

Яна можа быць выканана пры ўмовах, калі кожны працоўны, кожны ўдзельнік грамадзянскай вайны прыме ў гэтай справе самы актыўны ўдзел. Трэба памятаць, што гісторыя грамадзянскай вайны патрэбна і для нас, будуючых бясклясавае соцыялістычнае грамадзтва, і для пролетарыяту капіталістычных краін, які ідзе да свайго Кастрычніка.

Дружна за работу, за стварэньне навуковай бальшавіцкай гісторыі грамадзянскай вайны!

Дырэктар Інстытуту гісторыі партыі і Кастрычніцкай рэволюцыі пры ЦК КП(б)Б *Саевіч.*

Сакратар рэдакцыі „Гісторыі грамадзянскай вайны на Беларусі" *Іваноў.*

## Дагавор на соцспаборніцтва паміж ЦБК БССР і ЦБК Грузіі

ЦБК БССР выклікала на соцспаборніцтва ЦБК РСФСР і ЦБК Грузіі. Абавязацельствы, прынятыя на сябе ЦБК БССР, зьмешчаны ў № 4 „Савецкай Краіны", ЦБК РСФСР прыслала паведамленьне, што ім дагавор прыняты, але сваіх абавязацельстваў па соцспаборніцтву пакуль што яшчэ ня прыслала. ЦБК пры НКА Грузіі выклік ЦБК БССР таксама прыняла і прыслала свае абавязацельствы, якія яно бярэ на сябэ для выкананьня ў 1932 г.

### Дагавор

па соцспаборніцтву паміж ЦБК пры НКА Грузіі і ЦБК пры Беларускай Акадэміі Навук на 1932 год.

Пастановы XVII конфэрэнцыі ЎсеКП(б) і XIV зьезду КП(б)Г абавязваюць краязнаўчыя організацыі прыняць актыўны ўдзел у складаньні пляну 2-ой пяцігодкі для пабудовы бясклясавага грамадзтва і ўсю сваю работу цалкам падпарадкаваць задачам соцыялістычнага будаўніцтва.

Для дасягненьня гэтых вялікіх мэтаў, Цэнтральнае бюро краязнаўства Грузіі становіцца на шлях соцспаборніцтва і ўдарніцтва і бярэ на сябе наступныя абавязацельствы:

1) Ня менш чым у 10 раёнах рэспублікі Грузіі організаваць раённыя бюро краязнаўства. У кожным раёне організаваць ня менш 7 краязнаўчых ячэек (на фабрыках і заводах, у колгасах, саўгасах, на трактарных станцыях). Уцягнуць у кожным раёне ў краязнаўчую работу ня менш 60 чал., з якіх 70 проц. павінна быць рабочых і колгасьнікаў.

2) Разгарнуць сетку краязнаўчых ячэек у вышэйшых навучальных установах, тэхнікумах, у школах колгаснай моладзі і масавых школах.

3) Павесьці рашучую барацьбу за партыйнасьць у краязнаўстве, за марксысцка-ленінскую мэтодолёгію, супроць праяў вялікадзяржаўнага шовінізму, як галоўнай небясьпекі, супроць мясцовага нацыяналізму, гнілога лібэралізму ды інш. Скласьці спэцыяльную брыгаду для праверкі выпушчанай за 1931 г. краязнаўчай продукцыі і разгарнуць ва ўсёй краязнаўчай рабоце шырокую крытыку і самакрытыку.

4) Разам з Наркамасьветы Грузіі перабудаваць усе раённыя музэі і падпарадкаваць іх работу непасрэдным задачам соцыялістычнага будаўніцтва.

Да канца году організаваць два краязнаўчыя музэі ў Тэлаве і Чыатурах.

У колгасах, саўгасах і на прадпрыемствах організаваць краязнаўчыя куткі.

5) Правесьці поўны ўлік работы па ўсёй краязнаўчай сетцы.

6) Сіламі ЦБК Грузіі і мясцовых краязнаўчых оргнізацый арганізаваць адну экспэдыцыю для вывучэньня колгасу, выходзячы з заданьняў навукова-дасьледчых і гаспадарчых устаноў, а таксама давесьці да раёну пляны ўсіх навукова-дасьледчых экспэдыцый, якія будуць праводзіцца ў Грузіі ў бягучым годзе.

7) Прыняць удзел у масава-дасьледчым паходзе для ашуканьня сыравіны для станкоў пяцігодкі, арганізаваным ТПТЭ разам з комсамолам.

8) Для павышэньня кваліфікацыі краязнаўчых кадраў камандыраваць у цэнтр Савецкага саюзу двух работнікаў для вывучэньня і асваеньня практыкі перадавых краязнаўчых органіаацый.

У часопісу Наркамасьветы „За комуністычнае выхаваньне“ выдзеліць спэцыяльны разьдзел для публікаваньня адпаведных артыкулаў і вядзеньня консультацыі для краязнаўчых арганізацый.

9) Распрацаваць тэмы-заданьні дасьледчай работы для раённых краязнаўчых арганізацый на аснове спэцыялізацыі раёнаў, адпаведна з мясцовымі ўмовамі і даць указаньні аб цесным контакце краязнаўчай работы з плянамі работ раённых арганізацый і ўстаноў.

10) Забясьпечыць програмна-мэтодычнае і арганізацыйнае кіраўніцтва монографічнага вывучэньня аднаго колгасу і аднаго саўгасу і прыняць удзел у вывучэньні гісторыі фабрык і заводаў.

11) Выдаць 5 програм-інструкцый і 2 популярныя брошуры па пытаньнях сутнасьці і задач краязнаўства.

12) Прыняць актыўны ўдзел ва ўсіх бягучых палітычных і гаспадарчых кампаніях (пасеўная, збор ураджаю, загатоўкі ды інш.).

13) Сіламі работнікаў Цэнтральнага бюро краязнаўства і інструктароў Наркамасьветы вывучыць работу краязнаўчых організцый 5 раёнаў і даць у іх рабоце арганізацыйна-мэтодычную дапамогу.

14) Скласьці бібліографічны даведнік краязнаўчай літаратуры Грузіі.

15) Увесьці мэтод колектыўнай работы ў дзейнасьць ЦБК і нізавых краязнаўчых арганізацый (брыгады) і разгарнуць у краязнаўчай рабоце соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

16) Правесьці пропаганду навукі і тэхнікі ў шырокіх масах працоўных шляхам спэцыяльных дакладаў, лекцый, радыё-перадачы і популярызацыі ў мясцовай і цэнтральнай прэсе.

17) Скласьці да 15 кастрычніка 5-цігадовы плян краязнаўства на асновах, якія будуць выпрацаваны ЦБК РСФСР.

18) Спаборнічаючыя раённыя бюро Грузіі раз у 3 месяцы рэгулярна інформуюць адно другое аб праробленай рабоце.

19) Супэрабітраж выкананьня гэтага дагавору абірае Т-ва краязнаўцаў-марксыстаў пры Ўсесаюзнай Комунісычнай Акадэміі.

20) Дагавор мае моц да 3 студзеня 1933 г.

*Цэнтральнае бюро краязнаўства пры Навуковым сэктары НКА Грузіі.*

## Рэзолюцыя па дакладу т. Пінкевіча „Задача краязнаўчых арганізацый у вывучэньні прыродных рэсурсаў СССР“

Вялізарныя задачы соцыялістычнага будаўніцтва на 2-ю пяцігодку, вызначаныя XVII парконфэрэнцыяй, могуць быць вырашаны толькі пры максымальным навуковым і гаспадарчым асваеньні выключных прыродных багацьцяў нашай краіны.

Роля масавых краязнаўчых арганізацый па асваеньню прыродных багацьцяў асабліва ўзрастае з пераходам гаспадарчага будаўніцтва на месцы ў раёны, з канечнай патрэбай паглыбленьня і пашырэньня ў другой пяцігодцы абласнога і краявога комплекснага плянаваньня.

У сувязі з гэтым Саўнаркомам РСФСР і Комакадэміяй і перад краязнаўчымі арганізацыямі была пастаўлена ў комплексе задач па вывучэньню прыроды, экономікі, гісторыі і культуры ўдарная задача сконцэнтраваньня ўвагі на вывучэньні прыродных багацьцяў СССР.

Аднак, ня гледзячы на ўдарнае значэньне адзначанай задачы, краязнаўчыя арганізацыі да гэтага часу вялі гэту работу бяссыстэмна, часамі акадэмічна, прычым работа гэта пераважна вызначалася індывідуальнымі густамі паасобных работнікаў і насіла за рэдкімі выключэньнямі аполітычны характар. Аполітычнасьць, акадэмізм, нэўтралізм у рабоце фактычна адбівалі клясава-варожыя нам устаноўкі старых кіруючых кадраў краязнаўства.

Трэба роўным чынам адзначыць, што гэтыя работы былі часамі прасякнуты чужымі мэтодолёгіі марксызму-ленінізму ўстаноўкамі, адбіваючы ідэалістычныя тэндэнцыі (у фэнолёгічных работах Сьвяцкага, Сьмірнова) ці матар'ялістычныя, мэханістычныя кірункі (дасьледваньні Ціміразеўскага інстытуту) кіруючых кадраў старога краязнаўства.

У мэтах пасьпяховага правядзеньня ў жыцьцё вызначаных задач па вывучэньню прыродных багацьцяў Саюзу — XI пленум ЦБК прапануе ЦБК, краявым, абласным і нацыянальным бюро правесьці ў жыцьцё наступныя мерапрыемствы:

Правесьці дакладны аналіз вышаўшай у апошнія часы краязнаўчай прыродна-гістарычнай літаратуры як дасьледчага, так і програмна-мэтодычнага характару. У выданьні новай краязнаўчай прыродна-гістарычнай літаратуры, а таксама і ў організацыі самых дасьледваньняў, у далейшым разгарнуць непрымірымую барацьбу за бальшавіцкую партыйнасьць на фронце краязнаўчага вывучэньня прыродных рэсурсаў краіны, супроць усякага роду скажэньняў у гэтай галіне.

У мэтах ажыцьцяўленьня вялізарных задач соцыялістычнага будаўніцтва патрэбна стварэньне адзінага пляну дасьледчых работ краязнаўчых організацый у маштабе РСФСР, з вызначэньнем кола проблем, якія стаяць перад кожнай організацыяй і з давядзеньнем гэтага пляну да ячэйкі, брыгады і члена краязнаўчай організацыі.

Вызначыць вядучыя раёны і асноўныя прыродныя рэсурсы, якія маюць быць вывучаны ў мэтах лепшага ажыцьцяўленьня асноўных гаспадарчых мерапрыемстваў, вызначаных другім пяцігадовым гаспадарчым плянам данага краю, раёну, вобласьці, рэспублікі.

Форсаваць пытаньне аб выданьні спэцыяльнага мэтодычнага часопісу і краязнаўчага падручніка, а таксама выпуску паасобных програм, інструкцый і популярнай літаратуры па вывучэньню прыродных багацьцяў.

Узмацніць падрыхтоўку кадраў краязнаўцаў у мэтах аўладаньня імі тэхнікай навукова-дасьледчай работы па вывучэньню прыродных багацьцяў шляхам організацыі спэцыяльных курсаў, гурткоў, скліканьня спэцыяльных конфэрэнцый паводле пэўнай програмы.

У мэтах забесьпячэньня работы масавых краязнаўчых організацый высокакваліфікаванымі кадрамі прыродазнаўцаў-краязнаўцаў забясьпечыць разгортваньне падрыхтоўкі іх у вышэйшых навучальных установах і навукова-дасьледчых інстытутах.

Неадкладна распачаць падрыхтоўку да конфэрэнцыі Дзяржпляну па разьмяшчэньню вытворчых сіл Саюзу і другіх конфэрэнцый пры Дзяржпляне па вывучэньню вытворчых сіл, а таксама і мясцовых.

Як мэтод работы, які можа ўцягнуць шырокія масы па дасьледваньню прыродных багацьцяў, практыкаваць масавыя дасьледчыя паходы, кампаніі па выяўленьню як асобных об'ектаў, так і асобных раёнаў.

Прыняць меры да масавых вырабаў інструмантаў і прылад, патрэбных для дасьледчых работ.

Практыкаваць правядзеньне краязнаўчых паходаў, штурмаў і кампаній па вывучэньню прыродных багацьцяў ударных раёнаў ці асобных карысных выкапняў або іншых прыродных рэсурсаў (паход за медзь, за торф, паход на Урал і г. д.).

Організаваць шырокі абмен практыкай і шырокую ўзаемную інформацыю краязнаўчых організацый аб іх дасягненьнях і няўдачах у галіне вывучэньня прыродных багацьцяў свайго раёну.

Організаваць шырокі паказ вынікаў і мэтодаў навуковага дасьледваньня прыродных багацьцяў у даным краі, вобласьці, рэспубліцы, раёне шляхам організацыі сталых і перасоўных выставак, а ў музэях спэцыяльных аддзелаў і мэтодычна-краязнаўчых габінэтаў.

Усю работу па вывучэньню прыродных багацьцяў як у цэнтры, так і на мясцох, праводзіць мэтодамі соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

Вывучэньне прыродных багацьцяў абавязкова ўвязваць з экономічнымі дасьледваньнямі, якія вызначаюць магчымасьць іх гаспадарчага асваеньня і іх гаспадарчае значэньне.

Патрэбна поўнае асьвятленьне ў друку вынікаў вывучэньняў прыродных багацьцяў.

## Рэзолюцыя па дакладу т. Тэтэра „Задачы краязнаўчых організацый у галіне ўзмацненьня абароназдольнасьці краіны"

Заслухаўшы даклад аб задачах краязнаўчых організацый у галіне ўзмацненьня абароназдольнасьці краіны і пераняісеньні краязнаўчай работы ў рады Чырвонай арміі, пленум констатуе:

1. Не зважаючы на тое, што за апошні час з боку ЦБК быў прыняты рад мерапрыемстваў па разгортваньню работы па ўцягненьню краязнаўчых організацый у справу ўзмацненьня абароназдольнасьці краіны і ўкараненьня організаванай краязнаўчай работы ў РККА, агульнае становішча на гэтым вучастку работы ўсёяшчэ застаецца як у цэнтры, так і на мясцох далёка нездавальняючым, што ў значнай ступені абумаўляецца:

а) адсутнасьцю выразнасьці ў вырашэньні організацыйных пытаньняў усёй сыстэмы пабудовы работы ў самым ЦБК;

б) невыстарчальным удзелам месц у рэалізацыі хаця-б той часткі заданьняў, якая своечасова была пастаўлена перад імі ЦБК;

в) невыстарчальнасьцю ўважлівасьці з боку ПУР'а РККА, а часамі нават ігнораваньнем ім пытаньняў, якія ставіліся перад ім ЦБК, зьвязаных з уцягненьнем чырвонармейскіх мас у краязнаўчы рух.

Гэта абумовіла і пасыўныя адносіны да краязнаўчай работы мясцовых органаў ваенведаў;

г) адначасова адсутнічала дзелавая сувязь і ўвязка ў рабоце краязнаўчых організацый АСО як у цэнтры, так і на мясцох.

2. XI пленум ЦБК, лічачы правільнымі агульную пастаноўку пытаньняў і ўстаноўкі дакладу, адначасова знаходзіць патрэбным у бліжэйшы пэрыод часу правесьці наступныя мерапрыемствы:

а) вырашыць пытаньне організацыйнага афармленьня работы па ўцягненьню чырвонаармейскай масы ў краязнаўчы рух;

б) удакладніць сыстэму работы краязнаўчых організацый па ўмацаваньню абараназдольнасьці краіны;

в) дабіцца наладжваньня поўнага контакту ў рабоце і ў практычнай сувязі з органамі ваенведу, організацыямі АСО і вайсковай сэкцыяй комсамолу і дабіцца сталага ўзаемнага прадстаўніцтва як у цэнтры, так і на мясцох;

г) вайсковай сэкцыі ЦБК тэрмінова прапрацаваць пытаньне аб уцягненьні ў краязнаўчую работу часьцей мясцовай абароны і органаў міліцыі, а таксама чырвонагвардзейцаў і чырвоных партызан.

3. Адначасова трэба дадаткова ўнесьці ў плян працы вайсковай сэкцыі ЦБК наступныя пытаньні:

а) распрацоўку інструкцыйных матар'ялаў аб формах і мэтодах краязнаўчай работы па ўмацаваньню абараназдольнасьці краіны і ўцягненьню чырвонаармейскай масы ў краязнаўчы рух;

б) прыняць усе меры да выданьня хаця-б мінімуму адпаведнай кіруючай літаратуры па даным пытаньні;

в) у мэтах ажыўленьня данай галіны краязнаўчай работы максымальна скарыстаць сыстэму жывога інструктажу месц ва ўсіх выпадках выездаў прадстаўнікоў ЦБК;

г) прапрацаваць пытаньне аб формах і мэтодах вывучэньня краязнаўчымі організацыямі мясцовых саматужных вытворчасьцяў пад пунктам выяўленьня ўсіх магчымасьцяў на гэтых вытворчасьцях для інтарэсаў умацаваньня абараназдольнасьці краіны;

д) паставіць перад ПУР'ам РККА пытаньне аб формах удзелу краязнаўчых організацый у лягерных зборах, манэўрах і чарговых прызывах у РКК;

е) дабіцца асьвятленьня пытаньняў краязнаўчай работы ў радох Чырвонай арміі ў пэрыодычным цэнтральным і мясцовым краязнаўчым і чырвонаармейскім друку;

ж) пленум лічыць абсолютна недапушчальным створанае становішча са зборам сродкаў на пабудову самалёту „Краевед“ і прапануе пад асабістую адказнасьць кіраўнікоў краязнаўчых організацый і членаў ЦБК, якія працуюць на мясцох, скончыць збор сродкаў згодна даным контрольным лічбам да 1 мая 1932 г.

## Задача краязнаўцаў у будаўніцтве другой мэталюргічнай базы СССР

*(Рэзолюцыя па дакладах тт. Клабуноўскага і Сьцяпанава)*

1. Тое выключнае значэньне, якое мае Урала-Кузьнецкі комбінат у справе плянавага соцыялістычнага будаўніцтва, прымусіла яшчэ X пленум ЦБК вынесьці пастанову аб тым, што проблема Урала-Кузьнецкага комбінату ставіць для сваёй распрацоўкі сур'ёзьнейшыя запатрабаваньні ня толькі да спэцыялістаў-тэхнікаў і экономістаў, але таксама і да шырокіх краязнаўчых колаў усёй паласы, якая знаходзіцца ў зоне дзейнасьці і ўплыву комбінату.

2. У сувязі з проблемай Урала-Кузьнецкага комбінату X пленум ЦБК вызначыў конкрэтныя задачы краязнаўчых організацый, якія заключаюцца ў пашырэньні сеткі краязнаўчых гурткоў у зоне будаўніцтва для правядзеньня дасьледваньняў, дапамагаючых будаўніцтву па лініі вывучэньня фізыка-географічнага асяродзішча, воднага рэжыму, адшуканьня новых выкапняў, вывучэньня мясцовага транспорту ў паасобных пунктах проектаванага новага будаўніцтва ды інш.

3. На працягу пэрыоду, які прайшоў з часу X пленуму, дзейнасьць краязнаўчых організацый па лініі Урала-Кузьнецкага комбінату як у цэнтры, так і на мясцох была далёка невыстрачальнай; разгортваньне краязнаўчай работы не адпавядала размаху і маштабу вялізарнага будаўніцтва Урала-Кузьнецкага комбінату.

Надаючы выключнае палітычнае і гаспадарчае значэньне справе будаўніцтва Урала-Кузьнецкага комбінату, пленум лічыць, што краязнаўчая работа на мясцох па лініі комбінату павінна быць усямерна ўзмоцнена ў кірунку, паказаным X пленумам ЦБК.

Пленум заклікае краязнаўчыя організацыі, якія працуюць на тэрыторыі Урала-Кузьнецкага комбінату, да ўсямернага ўзмацненьня гэтых работ як па лініі вывучэньня прыродна-вытворчых сіл тэрыто-

ры, якая ахоплена комбінатам, так і па лініі монографічнага апісаньня паасобных новабудоўляў.

4. Выходзячы з намечаных тэхніка-экономічных проектовак будаўніцтва комбінату і адносная вагі яго асобных індустрыяльных вузлоў, асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на організацыю краязнаўчых работ у наступных пунктах: Магнітагорск, Кузьнецк, Халілава (чорная мэталюргія), Пракоп'еўск, Мінусінск, Караганда (каменны вугаль), Балхаш, Рыддэр (каляровыя мэталы), Акцюбінск, Салікамск (хэмія). Гэтыя 10 пунктаў павінны быць прызнаны ўдарнымі па лініі краязнаўчай работы ў межах Урала-Кузьнецкага комбінату.

5. Даручыць прэзыдыуму ЦБК увайсьці з дакладам у сталае прадстаўніцтва Казакскай АССР пры ЎсеЦВК аб канечнай патрэбе разгортваньня краязнаўчай работы на новабудоўлях Казакстану.

Прапанаваць УралАБК і Заходня-Сібірскаму КБК на працягу дзьвёх дэкад скласьці конкрэтныя пляны работ па разгортваньню краязнаўства ў раёне Урала-Кузьнецкага комбінату і падаць на зацьверджаньне прэзыдыуму ЦБК.

6. Констатаваць, што работа уральскай брыгады ЦБК дала дадатныя вынікі як у сэнсе накапленьня практыкі па лініі мэтодыкі масавага краязнаўства, так і ў частцы організацыйна-мэтодычнай дапамогі месцам па разгортваньню краязнаўчага руху на Урале.

7. Дадатныя вынікі брыгады былі дасягнуты на аснове:

а) шырокай мобілізацыі грамадзкасьці, друку, навуковых, плянавых, гаспадарчых і савецкіх органаў навакол задач вывучэньня мясцовых вытворчых сіл;

б) мобілізацыі краязнаўчага актыву на жывой конкрэтнай рабоце;

в) прыцягненьня краязнаўчага актыву да пытаньняў краязнаўчага музэйнага будаўніцтва.

8. Асобна адзначыць організацыю геолёгічнага паходу на карысныя выкапні ў Алапаеўску і організацыю выстаўкі пускавога пэрыоду будаўніцтваў Магнітагорску.

9. Да недахватаў работы брыгады аднесьці: слабую ўвязку ў рабоце з комсамолам па Магнітагорску і з профсаюзамі па Алапеўску, а таксама невыстарчальны ўдзел брыгады ў замацаваньні актыву і ў організацыі нізавых ячэек.

10. Констатаваць на прыкладзе уральскай організацыі:

а) адсутнасьць органічнай сувязі краязнаўчых організацый з грамадзкімі організацыямі — профсаюзамі, ВОМБІТ, ВАРНІТСО, БРІЗ, бюро рацыяналізацыі, ТПТЭ, СВБ, што ствараe ізоляванае становішча краязнаўства і адрыў яго ад шырокіх мас;

б) у той-жа час вялікую патрэбу з боку гаспадарчых, плянуючых і грамадзкіх організацый у шырока організаванай краязнаўчай рабоце;

в) ініцыятыву мас у разгортваньні краязнаўчай работы і перарастаньне апошняй цераз галаву краязнаўчых організацый;

г) наяўнасьць жывога інтарэсу і водгуку з боку шырокіх слаёў рабочых пры ўвязцы краязнаўчай работы з вытворчасьцю, асабліва па лініі сустрэчнага пляну свайго прадпрыемства, вытворчых нарад і г. д.

д) няўменьне краязнаўчых організацый, працуючых у большасьці выпадкаў старымі мэтодамі, выкарыстаць масавыя колектыўныя мэтоды і формы дасьледчай работы, якая разгортваецца на прадпрыемствах, што абумовіла застываньне форм і мэтодаў краязнаўчай работы і адставаньне ад тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва;

е) невыстрачальнасьць і крайнюю патрэбу з боку ЦБК жывога конкрэтнага кіраўніцтва мясцовымі організацыямі;

ж) недаацэнку з боку абласных краязнаўчых організацый значэньня разгортваньня краязнаўчай сеткі і работы на новабудоўлях, а таксама невыстарчальную дапамогу ў гэтым кірунку з боку ЦБК;

з) адсутнасьць у большасьці выпадкаў дапамогі і кіраўніцтва з боку аддзелаў народнай асьветы ў краязнаўчай рабоце.

11. Аднэй з задач краязнаўчых ячэек на прадпрыемствах лічыць прасоўваньне накопленага і абагуленага матар'ялу ва ўсе грамадзкія організацыі фабрык і заводаў для выкарыстаньня яго ў якасьці навуковага абгрунтаваньня вытворчых пляпаў.

12. Улічваючы практыку выязной уральскай брыгады, пленум даручае прэзыдыуму ЦБК:

а) праверыць практыку брыгады па організацыйнай сувязі краязнаўчых ячэек з плянава-опэрацыйнымі групамі на прадпрыемствах, а таксама паставіць азначаны вопыт у саўгасах і колгасах. На аснове практыкі брыгады даць інструкцыйныя ўказаньні месцам аб разгортваньні масавай работы новымі мэтодамі;

б) шырока популярызаваць масава-геолёгічныя паходы, контактуючы іх з турыстычнымі організацыямі;

в) організаваць грамадзкі агляд краязнаўчых організацый, паставіўшы пад агонь самакрытыкі ўсю краязнаўчую работу ўцалку, асабліва з пункту погляду яе ідэолёгічнага зьместу;

г) правесьці рад мерапрыемстваў па сапраўднаму ўкараненьню соцыялістычных мэтодаў працы ў краязнаўчую работу;

д) кінуць на новабудоўлі максымум організацыйных і мэтодычных кадраў для організацыі там краязнаўчай работы;

е) скласьці на 1932 г. адпаведны плян выездаў, вызначыць новабудоўлі ды іншыя прадпрыемствы, куды павінны быць пасланы брыгады;

ж) у процівагу абсьледвальніцкім выездам, якія практыкаваліся раней ЦБК і АБК, увесьці ў практыку доўгачасныя брыгадныя інструкцыйныя выезды з конкрэтным наладжваньнем і паказам работы на месцы;

з) дапамагчы новаорганізаванаму райбюро ў Алапаеўску пасылкай інструктара-організатара і музэйнага работніка з асоб, скончыўшых краязнаўча-музэйныя аддзяленьні ІФІ;

і) абавязаць УралАБК наладзіць сыстэматычнае нагляданьне і ўсямерную дапамогу далейшаму разгортваньню работы ў Алапаеўску і Магнітагорску.

## Рэзолюцыя па дакладах т. Канчэева „Політычныя задачы бягучага моманту і краязнаўства“ і т. Пацёмкіна „Работа ЦБК за 1932 г. і пэрспэктывы разьвіцьця краязнаўчага руху“

### І. Соцыялістычнае будаўніцтва і становішча савецкага краязнаўства

1. Рабочая кляса, працоўнае сялянства і працоўная інтэлігенцыя нашай краіны пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі заканчваюць у бягучым годзе першы пяцігадовы плян вялікіх работ. Пераможнае будаўніцтва соцыялізму разгарнулася шырачэйшым фронтам на ўсіх вучастках гаспадаркі і культуры. Задачы тэхнічнай рэконструкцыі, вызваленьне СССР ад экономічнай залежнасьці ад краін капіталізму сталі ва ўвесь гіганцкі рост перад рабочымі і колгаснымі масамі Савецкага саюзу.

Ператварэньне СССР у краіну буйной соцыялістычнай індустрыі і самага буйнога ў сьвеце земляробства з перавагай соцыялістычных яго форм, заканчэньне ў асноўным колектывізацыі ў рашаючых зернавых раёнах, будаўніцтва савгасаў і машынізацыя сельскай гаспадаркі — вырашае самую важную задачу пролетарскай рэволюцыі.

2. Вялізарныя посьпехі будаўніцтва соцыялізму ў краіне дасягнуты намі на аснове няўхільнага правядзеньня генэральнай лініі партыі, на аснове няпрымірнай барацьбы на два фронты — з правым ухілам, як галоўнай небясьпекай дадзенага пэрыоду і з „лявацкімі“ загібамі, а таксама прымірэнцтвам да іх, на аснове барацьбы з клясавымі ворагамі і контррэволюцыйным троцкізмам.

3. Пастановы XVII партыйнай конфэрэнцыі аб пляне пабудовы соцыялізму ў СССР з новай сілай ставяць перад усімі працоўнымі задачу рашучай барацьбы за тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва і за няўхільнае правядзеньне лініі партыі. Яны патрабуюць ад рабочае клясы і працоўных сялян і працоўнай інтэлігенцыі клясавай пільнасьці і напружаньня сіл у барацьбе за другую соцыялістычную пяцігодку.

Канчатковая ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў у краіне і поўнае зьнішчэньне прычын, якія спараджаюць эксплёатацыю чалавека чалавекам, поўная тэхнічная рэконструкцыя прамысловасьці, сельскай гаспадаркі і транспорту,ператварэньне сельска-гаспадарчай працы ў адмену індустрыяльнай працы, пераадоленьне перажыткаў капіталізму ў экономіцы ў адзнаньні людзей, пабудова бяскласавага соцыялістычнага грамадзтва ў СССР — такі асноўны політычны сэнс пастаноў XVII конфэрэнцыі УсеКП(б) аб дырэктывах складаньня 2-й пяцігодкі.

4. Гэтыя політычныя ўстаноўкі XVII партконфэрэнцыі і посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва ў краіне дыктатуры пролетарыяту набываюць асаблівае і выключнае значэньне на фоне ўсеагульнага крызісу капіталізму. Перад тварам капіталізму, які разлагаецца, мацнее экономічная і культурная магутнасьць СССР.

У нябачных разьмерах разгортваецца будаўніцтва гігантаў соцыялістычнай індустрыі, СССР ператвараецца з краіны аграрна-індустрыяльнай у краіну індустрыяльна-аграрную. Творчы энтузіязм рабочае клясы і колгасьнікаў знаходзяць сабе шырачэйшы выхад у барацьбе за новыя соцыялістычныя формы працы, у барацьбе за аўладаньне тэхнікай і навукай; за шэсьць гістарычных умоў т. Сталіна.

5. Усе гэтыя політычныя прадпасылкі XI пленум ЦБК кладзе ў аснову ўсіх далейшых работ на фронце савецкага краязнаўства і барацьбу за бальшавіцкую партыйнасьць у краязнаўстве, абвяшчае найважнейшай і рашаючай умовай пасьпяховага ўцягненьня рабочых і колгасных мас у рэчышча краязнаўчага руху.

6. Об'ектыўныя ўмовы апошніх гадоў былі як нельга больш спрыяльнымі для разьвіцьця краязнаўчага руху. Пастанова СНК РСФСР, ліст культпропу ЦК

УсеКП(б), пастанова прэзыдыуму Камакадэміі, стварэньне таварыства краязнаўцаў-марксыстаў — з аднаго боку, рэканструкцыя народнае гаспадаркі на асновах раёнаваньня, задача асваеньня новых раёнаў, шырачайшае разьвіцьцё навукова-дасьледчых работ у краіне—з другога, давалі ўсе патрэбныя прадпасылкі для ўкараненьня савецкага краязнаўства ў самыя шырокія масы працоўных. Аднак, XI пленум, адзначаючы пэўныя зрухі ў разьвіцьці краязнаўства, з усёй рашучасьцю падкрэсьлівае нездавальняючае становішча гэтай справы. Масавага краязнаўчага руху ў краіне яшчэ няма і задачай усёй краязнаўчай сыстэмы на бліжэйшы пэрыод павінна стацца барацьба за стварэньне гэтага руху.

Невыстарчальная барацьба з правай практыкай у тэорыі краязнаўства, невыстарчальнае разьвіцьцё самакрытыкі, нявыразнасьць і ўнівэрсалізм прынцыповых установак у краязнаўстве, нязжытая яшчэ стаўка на самацёк, недапушчальная слабая перабудова ўсіх цэнтраў краязнаўчага руху ў кірунку вырашэньня актуальных задач соцыялістычнага будаўніцтва—абумовілі недапушчальна павольныя тэмпы ў рабоце і зьявіліся асноўнымі прычынамі таго, што краязнаўчы рух да гэтых часоў ня вышаў яшчэ шырокім фронтам на арэну барацьбы за соцыялізм і не ўцягнуў у свае рады ў належнай меры саміх будаўнікоў яго— рабочых і колгасьнікаў.

Пленум констатуе, што новыя соцыялістычныя мэтоды працы ў краязнаўстве (соцспаборніцтва, ударніцтва і інш.) атрымалі надзвычай слабае разьвіцьцё, што рэзка адбілася на тэмпах краязнаучага руху.

8. Пленум констатуе, што прызыдыум ЦБК, правёўшы належную барацьбу з „левымі" загібамі ў краязнаўстве (хаця і гэта барацьба не зрабілася здабыткам шырокай краязнаўчай пэрыфэрыі), не разгарнула належнай барацьбы з праваопортуністычнымі ўстаноўкамі, якія зьяўляюцца галоўнай небясьпекай і ў краязнаўчым руху.

Прарабіўшы вялікую работу па выкарчоўваньню карэньняў буржуазнага краязнаўства, ЦБК і краязнаўчыя організацыі на мясцох не правялі яшчэ сыстэматычнага выкрыцьця яго з пункту погляду марксызму-ленінізму на старонках друку.

9. Адной з праяў правага опортунізму ў краязнаўстве пленум лічыць стаўку на самацёк, на стыхійнасьць краязнаўчага руху, яго бясплянавасьць, недаацэнку проблем кадраў ва ўсім яе аб'ёме. Прымірэнчыя адносіны да эклектызму ў паасобных працах буржуазных краязнаўцаў па раду месц наглядаюцца і да сучаснага моманту.

Абавязваючы прэзыдыум ЦБК разгарнуць больш шырокую работу ва ўсіх гэтых кірунках, пленум у той-жа час прапануе змагацца далей з „лявацкімі" скажэньнямі на фронце краязнаўства.

Гэтыя скажэньні выявіліся перш за ўсё ў спробе падмяніць краязнаўчым плянаваньнем праз складаньне комплексных сустрэчных плянаў агульную сыстэму плянаваньня ў краіне. „Левыя" загібы па пытаньнях організацыйных праяўляюцца ў ідэі зьліцьця краязнаўчага руху з таварыствам пролетарскага турызму і экскурсій, чым праяўляецца яўна опортуністычнае недавер'е ў вялізныя потэнцыяльныя сілы краязнаўчага руху.

Барацьба з „левымі" загібамі ў краязнаўстве ёсьць таксама барацьба супроць беспрадметнага унівэрсалізму, які адлюстроўвае эклектычныя ўстаноўкі старога буржуазнага краязнаўства.

10. Падкрэсьліваючы канечную патрэбу вылучэньня задачы вывучэньня прыродна-вытворчых сіл краіны, як ударнай задачы краязнаўства на ўвесь бліжэйшы пэрыод, пленум разам з тым рашуча ганьбіць адмаўленьне работ краязнаўцаў, зьвязаных з вывучэньнем гісторыі грамадзтва (як гісторыі клясавай барацьбы), вывучэньнем форм клясавай барацьбы ў пэрыод разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва і асаблівасьцяў яе ў нацыянальных раёнах.

Папераджаючы прэзыдыум ЦБК ад забыцьця і неабходнасьці барацьбы з буржуазным краязнаўствам, да гэтага часу канчаткова яшчэ неліквідаваным, пленум зьвяртае асаблівую ўвагу прэзыдыуму на барацьбу з права-опортуністычнай практыкай і „лявацкімі" загібамі, якія на справе змыкаюцца з буржуазным мінулым буржуазнага руху. Няпрымірная барацьба з усялякімі ўхіламі ад генэральнай лініі партыі павінна зьявіцца першай і рашаючай умовай разьвіцьця краязнаўчага руху.

11. Пленум асабліва адзначае адсутнасьць сапраўднай сувязі краязнаўства з комсамолам, у прыватнасьці—з шырокім навукова-дасьледчым паходам комсамолу за вывучэньне прыродных багацьцяў краіны. Як вынік нявыстарчальнай работы ЦБК і мясцовых організацый па ўцягненьню комсамолу ў свае рады апошні ў краязнаўчых аб'яднаньнях мае нязначную адносную вагу, і задачай усёй краязнаўчай сыстэмы на бліжэйшы пэрыод павінна зьявіцца шырокае ўцягненьне комсамолу ва ўсе галіны краязнаўчага навуковага дасьледваньня.

12. Зусім невыстарчальна таксама сувязь савецкага краязнаўства з шырокімі профсаюзнымі масамі. Ня гледзячы на спэцыяльную пастанову ЎсеЦСПС, профсаюзы дагэтуль тварам да краязнаўства не павярнуліся, задачай кіруючых профсаюзных і краязнаўчых цэнтраў павінна зьявіцца супольная іх работа як па ўцягненьню профсаюзаў у краязнаўчы рух, так і па выкарыстаньню профсаюзнай сыстэмы для ўкараненьня краязнаўства ў шырокія масы працоўных.

13. Ня гледзячы на пастанову СНК РСФСР, пастанову X пленуму і супольны ліст ЦБК і ЦС ТПТЭ аб контактаваньні сваіх работ па лініі краязнаўства, да гэтага часу ня толькі няма супольнай дружнай работы гэтых організацый, але па раду месц наглядаецца поўны разрыў у іх узаемаадносінах.

Прызнаючы несваечасовым і няправільным плян зьліцьця ТПТЭ і краязнаўства, пленум разам з тым лічыць абавязкова патрэбным распрацоўку мерапрыемстваў, якія забесьпячаюць выкананьне дырэктывы СНК РСФСР і X пленуму і „сапраўднае“ спалучэньне турыстычнага руху з работай краязнаўчых організацый“ (з пастановы СНК РСФСР).

14. Прызнаючы зусім нездавальняючым становішча школьнага краязнаўства, пленум лічыць, што разьвіцьцё гэтай работы павінна пайсьці ў далейшым па лініі конкрэтнай програмна-мэтодычнай дапамогі ў школе ў строгай суадпаведнасьці з верасьнёўскай пастановай ЦК УсеКП(б) „Аб пачатковай і сярэдняй школе“ ў сэнсе падпарадкаваньня краязнаўчай работы ў школе непасрэдным задачам навучаньня і выхаваньня моладзі. Пленум даручае прэзыдыуму ЦБК у найкарацейшы тэрмін разам з Наркамасьветы правесьці патрэбныя мерапрыемствы па распрацоўцы ўсёй сумы пытаньняў школьнага краязнаўства, склікаць шырокую нараду настаўнікаў-краязнаўцаў і даць на месцы выразныя ўказаньні аб зьмесьце краязнаўчай работы ў школе.

15. Констатуючы, што краязнаўчымі організацыямі за апошні пэрыод пачаты работы па вывучэньню фабрык і заводаў, а таксама па гісторыі грамадзянскай вайны, пленум адзначае, аднак, адсутнасьць організацыйнай увязкі ў гэтых работах з мясцовымі камісіямі пры партыйных камітэтах, створанымі згодна з пастановай ЦК партыі, і прапануе ўсім краявым і абласным краязнаўчым цэнтрам наладзіць цесны дзелавы контакт з гэтымі камісіямі.

16. Пленум з усёй адказнасьцю констатуе, што, ня гледзячы на рад дырэктыўных указаньняў культпропу ЦК УсеКП(б), СНК РСФСР і Наркамасьветы ў рабоце мясцовых аддзелаў народнае асьветы, няма ніякага пералому ў бок разьвіцьця краязнаўчага руху як у сэнсе організацыйна-мэтодычнага кіраўніцтва, так і ў сэнсе матар'яльнай дапамогі мясцовым краязнаўчым організацыям. Пленум бачыць у такіх адносінах АНА да справы краязнаўства проста і яўна опортуністычную недааацэнку дырэктыў партыі і ўраду па гэтаму пытаньню і даводзіць аб гэтым да ведама Наркамасьветы.

## II. Чарговыя задачы савецкага краязнаўства

1. Пленум адзначае асабліва актуальнае значэньне для ўсяго краязнаўчага руху дакладу т. Куйбышава на XVII партконфэрэнцыі аб раённым пляне разьмяшчэньня прамысловасьці ў другой пяцігодцы і абавязвае ўсе краязнаўчыя організацыі пабудаваць свае работы на аснове гэтых матар'ялаў у сувязі з асваеньнем новых раёнаў. Пленум даручае прэзыдыуму ЦБК разам з Дзяржплянам і гаспадарчымі органамі распрацаваць асноўныя дырэктыўныя ўказаньні месцам аб парадку ўключэньня краязнаўчай сыстэмы ў выра-шэньне гэтых задач.

2. У мэтах найбольш цеснай увязкі ўсяго краязнаўчага руху з актуальнымі задачамі соцыялістычнага будаўніцтва, пленум даручае ЦБК распрацаваць патрэбныя мерапрыемствы па заключэньню генэральнага і лёкальнага дагавароў з гаспадарчымі органамі на выкарыстаньне краязнаўчай сыстэмы ў справе вывучэньня пасобных проблем гаспадаркі ў адпаведнасьці з пастановай СНК РСФСР па гэтаму пытаньню, пленум прызнае абавязкова патрэбным для ўсіх краязнаўчых організацый неадкладны пераход да гэтай сыстэмы работы і пабудову сваіх вытворчых плянаў у адпаведнасьці з задачамі мясцовага плянаваньня.

3. Лічачы асабліва нездавальняючым становішча работы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы кадраў, пленум ставіць у абавязак прэзыдыуму ўсебаковую распрацоўку гэтага пытаньня як па лініі выкарыстаньня лепшай часткі старых краязнаўцаў, так і па лініі новых кадраў з рабочых, колгасьнікаў, комсамолу, настаўніцтва, студэнцтва ды інш., шляхам разгортваньня курсавых мерапрыемстваў (з дыфэрэнцыяцыяй заняткаў прыстасоўна да падрыхтоўкі краязнаўцаў), шляхам разгортваньня завочнага навучаньня, пастаноўкі перад Наркамасьветы пытаньня аб пашырэньні сеткі краязнаўча-музэйных аддзяленьняў у вышэйшых навучальных установах, пашырэньня асьпірантуры і сапраўднага ўкараненьня асноў краязнаў-

ства ў курсы пэдагогічных ВНУ і пэдтэхнікумаў. Пленум прызнае асабліва важнай задачай распрацоўку конкрэтнага профілю краязнаўца ў процэсе падрыхтоўкі яго ў ВНУ і тэхнікумах.

4. Пленум прызнае зусім невыстарчальным разьвіцьцё і выкарыстоўваньне масавых форм работы ў краязнаўстве. Адсутнасьць масавых краязнаўчых сходаў, лекцый, дыспутаў, зьлётаў, спэцыяльных нарад па асобных тэмах краязнаўчага вывучэньня ў паасобных раёнах, слабае выкарыстоўваньне друку—былі да гэтага часу найважнейшым недахватам работы. Ужываньне гэтых форм сувязі з шырокімі масамі працоўных павінна легчы ў аснову далейшай работы ЦБК і месц у мэтах прыцягненьня зацікаўленасьці шырокіх колаў працоўных да пытаньняў краязнаўства.

5. Аднэй з рашаючых умоў разьвіцьця і ўмацаваньня нізавой краязнаўчай сеткі зьяўляецца конкрэтызацыя асноўных задач, якія стаяць перад краязнаўчым рухам, шляхам распрацоўкі мэтодычных докумэнтаў і праграм дасьледчых работ. Прызнаючы, што гэтым пытаньням аддавалася зусім мала ўвагі і ЦБК і месцамі, пленум даручае прэзыдыуму ў самыя кароткія тэрміны паставіць на належную вышыню распрацоўку гэтых пытаньняў з прыцягненьнем навуковых сіл Масквы і пэрыфэрыі.

6. Констатуючы, што да гэтага часу няма яшчэ выразных організацыйных форм сувязі і ўзаемнага выкарыстоўваньня сіл мясцовага музэю, краязнаўчае бюро ці ячэйкі краязнаўчага інстытуту, архіўнага бюро, пленум даручае прэзыдыуму ЦБК распрацаваць выразныя організацыйныя формы гэтых узаемаадносін.

7. Адзначаючы ўсё яшчэ невыстарчальнае разьвіцьцё работы па нацыянальнаму краязнаўству і па ўдзелу краязнаўства ў антырэлегійным руху краіны, пленум лічыць паарэбным усямерную актывізацыю гэтых работ.

8. Вітаючы стварэньне Цэнтральнага Інстытуту мэтодаў краязнаўчай работы, пленум даручае прэзыдыуму ЦБК наладзіць з ім дзелавы і цесны контакт з мэтай усямернай дапамогі ў яго рабоце і ўсебаковага выкарыстаньня інстытуту ў распрацоўцы пытаньняў мэтодыкі краязнаўчага досьледваньня. Пленум лічыць патрэбным наладжаньне такіх-жа організацыйных узаемаадносін мясцовых інстытутаў з абласнымі і краёвымі бюро краязнаўства.

9. Адзначаючы зусім невыстарчальную сувязь краязнаўчай сыстэмы з навукова-дасьледчымі інстытутамі і ўстановамі (як Гідрамэтэоролёгічным камітэт, ГГРК ды інш.), пленум даручае прэзыдыуму дабіцца максымальнага ажыцьцяўленьня гэтых адносін.

Пленум прызнае мэтазгодным уключэньне ў скад краязнаўчых організацый цэлых інстытутаў на правох юрыдычных асоб.

10. Лічачы аднэй з сур'ёзьнейшых прычын слабога разьвіцьця масавай дасьледчай краязнаўчай работы адсутнасьць на мясцох тэхнічнага абсталяваньня і інструмэнтарыя, пленум даручае прэзыдыуму ЦБК увайсьці з адпаведнымі прадстаўленьнямі у Наркамат лёгкай прамысловасьці аб канечнай патрэбе форсаванага вырабу інструмэнтарыю, а ў навукова-дасьледчыя інстытуты і ўстановы—аб распрацоўцы модэлі і тыпаў такога інструмэнтарыя.

11. Лічачы канечна патрэбным далейшае організацыйнае палепшаньне краязнаўчай работы як у цэнтры, так і на мясцох:

а) даручыць прэзыдыуму ЦБК прапрацаваць пытаньне організацыі оргсэктароў у сыстэме апаратаў ЦБК і АБК;

б) даручыць прэзыдыуму ЦБК і абласным бюро краязнаўства палепшыць улік краязнаўчых організацый ды іх работы;

в) даручыць прэзыдыуму ЦБК і абласным бюро краязнаўства організаваць камісіі праверкі выкананьня.

12. Прызнаючы цалкам насьпелай патрэбу пераходу ўсёй сыстэмы краязнаўства на рэйкі адзінага масавага таварыства і разглядаючы гэты пэраход як новы этап у разьвіцьці савецкага краязнаўства, пленум цалкам ухваляе пастанову прэзыдыуму ЦБК па гэтаму пытаньню і даручае да часу скліканьня V Усерасійскай краязнаўчай конфэрэнцыі ўсебакова распрацаваць організацыйныя формы гэтай перабудовы і прыцягнуць шырокую краязнаўчую пэрыфэрыю да абгаварэньня гэтых форм.

Пленум лічыць, што бягучы год—год заканчэньня першай социялістычнай пяцігодкі і падрыхтоўкі пляну пабудовы бясклясавага социялістычна грамадзтва—абавязвае ўсіх савецкіх краязнаўцаў да рашучай перабудовы форм і мэтодаў сваёй работы і падпарадкаваньня яе агульным задачам выкананьня пяцігадовага пляну на аснове пастаноў XVII партыйнай конфэрэнцыі.

## Пастанова прэзыдыуму Комакадэміі СССР па дакладу М. В. Крыленкі аб рабоце т-ва краязнаўцаў-марксыстаў (ТКРАМ) і становішчы на краязнаўчым фронце ад 3/III-1932 году.

1. У змаганьні за пабудову социялістычнага грамадзтва рабочая кляса і працоўныя масы СССР, пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, дабіліся выключных

посьпехаў. Гэтыя посьпехі суправаждаліся вялікім уздымам актыўнасьці і энтузіязму рабочых мас і колгаснага сялянства. Энтузіязм і вытворчая ініцыятыва працоўных выяўляліся ня толькі ў непасрэдным іх удзеле ў соцыялістычным будаўніцтве, але і ў павышэньні палітычнага ды культурнага ўзроўню рабочых, у змаганьні за аўладаньне ўсімі дасягненьнямі тэхнікі і навукі. Трэці рашаючы год пяцігодкі быў годам шырокага ўдзелу рабочых мас у навукова-тэхнічным руху краіны. Уцягненьне рабочых у літаратуру і навукова-тэхнічныя т-вы, мобілізацыя рабочай клясы вакол лёзунгу партыі аб аўладаньні тэхнікай, вылучэньне сотняў і тысяч рабочых на навукова-дасьледчыя работы яскрава характарызуе ў гэтых адносінах мінулыя годы першай пяцігодкі.

2. Пастановы XVII портконфэрэнцыі ЎсеКП(б) аб „дырэктывах да складаньня другога пяцігадовага пляну“—пляну пабудовы соцыялістычнага грамадзтва на базе поўнай тэхнічнай рэконструкцыі народнай гаспадаркі і ліквідацыі капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул—з новай сілай ставіць цэлы рад проблем соцыялістычнай будоўлі.

Рэзолюцыя партконфэрэнцыі зазначае на тое, што „вялікія прыродныя багацьці краіны, бальшавіцкія тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва, актыўнасьць шырокіх мас рабочых і колгасьнікаў і правільная лінія партыі поўнасьцю забесьпячаюць такое разгортваньне вытворчых сіл соцыялістычнай гаспадаркі ў другой пяцігодцы“, на падставе якога магчыма будзе дабіцца поўнага зьніштажэньня прычын, якія спараджаюць клясавую розьніцу і эксплёатацыю і „ператварэньне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва“.

Указаньні конфэрэнцыі на ролю ў гэтай справе работ па асваеньню прыродных багацьцяў краіны надаюць справе дасьледваньня і вывучэньня першараднае палітычнае значэньне. Мільёны саміх рабочых і колгаснікаў павінны быць уцягнуты ў гэту справу праз шырокую сетку навукова-грамадзкіх організацый. Вывучэньне нашай краіны павінна мець характар масавага руху саміх працоўных за асваеньне прыродных багацьцяў, за аўладаньне навукай і тэхнікай, за пастаноўку іх на службу соцыялістычнаму будаўніцтву, на справу пабудовы соцыялістычнага грамадзтва.

3. У сьвятле гэтых задач узрастае роля краязнаўчага руху, як адна з форм актыўнага ўдзелу мас у соцыялістычным будаўніцтве.

Савецкае краязнаўства за апошнія гады прарабіла значную работу па выкарчоўваньню карэньняў старога акадэмічнага буржуазнага краязнаўства. Уся сыстэма краязнаўчых організацый перабудоўваецца на справу непасрэднага абслугоўваньня патрэб соцыялістычнага будаўніцтва і ідзе па шляху замены асобных гурткоў таварыстваў масавым рухам рабочых, комсамольцаў, савецкіх, навуковых работнікаў, настаўніцтва, студэнтаў і інш.

4. Аднак, прэзыдыум Комакадэміі з усёй рашучасьцю падкрэсьлівае, што да сучаснага моманту, асабліва ў сьвятле пастаноў XVII партконфэрэнцыі, становішча на краязнаўчым фронце застаецца нездавальняючым. Ні таварыства краязнаўцаў-марксыстаў, ні ЦБК саюзных рэспублік не змаглі ўтрымаць сапраўды масавай шырокай організацыі, якая абапіралася-б на нізавыя ячэйкі пры прадпрыемствах і колгасах, не змаглі разгарнуць патрэбнай організацыйнай і пропагандысцкай работы за ўцягненьне рабочых і колгасных мас у краязнаўчы рух. Слабасьць краявых і абласных бюро, неакрэсьленасьць організацыйнага становішча раённых бюро краязнаўства, невыстарчальнае кіраўніцтва ўсёй гэтай справай з боку ЦБК і меўшыя месца пры гэтым асобныя палітычныя памылкі з боку кіраўнічых цэнтраў краязнаўства, няўменьне яшчэ працаваць па-новаму ў новай абстаноўцы—сталіся асноўнымі прычынамі таго, што краязнаўчы рух да гэтага часу організацыйна не аформлены і ў значнай ступені ідзе самацёкам. Масавы характар краязнаўчы рух набыў толькі ў навукова-дасьледчым паходзе, організаваным ТПТЭ, але і тут гэты рух не зьяўляўся ні асноўнай, ні ўдарнай работай.

Організацыйная слабасьць краязнаўчага руху прывяла да таго, што краязнаўчая работа, якая ў асобных мясцох праводзілася організавана, у лепшым выпадку была работай верхавіны мясцовай організацыі, па абслугоўваньню плянуючых і гаспадарчых органаў, і не ахапляла шырокіх мас працоўных.

ТКРАМ, ня гледзячы на простыя ўказаньні прэзыдыуму Комакадэміі ад 13-га красавіка 1931 году, таксама не змагло разгарнуць шырокай работы па ўтварэньню сваёй пэрыфэрыі і ня выканала свайго прызначэньня — быць кіраўнічым ідэолёгічным цэнтрам у краязнаўчым руху краіны.

Найвялікшай палітычнай памылкай з боку кіраўнічых цэнтраў краязнаўства, у прыватнасьці ЦБК РСФСР, зьявілася тое, што з іх боку ня толькі ня было разгорнута патрэбнае змаганьне з праваопортуністычнымі памылкамі і ўстаноўка-

мі ў краязнаўчым руху, якія зьяўляюцца галоўнай небясьпекай на даным этапе соцыялістычнага будаўніцтва, але гэтыя памылкі былі і ў органе ТКРАМ і ЦБК „Советское краеведение" і ў асобных друкаваных работах.

Невыстарчальнай аказалася работа ЦБК па практычнаму аналізу і публічнаму выкрыцьцю старой краязнаўчай літаратуры, у якой было многа ня толькі асобных політычных памылак, але былі і цэлыя сыстэмы антыленінскай, антымарксысцкай -мэтодолёгіі, у прыватнасьці ў этнографічных работах, у монографіях аб савецкай вёсцы, колгасах ды інш.

З другога боку, ТКРАМ, хаця і разгарнула належнае змаганьне (якое ўсё-ж не пайшло далей вузкага актыву) з „лявацкімі" памылкамі паасобных работнікаў ТКРАМ'у, у той-жа час таксама не зьвярнула патрэбнай увагі на змаганьне з права-опортуністычнымі ўстаноўкамі.

Прызнаючы правільнай і своечасовай пастаноўку „Праўдой" пытаньня аб нядобрастайнасьці на краязнаўчым фронце і аб змаганьні з правай небясьпекай, прэзыдыум адзначае, што адпаведнае работы вакол гэтых указаньняў і сыгналаў „Праўды" ня было праведзена ні прэзыдыумам ТКРАМ, ні кіраўнічымі цэнтрамі краязнаўства.

У самым прэзыдыуме ТКРАМ і ЦБК аж да апошняга часу ня было дагаворанасьці аб асноўных задачах краязнаўства, што адмоўна адбівалася на разьвіцьці масавага краязнаўчага руху.

Прэзыдыум Комакадэміі асабліва адзначае, што ні ТКРАМ, ні ЦБК РСФСР да гэтага часу не разгарнулі належнае работы вакол ліста т. Сталіна і не мобілізавалі краязнаўчай масы вакол задач змаганьня за бальшавіцкую партыйнасьць у краязнаўстве.

* * *

У мэтах правільнага накіраваньня далейшай краязнаўчай работы Прэзыдыум Комакадэміі зазначае, што асноўнай задачай краязнаўства ў змаганьні за генэральную лінію партыі на даным этапе зьяўляецца ўтварэньне масавых краязнаўчых аб'яднаньняў з рабочых і колгасьнікаў і накіраваньне ўсёй работы на справу соцыялістычнага будаўніцтва і клясавага змаганьня пролетарыяту.

Выкананьне гэтых задач краязнаўства павінна ісьці ў наступных кірунках:

1. Вывучэньне ў мэтах выкарыстоўваньня на службу соцыялістычнаму будаўніцтву прыродна-вытворчых сіл Савецкага саюзу, як першая і ўдарная задача, што выцякае з агульных задач краіны па асваеньню і выкарыстаньню вялікіх прыродных багацьцяў нашага Саюзу. Гэтая задача павінна быць асноўнай на бліжэйшы час для ўсіх краязнаўчых організацый.

2. Гэта не абазначае, аднак, накіраваньня работ краязнаўчых організацый выключна і толькі на вывучэньне прыродна-вытворчых сіл і прыродных багацьцяў.

У разьвіцьцё сваёй пастановы ад 13-га красавіка 1931 года Прэзыдыум Комакадэміі зазначае на няправільнасьць зьвязаньня задач савецкага краязнаўства толькі да вывучэньня прыродна-вытворчых сіл раёну. Кожны раён у яго цэлым павінен вывучацца ўсебакова з улікам усіх яго асаблівасьцяў у экономіцы, культуры, быце, гісторыі, нацыянальных адносінах. Вывучэньне форм клясавага змаганьня ўцалку і паасобку на ідэолёгічным фронце мае простае політычнае значэньне для соцыялістычнага будаўніцтва.

3. У той-жа час работа краязнаўчых організацый павінна быць цесна зьвязана з работай плянуючых органаў як шляхам правядзеньня масавых конфэрэнцый, дзе абагульняліся-б і сыстэматызаваліся-б вынікі краязнаўчай работы, уносіліся магчымыя корэктывы ў пляны і ініцыятыўна ставіліся асобныя пытаньні плянаваньня, так і шляхам простага практычнага ўдзелу краязнаўчых організацый у складаньні плянаў соцыялістычнае перабудовы краю, раёну, асобнага прадпрыемства.

4. Нарэшце, абавязковай задачай для масавых краязнаўчых організацый, як для грамадзкіх краязнаўчых організацый, Прэзыдыум Комакадэміі лічыць удзел іх у гаспадарча-політычных кампаніях на мясцох.

5. Уся гэта работа краязнаўчых аб'яднаньняў павінна праводзіцца на падставе змаганьня за прынцыповую выразнасьць асноўных установак краязнаўства, пад знакам змаганьня за бальшавіцкую партыйнасьць у краязнаўстве супроць правага і „левага" опортунізму і прымірэнцтва да іх, супроць гнілога лібэралізму на краязнаўчым фронце.

6. У сувязі з выпускам пад маркай Комакадэміі зборнікаў ТКРАМ, у якіх разьвіваліся няправільныя ўстаноўкі, прэзыдыум Комакадэміі лічыць патрэбным зазначыць на памылковасьць і „лявацкі" характар ідэі аб прызнаньні асноўнай ударнай задачай масавых краязнаўчых організацый *складаньне імі сустрэчных комплексных плянаў соцыялістычнае перабудовы раёну.* Прэзыдыум Комакадэміі падкрэслівае, што ўказаньні яго ў рэзолюцыі ад 13 красавіка 1931 году аб тым, што краязнаўцы павінны адыграць выключную ролю, як удзельнікі складаньня пляну соцыялістычнага будаўніцтва, ні ў якім разе ня могуць быць растлумачаны як непасрэднае складаньне гэтых комплексных плянаў краязнаўчымі

арганізацыямі. Удзел масавых краязнаўчых аб'яднаньняў у рабоце плянуючых органаў на даным этапе прэзыдыум вызначае ў формах, паказаных ў п. 3 гэтае пастановы.

7. Прэзыдыум Комакадэміі лічыць таксама няправільным такое азначэньне задач краязнаўства, якое сьцірае мяжу паміж краязнаўчай работай, як такой, і ўсякімі другімі формамі выяўленьня самадзейнасьці працоўных па аўладаньню тэхнікай сваёй справы. Краязнаўчая работа патрабуе сталае спэцыфічнасьці ў об'ектах і ў мэтодзе работы. Асноўнай задачай краязнаўства зьяўляецца вывучэньне прыродна-вытворчых сіл і прыродных багацьцяў нашага Саюзу, вывучэньне экономікі і ўсіх асаблівасьцяў раёну ў яго цэлым. Лічыць краязнаўчай работай вывучэньне рабочым свайго станка, колгасьнікам свайго колгасу, рамесьнікам свайго рамяства, без спэцыфічных асаблівасьцяў краязнаўчага дасьледваньня—значыць ліквідаваць краязнаўства, як спэцыяльную галіну дасьледчае справы, і як масавы грамадзкі рух.

8. Адзначаючы гэтыя памылкі і разглядаючы іх як „лявацкія“ загібы ў тэорыі краязнаўчае справы, Прэзыдыум Комакадэміі адначасова катэгорычна зазначае на політычную неадкладнасьць з боку краязнаўчых арганізацый раскрыць і да канца выкрыць правыя ўстаноўкі ў рабоце асобных краязнаўчых аб'яднаньняў, якія на практыцы праводзяць акадэмізм, ухіляюцца ад баявой ваяўнічай пастаноўкі цэлага раду політычных пытаньняў краязнаўства, ад баявога разгорнутага змаганьня супроць усіх элемэнтаў старога краязнаўства, якія імкнуцца працягнуць старыя прынцыпы ў краязнаўчай рабоце і старыя мэтоды дасьледваньня. Спробы ўвесьці краязнаўчы рух толькі ў бок археолёгіі, толькі этнографіі ды інш., спробы згладжваньня кутоў у політычных спорах і дыскусіях на фронце краязнаўства—павінны сустрэць рашучы адпор з боку краязнаўчых арганізацый ды іх кіраўнічых цэнтраў.

Павінна быць абвешчана бязьлітаснае змаганьне ня толькі старых краязнаўцаў з іх старымі спосабамі работы і мэтодамі дасьледваньня, але і прымірэнцкім адносінам да іх, як да фактычнага падтрыманьня гэтых элемэнтаў антысавецкага краязнаўства.

У якасьці бліжэйшых работ Т-ва краязнаўцаў-марксыстаў Прэзыдыум Комакадэміі лічыць: а) правядзеньне разгорнутага змаганьня з рэшткамі старога краязнаўства, выкрыцьцё паасобных памылак і антысавецкіх установак на краязнаўчым фронце, у прыватнасьці шырокую мобілізацыю краязнаўчых мас вакол ліста т. Сталіна, што павінна легчы ў аснову змаганьня ТКРАМ'у за бальшавіцкую партыйнасьць у краязнаўстве; б) выхаваньне марксысцка-ленінскіх кадраў у краязнаўстве і ідэолёгічнае кіраўніцтва марксысцкімі сіламі, якія працуюць над пытаньнямі краязнаўства ў розных грамадзкіх арганізацыях; в) конкрэтнае ўжываньне марксысцка-ленінскае мэтодолёгіі і мэтодыкі краязнаўчае работы ўцалку і паасобку, пры складаньні раённых плянаў пяцігодкі; г) шырокае разгортваньне на старонках друку бальшавіцкай крытыкі друкаваных работ у галіне краязнаўства і ўскрыцьцё антымарксысцкіх, антыленінскіх установак.

Прымаючы пад увагу, што пастанова прэзыдыуму ад 13-га красавіка 1932 году аб формах дапамогі і ўдзелу інстытутаў і т-ваў Комакадэміі ў рабоце краязнаўчых арганізацый ня выканана, Прэзыдыум Комакадэміі прапануе ўжыць усе захады да хутчэйшага правядзеньня ў жыцьцё яго ўказаньняў.

У сувязі з памылкамі ў зборніках ТКРАМ'у, прэзыдыум даручае ТКРАМ'у даць у бліжэйшым нумары часопісу „Советское краеведение“ ацэнку гэтых зборнікаў з пункту погляду паданых вышэй установак.

Прэзыдыум прызнае насваечасовай і па сутнасьці няправільнай ідэю арганізацыйнага зьліцьця краязнаўчых аб'яднаньняў з Т-вам пролетарскага турызму і экскурсій.

Прэзыдыум адзначае зусім бязудзельныя ў большасьці месц адносіны аддзелаў народнае асьветы да краязнаўчага руху і даручае Прэзыдыуму ТКРАМ'у ўвайсьці з адпаведнымі дакладамі ў НКА саюзных рэспублік з мэтай зьнішчэньня гэтае зьявы і наладжаньня выразнага опэрацыйнага кіраўніцтва краязнаўствам на мясцох.

## Рэзолюцыя XI пленуму ЦБК 25/28 сакавіка 1932 г. па дакладу тав. Сэгаля „Другая пяцігодка соцыялістычнага будаўніцтва і задачы краязнаўчых арганізацый“

Вялікія прыродныя багацьці нашай краіны, бальшавіцкія тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва, узрастаючая актыўнасьць шырокіх мас рабочых і колгасьнікаў і правільная лінія партыі поўнасьцю забясьпечваюць такое разгортваньне вытворчых сіл соцыялістычнай гаспадаркі, на падставе якога канчаткова будуць ліквідаваны капіталістычныя элемэнты ў СССР.... „Асноўнай політычнай задачай другой пяцігодкі зьяўляецца канчатковая ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў, клясаў наогул, поўнае зьнішчэньне прычын, якія параджаюць клясавую розьніцу і

ксплёатацыю, перамаганьне перажыткаў капіталізму ў экономіцы і сьвядомасьці людзей і ператварэньне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва". Такава асноўная і палітычная дырэктыва XVII партыйнай конфэрэнцыі, якая павінна легчы ў аснову ўсёй работы краязнаўчых організацый у другім пяцігодзьдзі.

Поўнае разгортваньне вытворчых сіл соцыялістычнай гаспадаркі ў другім пяцігодзьдзі, завяршэньне рэконструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі СССР патрабуюць шырокага разьвіцьця работ па вывучэньню вытворчых сіл і прыродных багацьцяў нашай краіны, выяўленьня дадатковых мясцовых рэсурсаў, якія могуць быць выкарыстаны ў інтарэсах соцыялістычнага будаўніцтва, а гэта зьяўляецца асноўнай задачай краязнаўчых організацый у адпаведнасьці з пастановай Саўнаркому РСФСР ад 30/III-31 г., а таксама Прэзыдыуму Таварыства краяведаў-марксыстаў і Прэзыдыуму Комакадэміі. Краязнаўчыя організацыі павінны весьці рашучую барацьбу супроць усякіх скажэньняў гэтай асноўнай задачы краязнаўства з боку асобных краязнаўцаў, якія маюць мэту перашкаджаць выкананьню краязнаўцамі пастаноў СНК і Комакадэміі: пропаганда унівэрсалізму ў краязнаўстве зьяўляецца спробай клясавага ворага адцягнуць краязнаўчыя організацыі ад актыўнага ўдзелу ў соцбудаўніцтве. На даным этапе краязнаўцы павінны зрабіць упор у сваёй працы на вывучэньне вытворчых сіл і прыродных рэсурсаў нашай краіны.

У сувязі з стварэньнем у другой пяцігодцы шэрагу новых індустрыяльных цэнтраў і шырокага размаху індустрыялізацыі ўсіх раёнаў СССР на базе электрыфікацыі і хэмізацыі прадстаіць вялікая работа па выяўленьню і дакладнаму вучоту вугальных і рудных залягаўняў, а таксама іншых карысных выкапняў, якія могуць служыць як матар'ял для будаўніцтва, таксама і сыравінай для шэрагу новых галін прамысловасьці. Такога роду вышукальныя работы ў такіх вялікіх маштабах сіламі адных навукова-дасьледчых устаноў (Акадэмія Навук, ГГРК і інш.) выканаць немагчыма; неабходна весьці гэтую работу разгорнутым фронтам шырокіх мас рабочых, колгасьнікаў, якія і павінны складаць асноўную масу членаў краязнаўчых організацый.

Важнейшым элемэнтам тэхнічнай рэконструкцыі народнае гаспадаркі зьяўляецца стварэньне энэргетычнай базы: краязнаўчыя організацыі павінны разьвіць работу па выяўленьню новых рэсурсаў воднай энэргіі, залежаў каменнага вугалю, месцараджэньняў нафты, мясцовых відаў апалу (торф, сланцы і інш.), пытаньне выкарыстаньня ветру і гэтым забясьпечыць выкананьне пастановы XVII партконфэрэнцыі аб вырабе электраэнэргіі ў 1937 г. ня менш 100 мільярдаў *квт*-гадзін, здабычы вугалю да 250 млн тон і павялічэньне здабычы нафты ў $2^1/_2$-3 разы.

Неабходным зьяўляецца ўдзел краязнаўцаў у вывучэньні мясцовых кустарных промыслаў з мэтаю шырокага разьвіцьця апошніх на мясцовай недыфіцытнай сыравіне.

Паказаныя задачы, пастаўленыя перад краязнаўчымі організацыямі на 2-е пяцігодзьдзе, ні ў якім выпадку не выключаюць неабходнасьці працягваньня і паглыбленьня работы, якая праводзіцца ў сучасны момант краязнаўчымі організацыямі па монографічнаму вывучэньню прадпрыемстваў, асабліва новастроек.

У галіне транспорту краязнаўчыя організацыі павінны ўзяць на сябе задачу дапамогі будаўніцтву ўсіх відаў мясцовага транспорту і ў першую чаргу ў выяўленьні будаўнічых дарожных матар'ялаў.

У галіне комунальнага будаўніцтва асноўныя ўстаноўкі краязнаўцаў павінны быць сконцэнтраваны ў першую чаргу на вывучэньні прыродных умоў будаўніцтва новых гарадоў, выяўленьне мясцовых будаўнічых матар'ялаў, крыніц вадазабесьпячэньня, а таксама вывучэньні экономічных і бытавых умоў як пры будаўніцтве новых, так і рэконструкцыі існуючых населеных пунктаў.

У галіне разьвіцьця сельскае гаспадаркі асаблівае значэньне набывае вывучэньне прыродных багацьцяў сельскае гаспадаркі (глеба, клімат і інш.); выяўленьне мінэральных угнаеньняў, мер барацьбы з засухай з мэтай падвышэньня ўраджайнасьці, а таксама дзікарастучых расьлін, якія могуць зьяўляцца новымі крыніцамі с/г сыравіны. Краязнаўцы павінны прыняць актыўны ўдзел у перабудове сельскае гаспадаркі на базе мэханізацыі, хэмізацыі і электрыфікацыі. З асобных галін сельскае гаспадаркі краязнаўцы павінны зьвярнуць увагу на проблему новых (асабліва тэхнічных) культур і проблему жывёлагадоўлі; краязнаўчыя організацыі павінны займацца вывучэньнем саўгаснага і колгаснага будаўніцтва, іх дасягненьняў і недахопаў, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў і форм організацыі працы (брыгадная сыстэма, зьдзельшчына і г. д.).

У галіне абмену і снабжэньня краязнаўцы могуць значна дапамагчы пля-

нуючым органам у выяўленьні мясцовых рэсурсаў, якія могуць быць выкарыстаны як для замежнага, так і для ўнутранага гандлю, а таксама і ўстанаўленьня і разьмяшчэньня пунктаў абмену.

У галіне культурнага будаўніцтва роля краязнаўчых арганізацый мае асабліва значэньне ў пытаньні ўтварэньня краязнаўчага падручніка і краявой кніжкі. Краязнаўчыя арганізацыі павінны вывучаць тыя зрухі і бытавыя зьмены, якія адбываюцца ў нацыянальных аўтономіях Саюзу, таксама рэшткі і карэньні рэлігійнасьці ў рабочых, сялян і нацыяналаў з мэтай разгортваньня рэлігійнай прапаганды.

Барацьба з рэшткамі клясава-варожай псыхолёгіі і буржуазнымі пережыткамі зьявіцца галоўнейшай задачай для другога пяцігадовага пляну. Вучот конкрэтных абставін, вучот процэсу ліквідацыі клясаў, процэсу перетварэньня колгасьніка і самога рабочага ў актыўнага і сьвядомага работніка бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва ня можа не зьявіцца прадметам нашага самага дасканалага вывучэньня і ўвагі (Куйбышаў). Гэта адна з важнейшых задач, якія стаяць перад краязнаўчымі арганізацыямі ў другой пяцігодцы. Іменна краязнаўчыя арганізацыі павінны ў сваёй рабоце ўлічваць процэс ліквідацыі клясаў, зьмены форм і мэтодаў клясавай барацьбы, процэс пераварэньня рабочага і колгасьніка ў сьвядомага будаўніка соцыялізму і тым самым садзейнічаць канчатковай ліквідацыі капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул, а таксама буржуазных пережыткаў у экономіцы і сьвядомасьці людзей.

Разьвязваючы ўсе гэтыя задачы, краязнаўчыя арганізацыі павінны ўзяць на сябе комплекснае вывучэньне свайго раёну як аднаго цэлага з выяўленьнем яго асаблівасьцяў. Пры гэтым краязнаўчыя арганізацыі павінны весьці вывучэньне раёну, концэнтруючы сваю ўвагу каля вядучай галіны яго гаспадаркі і садзейнічаючы разгортваньню апошняга на падставе вучоту комплексу прыродных, гаспадарчых і культурных зьяў, палажыўшы ў аснову сваёй работы вывучэньне прыродна-вытворчых сіл.

Пры правядзеньні ўсёй гэтай работы неабходна прыняць актыўны ўдзел у рабоце плянавых органаў па складаньню пяцігадовых плянаў, выкарыстоўваючы для гэтага вынікі сваіх досьледаў і выконваючы асобыя заданьні плянавых органаў. Аднак, не абмяжоўваючыся выкананьнем пэўнага заказу, краязнаўчыя арганізацыі павінны ўзяць на сябе ініцыятыву высоўваньня сустрэчных прапаноў і проектаў, якія павінны прадстаўляцца на разгляд плянавых органаў.

Краязнаўчая работа ёсьць адзін з відаў масавай навукова-дасьледчай работы, краязнаўчыя арганізацыі павінны максымальна ўзмацніць падрыхтоўку новых краязнаўчых кадраў і павялічыць рабочы і колгасны склад сваіх арганізацый, для чаго краязнаўчыя арганізацыі павінны перабудавацца па-новаму і зьмяніць мэтоды сваей работы; масавы ўдзел рабочых і колгасьнікаў у навукова-дасьледчай і краязнаўчай рабоце будзе садзейнічаць згладжваньню супроцьлежнасьці паміж фізычнай і разумовай працай, канчатковая ліквідацыя якой будзе магчыма толькі ў бясклясавым соцыялістычным грамадзтве.

Плянуючы сваю работу, краязнаўчыя арганізацыі павінны перш за ўсё мець конкрэтныя ўстаноўкі ў адносінах пэрспэктывы разьвіцьця краязнаўства на пэрыод 1933-1937 гг. Контрольныя лічбы, зацьверджаныя X пленумам ЦБК на першую пяцігодку, павінны быць ажыцьцёўлены ва што-б та ні стала ў 1932 г. і зьявіцца выходнымі данымі для пабудовы другой пяцігодкі, для чаго краязнаўчыя арганізацыі павінны разьвіць ударныя тэмпы мэтодаў работы на аснове соцспаборніцтва.

XI пленум ЦБК ўстанаўлівае наступныя контрольныя лічбы росту членаў краязнаўчых арганізацый у другой пяцігодцы, улічваючы рост культурнага ўзроўню іх, барацьбу за аўладаньне навукай і тэхнікай: краязнаўчыя арганізацыі павінны ахапіць к канцу другой пяцігодкі ня менш 1 мільёну краязнаўцаў па ўсяму Саюзу, ня лічачы членаў школьных арганізацый.

# ХРОНІКА

## Работа Масавага сэктару БАН за студзень—чэрвень 1932 г.

Масавы сэктар зьяўляецца яшчэ зусім маладой установай у складзе Беларускай Акадэміі Навук. Ён быў утвораны толькі ў канцы мінулага году. Задача Масавага сэктару зьяўляецца пропаганда сярод шырокіх мас працоўных, рабочых і колгасьнікаў навукі і тэхнікі шляхам організацыі дакладаў, лекцый, навукова-популярных выданьняў і г. д., уцягненьне шырокіх працоўных мас у навукова-дасьледчую работу і вывучэньне вялізарнейшае практыкі ў розных галінах соцыялістычнага будаўніцтва ў мэтах абмену гэтаю практыкаю і наладжаньня цеснай сувязі і ўвязкі з навукова-дасьледчымі і гаспадарчымі ўстановамі і організацыямі ў справе разгортваньня навукова-тэхнічнае пропаганды.

У мэтах наладжваньня цеснай сувязі паміж БАН і рабочымі і колгаснымі масамі, організацыі работы на прадпрыемствах, савгасах, МТС, колгасах і пастаноўкі тэхнічнае пропаганды Масавым сэктарам пры ўдзеле Сэкцыі навуковых працаўнікоў пры БАН організавана 6 брыгад у складзе 42 працаўнікоў, якія (брыгады) прымацаваны да буйнейшых заводаў г. Менску (Бальшавік, імя Варашылава, „Полымя рэволюцыі", Эльвод і дрэваапрацоўчы завод імя Молатава) для сталай і сыстэматычнай работы на гэтых прадпрыемствах. Для рабочых на прадпрыемствах Менску, Віцебску, Магілеву, Гомлю за 1932 г. прачытана ўсяго 116 навукова-популярных дакладаў. Найбольш значная работа праведзена брыгадай Фізыка-тэхнічнага інстытуту на заводзе „Полымя рэволюцыі" ў галіне тэхпропаганды: брыгада кіруе работай тэхнічных гурткоў і організавала рад дакладаў і лекцый. Найгорш працавалі брыгады, прымацаваныя да дрэваапрацоўчага заводу імя Молатава і Эльводу. Асноўным недахопам брыгад зьяўляецца тое, што яны не маглі выявіць рабочы актыў і ўцягнуць яго ў масавую навукова-дасьледчую работу. Гэта задача ў далейшым павінна быць аднэй з асноўных у рабоце брыгад навуковых працаўнікоў на фабрыках і заводах. Апрача прымацаваньня брыгад навуковых працаўнікоў да фабрык і заводаў г. Менску згодна пляну Масавага сэктару вылучана 80 чал. навуковых працаўнікоў (акадэмікаў, профэсароў, вучоных спэцыялістаў) і Прэзыдыумам БАН прымацавана да раёнаў (19 чал.), савгасаў (16 чал.), колгасаў (28 чал.), МТС (4 чал.), фабрык і заводаў (13 чал.). Асноўнай задачай усіх прымацаваных да раёну навуковых працаўнікоў зьяўляецца ўстанаўленьне цеснае сувязі паміж БАН і рабочымі і колгаснымі масамі, пропаганда навукі і тэхнікі, вывучэньне розных галін соцыялістычнага будаўніцтва ў адпаведных раёнах, колгасах і совгасах і ўцягненьне рабочых і колгасьнікаў у масавую навукова-дасьледчую работу па вывучэньню свайго раёну, савгасу, МТС, колгасу і аказаньне на месцы мэтодычнае дапамогі ў справе організацыі і пастаноўкі масавай дасьледчай работы. Аднак, работа гэта яшчэ належным чынам не разгорнута і толькі распачынаецца.

Масавы сэктар прымаў актыўны ўдзел ва ўсіх важнейшых гаспадарча-палітычных кампаніях, зьездах, конфэрэнцыях і г. д. Масавым сэктарам была організавана спэцыяльная нарада па ўдзелу інстытутаў БАН у пасеўнай кампаніі, да якой была выдана спэцыяльная літаратура: 8 брошур, тры артыкулы ў часопісах „Савецкая Краіна" і „Шляхі колектывізацыі", 2 лекцыі перадаваны па радыё, была організавана выстаўка сельска-гаспадарчае літаратуры і інш. Горш абстаіць справа з падрыхтоўкай да ўборачнай кампаніі: інстытуты тут яшчэ ня вызначылі конкрэтнага свайго ўдзелу ў гэтай адказьнейшай кампаніі (за выключэньнем інстытутаў савецкага будаўніцтва і права і літаратуры і мастацтва). Значная работа праведзена Масавым сэктарам па організацыі дэкаднікаў Беларускай Акадэміі Навук у Віцебску, Гомелі і Койданаве, якія зьяўляюцца аднэй з соцыялістычных форм цеснай сувязі Акадэміі Навук з шырачайшымі рабочымі, партыйнымі і колгась-

ніцкімі масамі. На дакладах за час дэкадніку ў Віцебску, напрыклад, прысутнічала каля 4.000 чал. Такая-ж прыблізна колькасьць была на дакладах у Гомелі і Койданаве. Апрача таго, у часе дэкадніку рад дакладаў быў прачытаны непасрэдна на фабрыках, заводах, у вышэйшых навучальных установах і для начскладу Чырвонай арміі.

Масавы сэктар прыняў самы актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзеньні Ўсебеларускага зьезду па навукова-дасьледчай рабоце ў другой пяцігодцы, які быў скліканы БАН і Дзяржплянам БССР. Масавым сэктарам была надрукавана для ўдзельнікаў зьезду пастанова СНК БССР і ЦК КП(б)Б пра асноўныя ўстаноўкі для складаньня пляну другой пяцігодкі і разьвіцьця народнае гаспадаркі і культуры БССР (300 экз.). Навуковыя працаўнікі сэктару прымалі ўдзел у зьезьдзе, у сэкцыі па масавай дасьледчай рабоце ў другой пяцігодцы. Апрача таго работнікі Масавага сэктару прымалі ўдзел у музэйнай нарадзе пры НКА і ў працах Агро-і зоотэхнічнага зьезду НКЗ, у Ўсебеларускім зьезьдзе вынаходцаў і інш. Масавым сэктарам БАН было організавана выданьне раду масавых популярных брошур (сумесна з інстытутамі БАН):

1. С. Баркоўскі—„Першае мая на Беларусі".

2. Дарожкін — „Хваробы садова-гародных культур і спосабы змаганьня з імі".

3. М. Ганчарык — „За культуру соі ў БССР".

4. Міхневіч — „Лес і ўраджай".

5. Н. Фішар — „Організацыя працы ў колгасах БССР".

6. С. Булыга — „Вапняковыя пароды БССР".

7. Пастанова СНК БССР і ЦК КП(б)Б пра асноўныя ўстаноўкі для складаньня другога пяцігадовага пляну разьвіцьця народнае гаспадаркі і культуры БССР.

8. Сяргеева — „Шкоднікі сельска-гаспадарчай жывёлы і барацьба з імі". Усяго надрукавана 73½ аркушы, што складае 97 проц. пляну за справаздачны пэрыод.

Здана і друкуюцца тры брошуры. Організавана перадача па радыё 8 лекцый і дакладаў. Недахопам у рабоце Масавага сэктару зьяўляецца недахоп працаўнікоў і недастатковая плянавасьць у рабоце і яшчэ недастатковы паварот інстытутаў БАН да масава-навуковай работы. Перад Масавым сэктарам стаіць задача ў бліжэйшы час дабіцца больш шырокага разгортваньня масавай работы інстытутаў, брыгад, усіх навуковых працаўнікоў, далейшае разгортваньне масавай тэхнічнай пропаганды і ўцягненьне рабочых і колгасьнікаў у масава-дасьледчую работу і пашырэньне выданьняў масавай літаратуры.

*П. С.*

## Работа ЦБК за студзень—чэрвень месяцы 1932 г.

У аснову работы ЦБК у 1932 г. былі пакладзены пастановы XVII конфэрэнцыі ЎсеКП(б) і XIV зьезду КП(б)Б, шэсьць умоў т. Сталіна і яго ліст у рэдакцыю часопісу „Пролетарская рэволюцыя" і непасрэдныя дырэктывы партыі і ўраду па разгортваньню краязнаўчага руху. Пастанова СНК БССР ад 1 чэрвеня г/г дала вельмі яскравыя і катэгорычныя ўказаньні аб зьмесьце і формах разгортваньня краязнаўчага руху.

Аднэй з найважнейшых задач у справе разгортваньня краязнаўчага руху зьяўляецца задача пашырэньня і ўзмацненьня краязнаўчае сеткі. К пачатку 1932 г. у БССР краязнаўчыя організацыі існавалі ў 25 раёнах, а на 1/VII г/г краязнаўчыя ячэйкі і раённыя бюро краязнаўства існуюць у 33 раёнах (з 75 раёнаў), у якіх маецца 108 краязнаўчых ячэек. Аднак, дакладнага падліку ўсіх краязнаўчых організацый ЦБК яшчэ ня мае: адсутнічае сталы ўчот соцыяльнага, партыйнага і нацыянальнага складу краязнаўчых організацый, учот праведзенай работы і г. д. Спробы ЦБК і Дзяржпляну БССР правесьці ўчот краязнаўчай сеткі ў гэтым годзе належных вынікаў не далі, большасьць організацый патрэбных даных ня прыслалі. Організацыя ўчоту краязнаўчай работы застаецца аднэй з важнейшых задач у рабоце ЦБК і ўсіх раённых бюро краязнаўства.

У справе разгортваньня і афармленьня краязнаўчай сеткі пэўнае значэньне адыграла і павінна адыграць выданьне распрацаваных ЦБК і зацьверджаных Прэзыдыумам Беларускай Акадэміі Навук палажэньняў аб раённым бюро краязнаўства і краязнаўчай ячэйцы, якія (палажэньні) ўнесьлі пэўную выразнасьць у работу краязнаўчых організацый. Выключна вялікае значэньне ў разгортваньні краязнаўчага руху мае пастанова СНК БССР ад 1/VI г/г за № 304 пра мерапрыемствы для разгортваньня краязнаўчага руху, у якой вызначаны кірунак, задача, організацыйная структура і адказнасьць як цэнтральных, так і раённых устаноў і організацый за належнае разгортваньне краязнаўчага руху. НКА БССР, культсэктарам ЦСПСБ і сэктарам навукі і культуры Дзяржпляну БССР па сваёй лініі даны адпаведныя загады і ўказаньні аб раз-

гортваньні краязнаўчага руху ў навучальных і навукова-дасьледчых установах, музэях, аб актыўным удзеле і дапамозе краязнаўчым організацыям з боку профэсіянальных організацый і г. д.

Трэба, аднак, адзначыць, што ў некаторых раёнах, ня гледзячы на катэгорычныя прапановы НКА, пастанову СНК БССР, ні РВК, ні РАНА нічога не зрабілі для організацыі краязнаўчае работы ў раёнах (Барысаўскі, Бабруйскі, Крупскі, Талачынскі, Гомельскі, Горацкі раёны і інш.), ня гледзячы на ўсе спрыяючыя ўмовы і магчымасьці шырока разгарнуць краязнаўчую работу.

У мэтах дапамогі новым і слабым краязнаўчым організяцыям і па запатрабаваньню раённых організацый працаўнікі ЦБК выяжджалі ў 12 раёнаў (Рагачэўскі, Веткаўскі, Мсьціслаўскі, Слуцкі, Заслаўскі і інш.) для організацыйнай і мэтодычнай дапамогі новаорганізаваным РБК. Трэба адзначыць як пэўнае дасягненьне, што ў гэтым годзе большасьць раённых бюро краязнаўства перайшлі да плянавай работы, аднак, належнага бальшавіцкага змаганьня за выкананьне гэтых плянаў мы яшчэ ня маем, пляны РБК выконваюцца слаба.

ЦБК наладжана пэўная сувязь з большасьцю інстытутаў БАН, Дзяржплянам, Белгеаразьведкай, НКА (сэктар навукі), Колгасцэнтрам, Беларускім саветам, Культсэктарам ЦСПСБ і інш. Аднак, сувязь гэта не зьяўляецца дастатковай і сталай: няма ўзаемнага прадстаўніцтва, сыстэматычных вытворчых нарад і г. д. Сувязь ЦБК з цэнтральнымі ўстановамі і організацыямі ў далейшым павінна быць пашырана і ўзмоцнена. У самой структуры ЦБК трэба абавязкова наладзіць сэкцыйную работу, што забясьпечыць і больш цесную сувязь ЦБК з гаспадарчымі, плянуючымі, навукова-дасьледчымі ўстановамі і організацыямі.

З боку краязнаўчых ячэек і раённых бюро краязнаўства ўвесь час паступалі запатрабаваньні аб забесьпячэньні іх програмна-інструкцыйнымі матар'яламі і конкрэтнымі заданьнямі па дасьледчай рабоце. ЦБК для ўсіх раённых бюро краязнаўства і для паасобных ячэек і брыгад былі даны конкрэтныя заданьні, выходзячы з агульных плянаў дасьледчае работы, асаблівасьцяў раёнаў і мясцовых сіл. Гэтыя заданьні ў асноўным зводзіліся да організацыі вывучэньня прыродных багацьцяў і экономікі раёнаў, прамысловасьці і соц. сельскай гаспадаркі, клясавай барацьбы, вывучэньня гісторыі фабрык і заводаў, гісторыі грамадзянскай вайны і культурнага будаўніцтва. Да ўсіх раённых організацый былі даведзены экспэдыцыі цэнтральных десьледчых устаноў, якія павінны праводзіцца ў 1932 г. у тых або іншых раёнах БССР (гл. газэту „Чырвоная Зьмена" № 133 і „Савецкую Краіну" № 5) з заклікам да ўсіх краязнаўчых організацый уключыцца ў гэтыя экспэдыцыі і дапамагчы ім у зьбіраньні патрэбных матар'ялаў. ЦБК у гэтым годзе ўключылася ва Ўсесаюзны дасьледчы паход за сыравінай для прамысловасьці другой пяцігодкі, які праводзіцца комсамолам і Цэнтральным саветам ТПТЭ; для краязнаўчых організацый ЦБК разам з Белгеаразьведкай і Геолёгічным інстытутам БАН былі распрацаваны спэцыяльныя заданьні і маршруты па дасьледчаму паходу (гл. „Савецкая Краіна" № 5). ЦБК прыняла ўдзел у Палескай экспэдыцыі, якая ў гэтым годзе праводзілася Ўсесаюзнай і Беларускай Акадэміямі Навук у палескіх раёнах БССР.

У галіне програмна-мэтодычнай работы ЦБК організавана ўкладаньне і выдана 12 програм і інструкцый на актуальных пытаньнях дасьледчай работы ў розных галінах соц. будаўніцтва: вывучэньню карысных выкапняў (друкуецца), лекавых і дзікарастучых расьлін, па вывучэньню заводаў і організацыі фабрычна-заводзкіх музэяў, па колгаснаму будаўніцтву, па вывучэньню культуры і быту і. г. д.

Выданы спэцыяльны зборнік програм і інструкцый. На вялікі жаль трэба адзначыць, што навукова-дасьледчыя ўстановы да апошняга часу аказвалі зусім недастатковую ўвагу і дапамогу краязнаўчым організацыям у справе мэтодычнага кіраўніцтва, распрацоўкі програм і інструкцый, організацыі мэтодычнай консультацыі па спэцыяльным пытаньням і г. д. У гэтых адносінах асаблівае значэньне набывае пастанова СНК БССР, якая абавязвае ўсе навукова-дасьледчыя ўстановы аказваць краязнаўчым організацыям сыстэматычную мэтодычную дапамогу.

Слабым участкам у рабоце ЦБК зьяўляецца разгортваньне школьнага краязнаўства. Ні ЦБК, ні органы народнае асьветы не змаглі да гэтага часу разгарнуць краязнаўчы рух у школах; у краязнаўчую работу вельмі слаба ўцягнута настаўніцтва, студэнцтва і вучні. Гэты прарыў на фронце школьнага краязнаўства павінен быць абавязкова ліквідаваным у бліжэйшы час з пачаткам новага навучальнага году.

ЦБК прымала ўдзел ва ўсіх важнейшых гаспадарча-політычных кампаніях і масавых мерапрыемствах БАН: правядзеньне месячніку штурму, выставак, організацыя дэкаднікаў БАН і інш. ЦБК даны ўказаньні мясцовым організацыям аб удзеле іх у трэцяй бальшавіцкай сяўбе і організацыйна-гаспадарчым умацаваньні колга-

саў, уборачнай кампаніі, напісаны спэцыяльныя артыкулы ў часопісах „Савецкая Краіна“, „Шляхі колектывізацыі“, прачытана 2 даклады па радыё. Аднак, з прычыны недастатковай і арганізацыйнай слабасьці краязнаўчай сеткі, краязнаўчыя арганізацыі не зарэкомэндавалі сябе як рэальная сіла ў правядзеньні гаспадарча-палітычных кампаній і ня выявілі належнае ініцыятывы, на што ў далейшай рабоце трэба зьвярнуць больш сур'ёзную ўвагу.

ЦБК прымае актыўны ўдзел у падрыхтоўцы да скліканьня і ў рабоце Усебеларускай нарады па навукова-дасьледчай рабоце ў другой пяцігодцы БССР, якая (нарада) была арганізавана БАН і Дзяржплянам.

У рабоце камісіі па масавай навукова-дасьледчай рабоце прымалі ўдзел усе работнікі ЦБК і раду раённых бюро краязнаўства, а пасьля заканчэньня работы была праведзена спэцыяльная нарада аб задачах краязнаўчай работы ў другой пяцігодцы. На месцы даны належныя ўказаньні РБК аб іх удзеле ў распрацоўцы раённых плянаў другой пяцігодкі і плянаў па разгортваньню краязнаўчага руху.

Выдавецкая работа ЦБК за першае паўгодзьдзе г. г. выявілася ў выданьні пяці нумароў часопісу „Савецкая Краіна“, зборніку програм і інструкцый, палажэньняў аб раённым бюро краязнаўства і краязнаўчай ячэйкі і пяці брошур.

У мэтах ажыцьцяўленьня задач, пастаўленых партыяй і ўрадам перад краязнаўчай організацыяй БССР і ў мэтах абмену соцыялістычнай практыкай у рабоце ЦБК выклікала і заключыла соцумову з ЦБК РСФСР і ЦБК Грузіі; усе работнікі ЦБК ўзялі на сябе ў парадку соцспаборніцтва і ўдарніцтва выкананьне конкрэтных абавязкаў. Трэба, аднак, адзначыць, што мэтоды соцспаборніцтва і ўдарніцтва ня сталі яшчэ асноўнымі мэтодамі работы краязнаўчых організацый БССР; соцспаборніцтва і ўдарніцтва на мясцох разгортваецца слаба. Барацьба за ўкараненьне соцыялістычных мэтодаў і ажыцьцяўленьне шасьці ўмоў т. Сталіна ў рабоце ўсіх краязнаўчых організацый—адна з галоўнейшых задач ЦБК.

Разгортваньне краязнаўчага руху ў БССР адбываецца ва ўмовах клясавае барацьбы на культурным фронце: яшчэ ня выкарчаваны канчаткова карэньні контррэволюцыйнага нацдэмократызму, „акадэмізму“, не ліквідавана яшчэ стаўка на самацёк у краязнаўчай рабоце, у шмат якіх краязнаўчых работах адсутнічае палітычная завостранасьць і бальшавіцкая пільнасьць. Перад ЦБК стаіць задача актыўна змагацца за генэральную лінію партыі ў краязнаўстве, за чыстату марксысцка-ленінскай мэтодолёгіі, супроць права (як найбольш небясьпечнага) і левага ўхілаў і індыфэрэнтных адносін да разгортваньня краязнаўчага руху. Трэба рашуча змагацца з „тэорыямі“, што краязнаўства толькі справа навуковых работнікаў і наогул работнікаў культурнага фронту. Дырэктывы партыі і пастановы СНК БССР аб мерапрыемствах па разгортваньню краязнаўчага руху—аднэй з цэнтральных задач у краязнаўчай рабоце ставяць іменна організацыю шырокай сеткі краязнаўчых ячэек на фабрыках і заводах, у колгасах і саўгасах і ўцягненьня ў краязнаўчую работу рабочых і колгасных мас. Барацьба за масавасьць у краязнаўчай рабоце, за шырокае разгортваньне і організацыйнае ўмацаваньне краязнаўчае сеткі—неадкладная задача. У сваёй пастанове ад 3/III г/г. аб становішчы на краязнаўчым фронце Прэзыдыум Комакадэміі адзначыў, што „асноўнай задачай краязнаўства ў барацьбе за генэральную лінію партыі на даным этапе зьяўляецца стварэньне масавых краязнаўчых аб'яднаньняў з рабочых і колгасьнікаў і накіраваньне ўсёй работы на справу соц. будаўніцтва і клясавай барацьбы пролетарыяту“. Трэба максымальна разгарнуць работу па стварэньню і вызываньню марксысцка-ленінскіх кадраў краязнаўства з рабочых і колгасных мас. Актыўнейшы ўдзел у распрацоўцы раённых плянаў другой пяцігодкі з боку ўсіх краязнаўчых організацый, масавае вывучэньне прыродных багацьцяў і экономікі кожнага раёну, уключэньне ў масавы дасьледчы паход за сыравінай для станкоў прамысловасьці другой пяцігодкі, у вывучэньне гісторыі грамадзянскай вайны і гісторыі заводаў, пашырэньне распрацоўкі програм дасьледчых работ, заключэньне дагавароў з гаспадарчымі ўстановамі па распрацоўцы проблем соцыялістычнага будаўніцтва, удзел краязнаўчых організацый ва ўсіх важнейшых гаспадарча-палітычных кампаніях і перавод усёй работы краязнаўных організацый на соцыялістычныя мэтоды—соцспаборніцтва і ўдарніцтва—і бязумоўнае выкананьне сваіх вытворчых плянаў—вось бліжэйшыя задачы, якія стаяць перад ЦБК і ўсімі раённымі бюро краязнаўства.

*В. С.*

## Чырвонаштандартны завод „Чырвоны мэталіст“

Матар'ялы брыгады рабочых у складзе: Навіцкага, Раганавінскага, Гарбачова, Асташэнка.

На месцы нашага заводу да Кастрычнікаўскае рэволюцыі існавалі вайсковыя казармы, у якіх быў разьмешчаны 100-ы

Астроўскі полк. У часе імпэрыялістычный войны ў гэтых казармах была організавана 5-я тылавая артылерыйская майстэрня Паўночнага фронту.

Пасьля Кастрычнікаўскае рэволюцыі ў гэтых самых казармах камітэтам па барацьбе з беспрацоўем была організавана майстэрня па рамонту абозу для Чырвонай арміі. Спачатку ў гэтай майстэрні было каля 300 чал. (а цяпер 1.200) рабочых і быў організаваны завадзкі камітэт і партыйная ячэйка. У 1920 г. майстэрня перабулавалася ў зьвязку з заканчэньнем грамадзянскае вайны і пачала вырабляць сельска-гаспадарчыя машыны: плугі, жняяркі, малатарні, веялкі і інш.

Казармы, якія раней былі месцам зьдзеку над рабочымі і сялянамі, апранутымі ў салдацкую вопратку, і падрыхтоўкі з іх „пушечного мяса", зусім былі не прыстасаваны і не адпавядалі ўмовам, якія патрэбны для нашага соцыялістычнага прадпрыемства і таму заводакіраўніцтвам разам з заводзкім камітэтам пад кіраўніцтвам і па ініцыятыве партячэйкі было пастаўлена пытаньне аб рэконструкцыі майстэрні ў завод з навейшай тэхнікай. Гэта рэконструкцыя пачалася з 1923 г. і скончылася ў 1927 г. За ўвесь гэты час мы ня спынялі вытворчасьці ні на адзін дзень і з посьпехам закончылі перавод нашай кустарнай работы на заводзкія маштабы з навейшымі дасягненьнямі тэхнікі.

Цяпер мы маем у заводзе свой ліцейны цэх, які зьяўляецца гонарам нашага заводу і выплаўляе ў дзень каля 30 т чыгуну.

З 1929 г. наш завод адзін з першых выклікаў на соцспаборніцтва іншыя прадпрыемствы і разгарнуў у сябе новыя соцыялістычныя формы працы — соцспаборніцтва і ўдарніцтва, якімі былі ахоплены амаль што ўсе рабочыя, адмпэрсонал і ІТР.

У зьвязку з пашыранымі тэмпамі колектывізацыі сельскай гаспадаркі наш завод таксама перабудаваў сваю работу і пераключыўся з вырабу сельска-гаспадарчых машын, разьлічаных на аднаасобнікаў, на выраб машын, якія патрэбны для колгаснай вытворчасьці, як напрыклад, бульбакапалкі, жмыхадрабілкі, кораняразкі, плугі „Эбэргарда" і г. д. Усе гэтыя машыны раней прывозіліся да нас з-за мяжы, на што дзяржава траціла значную колькасьць валюты, а цяпер пад кіраўніцтвам партколективу наш завод вырабляе іх сам і тым зьнішчае залежнасьць СССР ад капіталістычных дзяржаў. Цяпер у нашай вытворчасьці ёсьць значнае дасягненьне, галоўным чынам, ва аўладаньні тэхнікай новай вытворчасьці і ў падрыхтоўцы кваліфікаваных кадраў.

За гэтыя дасягненьні, якія былі вынікам сумленнага бальшавіцкага правядзеньня генэральнае лініі партыі, нашым заводам пад кіраўніцтвам партколективу заводу і дзякуючы шпаркаму і масаваму разгортваньню соцспаборніцтва і ўдарніцтва і непрымірымай барацьбы з усякімі правымі і левамі опортуністамі, рвачамі і лятунамі, наш завод узнагароджаны ЦВК БССР ордэнам „Чырвонага працоўнага сьцягу".

Рэдакцыя часопісу зьмяшчае ў хроніцы гэты матар'ял як першую спробу брыгады рабочых заводу „Чырвоны мэталіст" у Віцебску даць у часопіс апісаньне свайго прадпрыемства. Са свайго боку рэдакцыя і ЦБК у далейшым будуць сыстэматычна дапамагаць аўтаром гэтай заметкі (брыгадзе) у справе правядзеньня імі работы па многографічнаму апісаньню заводу. Рэдакцыя.

## Выяўляем мінэральную сыравіну ў Барысаўскім раёне

Каля м. Чарняўка Барысаўскага раёну ў $^3/_4$ км ад прыстані некалі (яшчэ ў часы прыгоннай гаспадаркі) існаваў завод па выплаўцы жалеза з жалезнай руды, якая здабывался, як сьведчаць старажылы і як гэта ўжо пацьвярджаецца часткова досьледамі, у раёне Чарняўкі, галоўным чынам па барагох р. Бабра. Атрадам Белгеоразьведкі (пры ўдзеле члена Беларускага савету Т-ва пролетарскага турызму) па левым беразе р. Бобр супроць в. Лаўніца выяўлены паклады жалезнай руды з магутнасьцю заляганьня пласту руды ў 30-50 см на глыбіні каля 10 см ад паверхні зямлі. Бязумоўна, тут трэба правесьці больш грунтоўныя і дэталёвыя досьледы, каб выявіць сапраўдныя запасы жалезнай руды.

На месцы былога чыгунналіцейнага заводу (каля Чарняўкі) засталіся яшчэ некаторыя гатовыя запасы жалезнай руды (у капцох). Колькасьць гэтых запасаў можна прыблізна вылічыць у 600 куб. м (мінімальна). Гэтыя капцы пакрыліся дзёрнам і пазарасталі хвоёвым лесам. Апрача таго тут-жа ў розных мясцох (па схілах, берагох ракі, па дарогах з Чарняўкі ў Азьдзяцічы, у Мурава, у Лаўніцу) ёсьць многа жужлы. Пытаньнем магчымасьцяў выкарыстаньня гэтае жужлы яшчэ ніхто не займаўся, а запасы яе досыць значныя (некалькі вагонаў).

Турыстычнай дасьледчай групай па р. Бярэзіне і яе ўтоках выяўлены: вівіяніты (па р. Рава, уток р. Бярэзіны), квар-

цавы пясок у раёне паселішча Белін (праўда забруджаны окісьсю жалеза), жалезная руда рознай якасьці, жалезны торф каля в. Глівін.

Узятыя ўзоры памянёных выкапняў перададзены жалезаруднай партыі Белгеоразьведкі для аналізаў і азначэньня парод.

На вялікі жаль, у дасьледваньне мінэральнай сыравіны вельмі слаба ўцягваюцца масы — комсамол, турысты, краязнаўцы, школы і г. д. Дасьледваньні прыродных багацьцяў у кожным раёне павінны стаць справай саміх працоўных мас. Раённыя організацыі павінны аддаць больш увагі справе дасьледваньня прыродных багацьцяў свайго раёну.

*В. С.*

## Консультацыя, адказы, парады

*Слабадзкі сельсавет, Любаньскі р Іл. Сысу.*

*Які ўдзел можа прыняць у краязнаўчай рабоце работнік сельсавету.*

Кожны колгасьнік, комсамолец, савецкі рабтнік у раёне можа прыняць актыўны ўдзел у краязнаўчай рабоце. Уцягненьні ў краязнаўчую работу работнікаў сельсавету асабліва пажадана. Сакратар сельсавету, напрыклад, непасрэдна і блізка зьвязаны з колгаснымі і бядняцка-серадняцкімі масамі, можа вельмі многа зрабіць у справе популярызацыі і організацыі краязнаўчай работы па зьбіраньню вестак аб карысных выкапнях у сваім сельсавеце і г. д. Вы, як сакратар сельсавету, можаце правесьці наступную краязнаўчую работу:

а) выявіць комсамольскі, колгасны і бядняцка-серадняцкі актыў, які можна ўцягнуць у краязнаўчую работу;

б) будучы ў колгасах свайго сельсавету, організаваць краязнаўчыя ячэйкі ў колгасах (паводле існуючага палажэньня);

в) праверыць і сабраць весткі аб карысных выкапнях свайго раёну (паводле анкет і інструкцый);

г) організаваць вывучэньне аднаго-двух колгасаў, практыка якіх можа быць перанесена ў другія колгасы;

д) наладзіць фэнолёгічныя назіраньні ў сельсавеце;

е) выявіць былых чырвонагвардзейцаў і чырвоных партызанаў, якія могуць даць багаты матар'ял для вывучэньня гісторыі грамадзянскай вайны (успаміны, докумэнты, фотоздымкі, адозвы і г. д.).

Матар'ялы па разгортваньню краязнаўчага руху, програмы і інструкцыі вам дасылаюцца.

## Дэкаднік БАН у Койданаўскім раёне

Згодна пастановы Прэзыдыуму БАН і Культпропу ЦК КП(б)Б у Койданаўскім раёне з 21 чэрвеня па 1 ліпня быў праведзены дэкаднік БАН.

Мэта дэкадніку была популярызаваць дасягненьні БАН у галіне навукі і тэхнікі сярод шырокіх працоўных мас Койданаўшчыны і мобілізаваць гэтыя масы на выкананьне дырэктыў партыі і ўраду, а таксама дапамога раёну ў яго нацыянальна-культурным будаўніцтве.

Дэкаднік БАН у Койданаве адрозьніўся ад дэкадніку БАН у Віцебску і Гомелі тым, што ён меў больш конкрэтны кірунак па дапамозе раёну ў яго соцыялістычным будаўніцтве.

Дэкаднік складаўся з наступных тэм:

1. Вырашэньне бялковай проблемы для жывёлы і мажлівасьці культуры соі ў БССР. (Даклад тав. Ганчарыка ў савгасе Фаніпаль, 19/VI).

2. Даклад аб рабоце Беларускай Акадэміі Навук і пэрспэктывах разьвіцьця навукова-дасьледчай работы ў другую пяцігодкі і садаклад аб рабоце Польсэктару БАН.

3. Другая пяцігодка БССР і пэрспэктывы разьвіцьця вытворчых сіл Койданаўшчыны, даклад тав. Бондара.

4. Экономічны крызіс у фашысцкай Польшчы і становішча працоўных мас. Даклад тав. Мятлы.

5. Глебавае акрыцьцё БССР і характарыстыка глебавага акрыцьця Койданаўшчыны. Даклад проф. Афанасьева.

6. Клясы і клясавая барацьба ў другую пяцігодку. Даклад тав. Левіна.

7. Ленін аб вайне і задачы абароны СССР. Даклад тав. Кобленца.

З гэтых дакладаў не адбыліся толькі два—тав. Горына аб рабоце Акадэміі Навук, які ня мог зрабіць дакладу ў зьвязку з яго ўдзелам у сэсіі Акадэміі Навук СССР, якая адбывалася на Урале і Сібіры, і тав. Бондара, які даклад не зрабіў па асабістых прычынах. Тав. Горына замяніў тав. Віткоўскі і тав. Серафімаў. Першы зрабіў даклад аб рабоце БАН і Польсэктару, а другі аб задачах навукова-дасьледчай работы ў другую пяцігодку. Даклад Бондара мяркуецца паставіць пасьля дэкадніку. Усе даклады выклікалі вялікую зацікаўленасьць працоўных раёну. Даклад тав. Ганчарыка адбыўся ў савгасе Фаніпаль, на ім прысутнічалі ўсе агро-зоотэхработнікі і рабочыя бліжэйшых колгасаў і фаніпальскай групы савгасаў. Тав. Ганчарык ня толькі зрабіў даклад, а і правёў конкрэтную работу на месцы, паказаўшы

як трэб- разводзіць сою ў мясцовых умовах і якая ад яе карысьць будзе для соцыялістычнай гаспадаркі.

Акадэмік Афанасьеў на працягу трох дзён дасьледваў разам з агро-культурнымі працаўнікамі раёну і дакладна ўстанавіў характар глебы ва ўсіх кутках раёну. Гэтыя досьледы даюць падставу райпрацаўнікам для больш мэтазгоднага разьмеркаваньня сельска-гаспадарчых культур раёну ў залежнасьці ад характару глебы і тым дапамагаюць колгаснаму будаўніцтву, даючы падставу для спэцыялізацыі колгасаў.

Даклад тав. Левіна аб клясавай барацьбе ў другой пяцігодцы выклікаў вялікую зацікаўленасьць аўдыторыі, у выніку чаго было падана каля 50 пытаньняў, на якія былі даны дакладныя адказы.

Гэты даклад дапамог раённаму партыйнаму савецкаму профсаюзнаму актыву падняць сваё тэорытычнае ўзбраеньне для барацьбы з клясавымі ворагамі і для барацьбы з варожа-клясавымі тэорыямі.

Тав. Мятла ў сваіх дакладах расказаў працоўным Койданаўшчыны аб прыгнечаньні працоўных мас Заходняе Беларусі і аб іх героічнай рэволюцыйна-нацыянальнай вызваленчай барацьбе супроць польскіх окупантаў і фашыстаў. Гэты даклад тав. Мятлы, які сам зьяўляўся актыўным удзельнікам рэволюцыйнай барацьбы ў Заходняй Беларусі, выклікаў уздым творчага энтузіязму ў працоўных масах Койданаўшчыны, у іх свабодным будаўніцтве сваёй нацыянальна-пролетарскай культуры і соцыялістычнай гаспадаркі.

Становішча Коўданаўскага раёну, як прыгранічнага, патрабуе ад усіх працоўных раёну асаблівай пільнасьці па ахове граніцы і ўвагі да пытаньняў абароны краіны.

Тав. Кобленц вельмі ўдала і цікава зрабіў свой даклад, перадаўшы погляды Энгельса, Маркса і Леніна аб вайне і дакладна расказаўшы пра ўсю падрыхтоўчую работу, якая вядзецца міжнародным імпэрыялізмам да інтэрвэнцыі супроць Савецкага саюзу. Апроч таго ён даў дакладныя паказаньні аб формах удзелу працоўных мас Койданаўскага раёну ў справе ўмацаваньня абароназдольнасьці Савецкай краіны.

Вялікую работу правёў тав. Серафімаў па популярызацыі работы БАН і задачах навукова-дасьледчай работы. Ім зроблены рад дакладаў і адзін з іх на настаўніцкай раённай конфэрэнцыі. Ва ўсіх гэтых дакладах растлумачана неабходнасьць уцягненьня ў навукова-дасьледчую работу мас рабочых, колгасьнікаў і працоўнай інтэлігенцыі. Тав. Серафімаў зрабіў належныя і конкрэтныя захады да організацыі навукова-дасьледчай работы раёну і організацыі раённага бюро краязнаўства і па вярбоўцы сталых корэспондэнтаў для „Савецкай Краіны".

*В. П.*

## У інстытутах і сэктарох БАН

Інстытут геолёгіі разгарнуў значную дасьледчую работу на Гомельшчыне для падрыхтоўкі да складаньня проектаў другой Дзяржаўнай раённай электрастанцыі ў БССР, пабудова якой мяркуецца ў другой пяцігодцы. Там ужо працуюць тры дасьледчыя партыі пад кіраўніцтвам тав. Артаева, Булыгі і Тараймовіча. Усяго будзе дасьледвана 5.400 кв. км. Апрача падрыхтоўкі да пабудовы электрастанцыі досьледы маюць мэтаю вывучэньне вод БССР і складаньне воднага кадастру. У бліжэйшы час будуць адпраўлены для гідра-геолёгічных досьледаў дзьве партыі ў Віцебшчыну і Полаччыну, дзьве партыі ў Магілеўшчыну і Палесьсе.

Інстытут гісторыі ўжо падрыхтаваў да друку два томы выданьняў „Клясавыя ворагі на гістарычным фронце БССР". Рыхтуецца да друку зборнік гістарычных матар'ялаў „15 год Кастрычніка ў БССР". Падрыхтаваны і здаецца ў друк падручнік па гісторыі Беларусі і кніжка „Гісторыя рэволюцыйнага руху на Койданаўшчыне". Інстытут гісторыі распачаў вельмі карысную работу па ахове культурных помнікаў старасьветчыны. Гэта работа ў сучасны момант набывае вялікае значэньне ў зьвязку з тым, што ў многіх раёнах за апошнія часы наглядаецца разбурэньне музэяў, старасьвецкіх будынкаў, крэпасных насыпаў (валоў) і г. д. Інстытут мяркуе паставіць пытаньне перад урадам аб стварэньні пастаяннай камісіі па ахове гэтых помнікаў і падтрыманьні іх у належным выглядзе. Пры Ін-це створаны сакратарыят рэдакцыі па складаньню гісторыі фабрык і заводаў у адпаведнасьці з пастановай ЦК УсеКП(б) і адозвай Максіма Горкага. Трэба адзначыць, што ў БССР гэтая работа яшчэ не разгорнута і створаны сакратарыят пры Ін-це ўжо прыступіў да складаньня програмы па напісаньню гісторыі фабрык і заводаў, намеціў рад фабрык і заводаў, гісторыя якіх павінна быць напісана ў першую чаргу. Сакратарыят рэдакцыі гісторыі фабрык і заводаў трымае цесную сувязь з ЦБК і Масавым сэктарам па разгортваньню масавай работы вакол гэтага пытаньня і ўцягненьню рабочых у гэтую работу.

Літоўскі сэктар падрыхтаваў да друку: „63 год на Літве“ і „Люксэмбургіянства ў рабочым руху Літвы“. Заканчваецца праца па складаньню беларуска-літоўскага слоўніку па тэрмінолёгіі, якая ўжываецца ў нашым соцыялістычным будаўніцтве і якой няма ў буржуазнай мове, але якая патрэбна пролетарыяту.

Літсэктар організуе экспэдыцыю ў літоўскі нацыянальны Малькаўскі сельсавет Чавускага раёну для ўсебаковага вывучэньня колгаснага будаўніцтва ў гэтым сельсьвеце і для дапамогі яму ў культурным і соцыялістычным будаўніцтве.

Польсэктар здае ў друк: „Польска-беларускі слоўнік“, програмы і падручнік па гісторыі Польшчы, апрача таго праводзіцца работа па апісаньню нацыянальных польскіх колгасаў у БССР з мэтаю дапамагчы ім у нацыянальна-культурным будаўніцтве і організацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасу.

Інстытут мовы апошні час працуе выключна над беларускім слоўнікам і ўжо падрыхтавана да друку 2 томы.

Інтытут біолёгіі праводзіць значную работу па разьвіцьцю культуры соі ў БССР. Усяго засеяна ў 1932 г. пад спробныя досьледы над сояй 134 га ў 18 пунктах. Апрача Біолёгічнага інстытуту досьледы над сояй робіць яшчэ Сьвінаводны інстытут, Тураўская дасьледчая станцыя, сэлекцыйная станцыя, але ўсе яны працуюць пад кіраўніцтвам Біолёгічнага інстытуту. Апрача гэтых навукова-дасьледчых організацый заложаны дасьледчыя ўчасткі пад сою ў школах, саўгасах і колгасах каля 20 штук. Дасьледы вядуцца ў кірунку:

а) Вывучэньне соі як сілосу і як выпасу для жывёлы (эфэктыўнасьць выпасу і сілосу соі ў параўнаньні з іншымі кармовымі культурамі, як рэпа, турнэпс і інш.);

б) уплыў розных угнаеньняў на якасьць соевых кармоў і продуктаў;

в) гаспадарчыя пасевы соі ў розных варыянтах мяшанкі з іншымі культурамі;

г) формы і тэрміны пасеву соі і нормы высеўкі;

д) шкоднікі соі.

Усёй правадзімай рабоце па досьледах над сояй вядзецца Ін-там сталы ўчот, на падставе якога будуць выданы да 1/XII г. г. вынікі разьвіцьця культуры соі ў БССР у 1932 г.

Для рэдакцыі гэтага выданьня створана камісія пад кіраўніцтвам тав. Ганчарыка.

У сучасны момант працуюць дзьве экспэдыцыі Біолёгічнага ін-ту—адна ў савгасе „Пабеда соцыялізму“, пад кіраўніцтвам тав. Сяргеевай, па вывучэньню шкоднікаў малочнай жывёлагадоўлі, а другая ў Бабруйскім раёне па вывучэньню глістоў у жывёлы і чалавека і мер барацьбы з імі.

Інстытутам організуецца вельмі карысная экспэдыцыя пад кіраўніцтвах тав. Дарожкіна па вывучэньню каранцінных хвароб бульбы.

У экспэдыцыі ўцягнута, апрача працаўнікоў Ін-ту, 30 чал. аграномаў, студэнтаў і інш. і будуць прыцягнуты па месцы работы колгасьнікі і рабочыя савгасаў і мясцовыя спэцыялісты.

Экспэдыцыя ахопіць 30 раёнаў БССР і выедзе для работы ў канцы ліпня гэтага году. Мэта гэтага вывучэньня выявіць усе тыя хваробы бульбы, якія маюцца ў кожным раёне, каб не дапусьціць у будучым пераноскі гэтых хвароб з аднаго раёну ў другі.

Інстытут асьпірантуры ўтварыў датэрміновы выпуск асьпірантаў, у які выпушчана 10 таварышоў—дастаткова падрыхтаваных лепшых ударнікаў, якія перайшлі на самастойную навуковую работу. Цяпер у Ін-це перапынак у вучобе да 1 верасьня, да якога часу павінен быць закончаны прыём новых асьпірантаў. Ужо падана каля 40 заяў ад рабочых і ІТР.

*В. П.*

## Соцспаборніцтва ў краязнаўчых організацыях на вышэйшую ступень

Соцспаборніцтва паміж асобнымі краязнаўчымі організацыямі ў 1932 годзе значна колькасна ўзрасло. ЦБК БССР ад імя ўсіх краязнаўчых організацый заключыў умовы соцспаборніцтва з ЦБК РСФСР, УССР і выклікаў ЦБК Туркменіі і Грузіі. Вынікі гэтага спаборніцтва за 1931 г. падлічаны (Общество марксистов-краеведов при Комакадемии) і зьмешчаны ў „Савецкай Краіне“ № 4 за 1932 г.

Раённыя краязнаўцы БССР таксама спаборнічаюць паміж сабой (Крычыў з Клімавічамі, Мсьціслаў з Воршай і Чавусамі, Веткі з Чачэрскам і г. д.), але гэта спаборніцтва яшчэ ня мае належнае ўвагі з боку кіруючых працаўнікоў раёну. У большасьці раёнаў яшчэ няма дагавароў на соцспаборніцтва, а ёсьць толькі выклікі і адказы аб прыняцьці гэтых выклікаў, інакш кажучы, ёсьць толькі агульныя разважаньні, а няма конкрэтных абавязацельстваў, на выкананьне якіх была організавана мобілізацыя краязнаўчай грамадзкасьці раёну. Напрыклад, Кліма-

віцкая раённая конфэрэнцыя настаўнікаў прыняла выклік Крычаўскага раёну аб спаборніцтве на лепшае разгортваньне краязнаўчае работы ў раёне і ўжо арганізавала раённае оргбюро краязнаўства і каля 17 ячэек у школах, савгасах і калгасах, а Крычаў, які паслаў выклік, аб сваёй рабоце маўчыць, мабыць і работа там маўчыць. Але ні Крычаўскі раён, ні Клімавіцкі ніякіх умоў і абавязацельстваў па соцспаборніцтву адзін другому ня высунулі і пагэтаму іх спаборніцтва ня будзе мець конкрэтнага кірунку. Патрэбна, каб зараз-жа былі складзены соцумовы ўсімі раёнамі, якія соцспаборнічаюць і каб гэтыя ўмовы былі праграмаю работы па ажыцьцяўленьню 6 ўмоў тав. Сталіна ў краязнаўчай рабоце. У гэтых умовах неабходна вызначыць аб'ём работы, час, у які яна павінна быць выканана і хто яе выконвае.

Вельмі важнае значэньне мае паказаньне прозьвішчаў тых таварышоў, дзякуючы ўдарніцкай рабоце якіх былі дасягненьні ў разгортваньні краязнаўства і тых, па чыёй віне работа зрывалася, якія зьяўляліся ілжэўдарнікамі. Патрэбна, каб раёны ведалі як лепшых ударнікаў, з якімі яны спаборнічаюць, так і ілжэўдарнікаў. Абавязкова патрэбна гэтыя пытаньні асьвятляць у друку, галоўным чынам, у „Савецкай Краіне“.

Пэрыодычная праверка выкананьня прынятых умоў абавязкова, бо бяз сталай праверкі і самакрытыкі ўсяго таго, што мы робім, ня можа быць і сталага выкананьня плянаў нашай работы і абавязацельстваў па соцумове. Канечна патрэбна, каб раёны наладзілі ўзаемную інформацыю аб ходзе соцспаборніцтва як непасрэдна адзін з другім, так і праз „Савецкую Краіну“.

*В. П.*

## Раённаму бюро краязнаўства

Шпаркія тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва патрабуюць адшуканьня новых сыравінных крыніц. Адным з каштоўнейшых новых відаў сыравіны зьяўляюцца вадаросты (водоросли). Сотні і тысячы тон вадаростаў дагэтуль заставаліся нескарыстанымі, прападалі, між тым, як гэты від сыравіны можа прынесьці значную карысьць для прамысловасьці.

Вадаросты скарыстоўваюцца як сыравіна ў вальляна-лямцовай, папяровай прамысловасьці, а таксама для загатаўленьня будаўнічага лямцу, тэрматар'ялаў (ізоляцыйных) і паперы.

Загатоўка вадаростаў робіцца ў сэзонны час—з 1 чэрвеня да надыходу замаразкаў,—пагэтаму трэба зараз-жа ўзяцца за загатоўку гэтага віду сыравіны, каб ня ўпусьціць час збору.

Пры гэтым прыкладаецца кароткая інструкцыя аб зборы, прасушцы, хаваньні і адгрузцы, якой трэба кіравацца пры загатоўцы вадаростаў.

Вам трэба правесьці абсьледваньне і сабраць весткі аб месцазнаходжаньні і запасах вадаростаў, а таксама арганізаваць збор. На збор вадаростаў неабходна заключаць дагавары з загат. пунктамі Саюзуцілю, а там, дзе іх няма—з коопэрацыйнымі організацыямі.

Усе весткі неабходна накіроўваць у ЦБК.

*ЦБК і Саюзуціль.*

## Кароткая інструкцыя па загатоўцы і зборы вадаростаў

Па нарыхтоўцы і адгрузцы вадаростаў (твані) прыгодных для папяровай прамысловасьці і апрацоўцы тэрматар'ялаў (ізоляцыйных).

1. Вадаросты (твань) размнажаецца ў вялікай колькасьці ў брудных глыбокіх вазёрах, рэчках і ў нізкіх мясцох поймавых лугоў, утвораючы на лугох пасьля спаду вады лямец зялёнага, а іншы раз зеленаватага ці жаўтавата-белага і бурага колеру і некаторая частка вадаростаў застаецца ў вадзе і расьце ў ёй далей, застаючыся ў выглядзе тонкай травы, або валос зялёнага колеру.

2. Тэрмін збору неадкладна пасьля спаду вады, прыкладам з 1 чэрвеня да замаразкаў.

3. Вадаросты, якія зьбіраюцца з лугоў у сонечную ясную пагоду, бываюць заўсёды дастаткова прасушаны, а вынутыя з вады павінны застацца на беразе для прасушкі, якая цягнецца 2-3 дні.

Вадарост паветранай сушкі, калі сьціснуць яго ў руцэ, хрусьціць, шамаціць, нормальны процант вільготнасьці 10-12.

4. Вадаросты павінны падзяляцца на 2 сарты; першы сорт—адкладаецца на лугох у выглядзе шэрсьці сьветла-жоўтага і белавата-залёнага колеру; другі сорт— а) таксма адкладаецца ў выглядзе лямцу, накрытага зьверху тонкай шэрай паперай, а зьнізу мае цёмна-сіні колер; б) вадаросты, здабытыя з вады, маюць выгляд тонкай травы або валос зялёнага колеру.

5. Збор вадаростаў прапануецца рабіць звычайнымі граблямі або віламі.

6. Сабраныя і высушаныя вадаросты трэба абтрэсьці ад кавалкаў гразі, пяску

і іншага сьмецьця, пасля чаго вадаросты прасуюцца, першы асобна, другі асобна, звычайным сенам або трапічным прэсам бяз тары, перавязваюцца дротам або мачальнай вяроўкай у 3-4 вязкі.

Усе кіпы спрасаваных вадаростаў не павінны перавышаць 70 кг.

7. Пагрузка можа рабіцца на адкрытых пляцформах, бо вадаросты ў пажарных адносінах параўнаўча бясьпечныя і ад дажджу ня псуюцца, але з прычыны таго, што маюць здольнасьць убіраць многа вады, прапануецца пакрываць іх брэзэнтам.

---

Выдавец—**Беларуская Акадэмія Навук.**



Друкарня БАН. Заказ № 841. Галоўлітбел № 994. Тыр. 1300 экз. $6^1/_2$ арк.